ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# САВЕЦКАЯ КРАІНА



ЛІСТАПАД

№ 11 (13)

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

1931

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*



# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДРУГІ

**Лістапад**

№ 11 (13)

МЕНСК — 1931

Ф. П. Садоўскі

# Задачы краязнаўчых організацый у сувязі з пастановамі аб'яднанага лістападаўскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б

Адбыўшыйся ў лістападзе аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б разглядаў наступныя асноўныя пытаньні:

1) Аб рабоце МББ, Заходніх чыгунак і воднага транспорту і рэалізацыі дырэктыў ЦК УсеКП(б).
2) Аб рабоце Днепра-Дзьвінскага рэчнага транспорту.
3) Аб разьвіцьці социялістычнай жывёлагадоўлі ў БССР і
4) Аб ходзе загатовак.

Як відаць з прыведзенага, аб'яднаны лістападаўскі пленум разглядаў асноўныя вузлавыя пытаньні соцыялістычнага будаўніцтва на даным этапе, — этапе завяршэньня пабудовы фундамэнту соцыялістычнае экономікі СССР, этапе ўступленьня ў пэрыод соцыялізму. Гэтымі вузлавымі пытаньнямі, як відаць з прыведзенай павесткі пленуму, зьяўляецца соцыялістычная рэконструкцыя і поўнае наладжваньне работы транспорту ўсіх відаў і асабліва чыгуначнага і воднага, ход соцыялістычнага разьвіцьця жывёлагадоўлі і ход выкананьня важнейшых гаспадарча-палітычных кампаній, як загатоўкі і інш.

Што гэтая група пытаньняў зараз зьяўляецца актуальнай, стаячай у самым асяродку ўвагі партыі і ўраду, можна бачыць з наступнага. Прамысловасьць Савецкага саюзу на базе соцыялістычнае яе рэконструкцыі дасягнула нябачаных у сьвеце за ўсе часы гісторыі тэмпаў свайго разьвіцьця, давёўшы перавагу соцыялістычнага шляху разьвіцьця перад капіталістычным. Неабходнасьць далейшага шпаркага разьвіцьця індустрыі патрабуе разьвіцьця ў належных тэмпах і іншых галін народнай гаспадаркі, у прыватнасьці і асабліва транспорту і сельскай гаспадаркі. Соцыялістычны шлях рэконструкцыі сельскай гаспадаркі на даным адрэзку часу мае асноўнай сваёй задачай організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, пасьпяховае вырашэньне гэтай задачы дасьць усе магчымасьці для належнага разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў далейшым, каб быць для прамысловасьці і сыравіннай базай і базай сродкаў існаваньня пролетарскіх мас, мас колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкай часткі аднаасобнікаў.

Вось чаму лістападаўскі аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б такую значную ўвагу аддаў пытаньню разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі і ходу загатовак.

Для БССР, як краіны ў асноўным жывёлагадоўчага кірунку, пытаньне разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі мае выключнае

значэньне. Асабліва-ж важнае значэньне для неабходных нам тэмпаў соцыялістычнага разьвіцьця СССР у далейшым мае транспорт. Правільна наладжаная і організаваная работа транспорту спрыяе магутнаму далейшаму разьвіцьцю нашай краіны па шляху соцыялізму і наадварот,—неналаджанасьць работы транспорту, непаладкі на транспорце, якія шкодзяць яго нормальнай рабоце, становяцца сур'ёзным тормазам далейшага пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва краіны.

Сучасны стан чыгуначнага і воднага транспорту СССР і БССР, ня гледзячы на рад буйных і відавочных посьпехаў, мае ў сваёй рабоце такія сур'ёзныя хібы і непаладкі, якія ствараюць пагрозу патрэбнаму далейшаму разьвіцьцю нашай краіны па шляху да соцыялізму. Гэта відаць з тэй характарыстыкі, якую дае транспорту аб'яднаны лістападаўскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б. Вось гэтая характарыстыка: „пры наяўнасьці некаторых нязначных палепшаньняў у рабоце чыгунак, важнейшыя пастановы ЦК УсеКП(б) яшчэ ня выканаваны і работа чыгунак застаецца нездавальняючай.

1. Спараная язда на паравозах праводзіцца яшчэ формальна, адсутнічае сапраўды бальшавіцкая барацьба са зрывамі спаранай язды і прычынамі, якія іх выклікаюць...

2. Ліквідацыя абязьлічкі ў вагонным парку праводзіцца недапушчальна слабым тэмпам... ствараецца простая пагроза невыкананьня загаду т. Андрэева аб ліквідацыі абязьлічкі вагонаў у вызначаны тэрмін...

3. Процант хворых паравозаў і вагонаў застаецца яшчэ высокім...

4. У эксплёатацыйнай рабоце транспорту не вядзецца рашучая барацьба з коснасьцю і непаваротлівасьцю, з опортуністычным самацёкам... у выніку эксплёатацыйная работа ва ўсіх раёнах БССР зьяўляецца яўна нездавальняючай...

5. Асабліва недапушчальнай аб'яднаны пленум лічыць зацяжку і нерашучасьць у правядзеньні пастановы партыі аб організацыі працы і ліквідацыі „лявацкай“ ураўнілаўкі ў заработнай плаце...

6. Становішча працоўнай дысцыпліны ўсё яшчэ застаецца нездавальняючым. Гаспадарчыя, профсаюзныя і партыйныя організацыі не вядуць належнай барацьбы з парушэньнямі працоўнай дысцыпліны. Слаба праводзіцца прэм'яваньне лепшых ударнікаў... няма рэгулярнай і настойлівай праверкі выкананьня...

7. Гаспадарчы разрахунак, як асноўны вагар правільнай організацыі гаспадаркі, і скарыстаньне ўнутраных рэсурсаў па ўсіх раёнах і асобных гаспадарчых зьвеньнях фактычна адсутнічае...

8. Транспортная коопэрацыя яшчэ не спраўляецца з ускладзенай на яе задачай па бесьперабойнаму забесьпячэньню рабочых...

9. Нездавальняючае становішча жыльлёвых і бытавых умоў рабочых-чыгуначнікаў ва ўсіх раёнах...

10. З боку кліентуры маюць месца яшчэ да гэтага часу безадказныя адносіны да скарыстаньня транспорту (несваечасовыя і няправільныя заяўкі, затрыманьне вагонаў пад пагрузкай і выгрузкай, сустрэчныя перавозкі)...

11. Профсаюзныя організацыі на транспорце яшчэ не дабіліся сапраўднай мобілізацыі рабочых мас на выкананьне асноўных вытворчых задач, на ўзмацненьне працоўнай дысцыпліны, па далейшаму разгортваньню соцспаборніцтва і ўдарніцтва, па падняцьцю іх на вышэйшую ступень, ня выявілі належнай настойлівасьці ў ліквідацыі ўраўнілаўкі ў заработнай плаце...

12. У радзе выпадкаў комуністы і асобныя парторганізацыі не ажыцьцяўляюць кіруючай авангарднай ролі на вытворчасьці...

13. ...наяўнасьць шматлікіх абсьледваньняў на транспорце і часты адрыў вялікай колькасьці работнікаў ад опэрацыйнай работы...

14. ...не даволі цьвёрда праводзіцца адзінаначальле...

15. ...з боку тэрыторыяльных парткомаў да апошняга часу кіраўніцтва ў большасьці выпадкаў застаецца павярхоўным, не конкрэтным...“

Адзначаючы гэтыя конкрэтныя буйнейшыя недахопы ў рабоце чыгуначнага транспорту, аб‘яднаны лістападаўскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б даў конкрэтныя дырэктывы ўсім парторганізацыям аб паляпшэньні работы транспорту, аб ліквідацыі як найхутчэй указаных вышэй недахопаў і па кожнаму пункту недахопаў паказаў конкрэтныя шляхі ліквідацыі недахопаў у рабоце транспорту.

Пастановы аб‘яднанага пленуму зьяўляюцца ў скупнасьці сваёй баявою і разгорнутаю програмаю барацьбы шырокіх рабочых мас за социялістычны траспорт, за тое, каб яго разьвіцьцё ішло нараўне з тэмпамі агульнага социялістычнага разьвіцьця Савецкага саюзу.

Пастановы пленуму ставяць рад неадкладнейшых задач і перад краязнаўчымі організацыямі БССР, асноўная задача якіх і зьяўляецца ў тым, каб уцягнуць шырокія рабочыя масы ў социялістычнае будаўніцтва шляхам усебаковага вывучэньня прычын непаладак і недахопаў і вызначэньня для правядзеньня конкрэтных мерапрыемстваў, накіраваных на зьнішчэньне недахопаў і на наладжваньне работы транспорту.

Конкрэтнымі задачамі краязнаўчых організацый, накіраванымі на выкананьне пастаноў аб‘яднанага пленуму, зьяўляюцца:

1) Організацыя краязнаўчых ячэек ва ўсіх зьвеньнях транспорту і на ўсіх прадпрыемствах, вызначэньне плянаў работы гэтых ячэек з вызначэньнем конкрэтных об‘ектаў і конкрэтных тэм, падлягаючых вывучэньню.

2) Уключэньне краязнаўчых бюро і ячэек у актыўную работу на транспорце з мэтай дапамогі шырокім масам транспартнікаў выканаць дырэктывы аб‘яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б. Конкрэтны зьмест работы краязнаўчых ячэек на транспоце павінен заключацца ў тым, каб організаваць шырокае і масавае ўсебаковае вывучэньне вытворчасьці на транспорце і тых недахопаў, якія мяшаюць хутчэйшаму ажыцьцяўленьню на транспорце спаранай язды, ліквідацыі абязьлічкі, ураўнілаўкі, ажыцьцяўленьню на транспорце 6 ўмоў т. Сталіна.

3) У плян работы краязнаўчых ячэек на транспорце павінны ўвайсьці таксама вывучэньне паравоза, вагона, як павялічыць работу паравоза і вагона згодна дырэктыў аб‘яднанага пленуму; абавязкова патрэбна вывучэньне работы станцый, дыспэтчэрскага апарату службы шляху, цягі, дэпо; вывучэньне як найбольш мэтазгодна організаваць работу гэтых зьвеньняў транспорту.

4) Значную ўвагу краязнаўчыя ячэйкі павінны ўдзяліць справе рацыяналізацыі ўсіх бакоў працы транспорту, вынаходніцтва і інш.

5) Способы аплаты працы, перавага прэміяльна-зьдзельнай аплаты перад ураўнілаўкай павінны быць паказаны шырокім масам транспортнікаў з усёй відавочнасьцю.

6) Краязнаўчыя організацыі на транспорце конкрэтным зьместам сваёй работы павінны ўзяць і вывучэньне мобілізацыі ўнутраных рэсурсаў транспорту.

7) Справа соцспаборніцтва і ўдарніцтва на транспорце, іх конкрэтныя дадатныя вынікі павінны быць паказаны таксама транспорт-

нікам, для чаго краязнаўчыя організацыі павінны заняцца іх вывучэньнем.

Вывучыўшы дасканала і ўсебакова вытворчасьць транспорту, недахопы на транспорце, краязнаўчыя організацыі, разам з партыйнымі і профэсіянальнымі організацыямі на транспорце, павінны намеціць конкрэтную програму, выкананьне якой дасьць значныя паляпшэньні работы транспорту і прывядзе да выкананьня пастаноў аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б.

Прыкладна гэткія-ж задачы стаяць перад краязнаўчымі організацыямі і на водным тронспорце БССР. Пастанова пленуму аб Днепра-Дзьвінскім рэчным транспорце таксама зьяўляецца баявою і разгорнутаю програмаю работы ўсіх організацый, у тым ліку і краязнаўчых, на рэчным транспорце. Конкрэтныя тэмы для вывучэньня краязнаўчыя організацыі знойдуць у кожным пункце пастаноў пленуму па гэтаму пытаньню. Наогул-жа задачы краязнаўчых організацый на водным транспорце заключаюцца ў організацыі ўсебаковага вывучэньня воднага транспорту і вызначэньні тых мерапрыемстваў, выкананьне якіх прывядзе да значнага паляпшэньня працы воднага транспорту.

Ня меншую ўвагу ўсе краязнаўчыя організацыі павінны ўдзяліць і справе выкананьня пастаноў аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б па пытаньню „аб разьвіцьці социялістычнай жывёлагадоўлі ў БССР". Тут раённыя бюро краязнаўства павінны аддаць максымум увагі справе організацыі краязнаўчых ячэек у жывёлагадоўчых савгасах, колгасах, малочна-таварных фэрмах і сьвінаводча-таварных фэрмах.

Конкрэтнымі-ж задачамі краязнаўчых ячэек у галіне социялістычнай жывёлагадоўлі зьяўляюцца задачы:

1) Вывучэньне падрыхтоўкі ўсіх даных для выкананьня вызначаных на 1931 год плянаў жывёлагадоўлі і для складаньня плянаў на 1932 год і ўдзел у выкананьні і складаньні гэтых плянаў.

2) Мобілізацыя шырокіх мас рабочых савгасаў, МТС, колгасьнікаў, бядняцтва і серадняцтва—аднаасобнікаў на разьвіцьцё социялістычнай жывёлагадоўлі, на барацьбу з непаладкамі і недахопамі ў ёй і на зьнішчэньне гэтых недахопаў.

3) Вывучэньне, якімі найлепшымі і адпавядаючымі пародамі ўкомплектаваць пагалоўе савгасаў і колгасаў, малочна-таварных фэрмаў, сьвінаводча-таварных фэрмаў, як найлепш організаваць барацбу з ялавасьцю жывёлы, вывучыць прычыны вялікага проценту ялавасьці і вызначыць меры яе зжываньня. Вывучэньне, які найлепшы від жывёлагадоўчай гаспадаркі падыходзіць да пэўнага раёну, вывучэньне кармавое проблемы і шляхоў хутчэйшага і найлепшага яе вырашэньня.

4) Ня менш важную ролю адыгрываюць і задачы вывучэньня мэханізацыі процэсаў у социялістычнай жывёлагадоўлі, рацыяналізатарскіх мер у гэтай галіне (мэханізацыя даеньня, дастаўкі, прыгатаваньня і падачы кармоў, вады і інш.).

5) Значную ўвагу краязнаўчыя організацыі павінны аддаць вывучэньню пытаньняў прычыны страт у жывёлагадоўлі і што трэба зрабіць, каб паменшыць гэтыя страты.

6) Будаўніцтва кароўнікаў, сьвінарнікаў і інш. опэрацыйных будынкаў у галіне жывёлагадоўлі, вывучэньне найлепшых тыпаў будынкаў, вышуканьне і досьледы мясцовых будаўнічых матар'ялаў для гэтых будынкаў—таксама зьяўляецца важным у конкрэтнай рабоце краязнаўчых організацый і павінна заняць належнае месца.

7) Краязнаўчыя арганізацыі павінны паставіць перад сабою задачу вывучэньня пароднага раёнаваньня БССР, мэтызацыі, пагалоўя, прычын эпізоотыі і мер барацьбы з апошняй.

Вывучэньне пастаўленых перад краязнаўчымі арганізацыямі задач, якія выцякаюць з пастаноў аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б, павінна грунтавацца на мэтодах социялістычнай працы—соцспаборніцтве і ўдарніцтве паміж краязнаўчымі ячэйкамі.

Як бачым ужо толькі з прыведзенага кароткага пераліку асноўных пытаньняў, краязнаўчыя арганізацыі і ячэйкі знойдуць для сябе вялізны і ўдзячны матар'ял для работы, каб мобілізаваць вакол распрацоўкі яго шырокія масы рабочых і колгасьнікаў і такім чынам яшчэ больш уцягнуць іх у непасрэднае социялістычнае будаўніцтва.

У справе хутчэйшага выкананьня пастаноў аб'яднанага лістападаўскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б па пытаньню „Аб ходзе загатовак", асноўная ўвага краязнаўчых арганізацый БССР павінна концэнтравацца на наступным. Змагацца з самацёкам і намеціць меры найлепшай арганізацыі справы загатовак у сваім раёне, выходзячы з дырэктыў наконт гэтага партыі і ўраду. Вывучыць способы супраціўленьня кулацкіх элемэнтаў справе загатовак з тым, каб намеціць і павесьці рашучую барацьбу з недабітым яшчэ кулаком. Намеціць тэмы для вывучэньня краязнаўчымі ячэйкамі спосабаў падвышэньня таварнасьці ў колгсах, саўгасах і ў бядняцка-серадняцкай частцы аднаасобнікаў. Вывучыць і намеціць способы і шляхі арганізацыі на месцы перапрацоўкі тэхнічных культур. Заняцца вывучэньнем знойдзеных і адшуканьнем новых відаў расьлін і продуктаў сельскай гаспадаркі для экспорту. Вывучыць конкрэтны ўплыў прамысловасьці на сельскую гаспадарку па дагаворах контрактацыі, устанавіць характар скажэньняў у контрактацыі і намеціць конкрэтныя меры барацьбы з гэтымі скажэньнямі. Вывучыць прычыны дрэннай якасьці продукцыі, якая здаецца па загатоўках і намеціць способы і шляхі павышэньня і палепшаньня якасьці гэтае продукцыі.

Вось у асноўным тыя грунтоўнейшыя задачы, якія неадкладна павінны паставіць перад сабою для вырашэньня краязнаўчыя арганізацыі БССР для таго, каб дапамагчы і мобілізаваць масы на выкананьне пастаноў аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б і каб запоўніць зьмест сваёй работы сапраўды актуальнымі задачамі.

Работу сваю па выкананьню і ажыцьцяўленьню пастаноў пленуму, па распрацоўцы намечанай у гэтым кароткім артыкуле тэматыкі, краязнаўчыя арганізацыі павінны пабудаваць паводле мэтоду соцспаборніцтва і ўдарніцтва паміж сабой.

Об'ектамі соцспаборніцтва і ўдарніцтва павінны быць:

1) Спаборніцтва на арганізацыю большай колькасьці краязнаўчых ячэек на транспорце, у жывёлагадоўчых саўгасах, МТС, у колгасах, малочна-таварных фэрмах і сьвінаводча-таварных фэрмах.

2) На лепшае складаньне плянаў конкрэтнай работы, вызначэньне тэматыкі, накіраванай на ажыцьцяўленьне пастаноў аб'яднанага лістападаўскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б.

3) На больш дэталёвую і своечасовую распрацоўку тэм, вызначаных па пляну, на брыгадны спосаб распрацоўкі тэм, на больш шырокае ўцягненьне мас рабочых у распрацоўку вызначаных тэм.

---

**В. Шчарбакоў**

# Камітэты беднаты на Беларусі ў 1918 годзе

Усім нам добра вядома тая роля, якую адыграла і адыгрывае зараз вясковая бедната ў вёсцы ў справе колектывізацыі сельскае гаспадаркі, у ліквідацыі кулацтва, як клясы, у цэлым радзе гаспадарча-палітычных кампаній, якія праводзяцца нашай партыяй і савецкаю ўладаю; многія з нас добра памятаюць і аб тых заслугах вясковай беднаты і батрацтва, якія яны маюць у нашай рэволюцыі ў барацьбе з бандытызмам, у організацыі Чырвонай арміі, у барацьбе з унутранай і па-замежнай контррэволюцыяй. Аб гэтых заслугах вясковай беднаты ва ўсіх гэтых галінах ці можна забыць. Аб іх пролетарыят і савецкая ўлада ніколі не забудуць.

На працягу ўсіх 14 год, прайшоўшых з моманту Кастрычнікаўскага перавароту, вясковая бедната зьяўлялася моцнай апорай савецкай улады ў вёсцы. Аб усім гэтым шырокія масы працоўных нашай краіны добра памятаюць і ведаюць.

Але ня ўсе аднак-жа сярод нас памятуюць аб тэй вялізарнай ролі, якую адыгралі спэцыяльныя організацыі гэтай вясковай беднаты—камітэты беднаты ў грамадзянскай вайне, аб тых заслугах, якія гэтыя апошнія маюць у справе правядзеньня соцыялістычнай рэволюцыі ў вёсцы, у барацьбе супроць кулацтва ў Кастрычнікавай рэволюцыі і пасьля яе ў вырашэньні харчовага пытаньня ў той час, у організацыі савецкай улады ў вёсцы, у прыцягненьні сярэдняга сялянства на бок пролетарыяту, у аб'яднаньні рэволюцыйных сіл вёскі, у організацыі ўсяго політычнага і экономічнага жыцьця ў ёй і г. д. і г. д. Заслугі камітэтаў беднаты ва ўсіх гэтых галінах надзвычайна вялікія і бадай выключныя. Аб іх, аб гэтых заслугах ня шкодзіць успомніць у 14 гадавіну Кастрычнікаўскай рэволюцыі.

Трэба сказаць, што аб існаваньні камітэтаў беднаты на Беларусі ў 1918 годзе—у самы распал грамадзянскай вайны ўжо бадай мала хто памятае. Да гэтага часу мы ня маем працы, хаця-б у выглядзе артыкулаў, высьвятляючых ролю і значэньне камітэтаў беднаты на Беларусі ў 1918 годзе, аб іх нібы забылі.

Між тым асьвятленьне гэтага пытаньня ў нашай прэсе мае вялізарнае гістарычнае і грамадзка-політычнае значэньне. Камітэты вясковай беднаты пачалі стварацца на ўсёй тэрыторыі, якая знаходзілася ў руках савецкай улады з лета 1918 году. 11 чэрвеня 1918 году быў выданы Ўсесаюзным ЦВК за подпісам тав. Сьвярдлова і тав. Леніна спэцыяльны дэкрэт аб організацыі вясковай беднаты. У параграфе 1 гэтага дэкрэту зафіксавана: „Паўсюды ўстанаўляюцца валасныя і сельскія камітэты вясковай беднаты, якія організуюцца мясцовымі саветамі рабочых і сялянскіх дэпутатаў пры абавязковым удзеле харчовых органаў і пад агульным кіраўніцтвам Народнага Камісарыяту Харчаваньня і Ўсерасійскага Выканаўчага Камітэту Саветаў".

І далей, у параграфе 3 гэтага дэкрэту сказана, што „У кола дзейнасьці валасных і сельскіх саветаў беднаты ўваходзіць наступнае: 1) разьмеркаваньне хлеба, рэчаў першай патрэбы і сельска-гаспадарчых прылад; 2) садзейнічаньне мясцовым харчовым органам у выняцьці хлебных лішкаў з рук кулакоў і багацеяў“ (дадатак да твораў Леніна, том XVIII, стар. 532). Як мы ўбачылі з далейшага, кола дзейнасьці камбедаў у процэсе іх працы значна было пашырана, параўнальна з тым, што адзначана ў дэкрэце.

Якія-ж прычыны выклікалі патрэбу ў організацыі камітэтаў беднаты ўлетку 1918 году? Гэтымі прычынамі зьяўляліся неабходнасьць замацаваньня і далейшага пашырэньня ў вёсцы пролетарскай рэволюцыі, патрэба рашучай барацьбы з кулацтвам, якое скарыстоўвала ў сваёй барацьбе супроць савецкай улады цяжкое харчовае становішча краіны, спэкулявала хлебам, нажываючы нячуванае багацьце, вяло бязьлітасную барацьбу з дыктатурай пралетарыяту. Неабходна было організаваць вясковую беднату таксама і для непасрэднай працы і ў галіне вырашэньня харчовага пытаньня, якое ўлетку 1918 году прыняла найвастрэйшую форму.

Тав. Ленін у сваёй прамове 6 лістапада 1918 году аб гадавіне рэволюцыі на 6 Ўсерасійскім надзвычайным зьезьдзе саветаў падкрэсьліваў: „Той, хто назіраў вясковае жыцьцё, хто стыкаўся з сялянскімі масамі ў вёсцы, гаворыць: Кастрычнікаўская рэволюцыя гарадоў для вёскі стала сапраўднай Кастрычнікаўскай рэволюцыяй толькі ўлетку і ўвосень 1918 году. Мыя бмежаваліся ў Кастрычніку тым, што старога векавога ворага сялян, памешчыка-прыгоньніка, уласьніка лятыфунды зьмялі адразу. Гэта была агульнасялянская барацьба“...[1]). Да Кастрычніка пролетарыят пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі прышоў разам з вясковай беднатой пры хістаньні сярэдняга сялянства і пры супраціўленьні кулацтва.

Пролетарскую рэволюцыю ў вёсцы, барацьбу супроць вясковай буржуазіі, кулакоў-міраедаў павінна была вынесьці на сваіх плячох пад кіраўніцтвам пролетарыяту і бальшавіцкай партыі вясковая беднота. Камбеды павінны былі сыграць і сыгралі вялізарную ролю ў справе прыцягненьня на бок савецкай улады сярэдняга сялянства. Палітыка нэўтралізацыі серадняка кончылася пасьля камбедаў, пасьля 1918 г.

Для гэтага яе трэба было організаваць. Організацыя беднаты вылілася ў камітэты беднаты.

Наша партыя і тав. Ленін аддавалі вельмі вялікую ўвагу камітэтам вясковай беднаты. Тав. Ленін у прамове да дэлегатаў камітэтаў беднаты Маскоўскай вобласьці 8 лістапада 1918 году ўказваў: „Організацыя беднаты, таварышы, стаіць перад намі, як самае важнейшае пытаньне нашага ўнутранага будаўніцтва, нават як самае галоўнае пытаньне ўсёй нашай рэволюцыі. Мы заклікалі вясковую беднату да організацыі, мы прыступілі да будаўніцтва камітэтаў беднаты і організацыі харчовых рабочых атрадаў... і ўвесь ратунак быў у тым, што вёска аб'ядналася з горадам, што пролетарскія і паўпролетарскія— не карыстаючыяся чужою працаю элемэнты вёскі, разам з гарадзкімі рабочымі адчынілі паход на кулакоў і міраедаў“[2]).

Зьвернемся да таго, што ўяўлялі з сябе камітэты беднаты на Беларусі ў 1918 годзе, якая была іх дзейнасьць і якую ролю яны адыгралі ў разьвязаньні важнейшых політычных задач, якія былі пастаўлены перад намі ў той час?

[1]) Творы Леніна, том XVIII, стар. 252.
[2]) Там-жа, стар. 279 і 281.

Камітэты беднаты існавалі толькі на параўнальна невялікай тэрыторыі Беларусі. Гэта тлумачыцца тым, што вялізарная частка Беларусі, амаль не $^4/_5$ знаходзіліся ў 1918 годзе пад окупацыяй нямецкай імпэрыялістычнай арміі. Гэтая окупацыя, пачаўшаяся з сярэдзіны лютага 1918 году, цягнулася амаль да самага канца гэтага году.

Савецкая ўлада ў гэты пэрыод захавалася толькі ў усходняй частцы Беларусі: амаль ува ўсёй Віцебскай губэрні, часткі Аршанскага, Магілеўскага, Быхаўскага, Рагачэўскага паветаў, у Чавускім, Чэрыкаўскім, Мсьціслаўскім і Клімавіцкім паветах. Уся астатняя тэрыторыя была окупавана немцамі. У тых частках тэрыторыі Беларусі, дзе існавала савецкая ўлада і пачалі організоўвацца камітэты беднаты з лета 1918 г. Організацыя вясковай беднаты пачалася яшчэ і да дэкрэту Ўсерасійскага ЦВК аб камбедах. Гэтая організацыя, праўда, не выливалася ў стварэньне камітэтаў беднаты. Так, напрыклад, адзін селянін-комуніст т. Гуцаў з Гомельскай акругі апавядае ў сваіх успамінах аб тым, як організоўвалася беднята яшчэ да заняцьця Гомельшчыны немцамі. „Пачалі мы, апавядае ён, з созыву сходу сялян. Сход адбыўся і на ім наша група абвясьціла сябе гуртком вясковай беднаты. Гурток абраў старшыню, сакратара і скарбніка. Цяпер перад намі паўсталі задачы выяўленьня актыўных прадстаўнікоў вясковай беднаты і ў іншых вёсках воласьці“ [1]).

Організацыя камітэтаў беднаты пачалася ў радзе месц Беларусі непасрэдна пасьля выданьня дэкрэту Ўсерасійскага ЦВК аб організацыі вясковай беднаты. Партыйныя камітэты і выканкомы рассылаюць на месцы агітатараў і інструктароў па організацыі вясковай беднаты. Многа сустракалася і цяжкасьцяў у правядзеньні гэтай працы, дзякуючы адсутнасьці адпаведных партыйных сіл і палітычна падрыхтаваных працаўнікоў. Шмат у якіх мясцовасьцях стварэньне камітэтаў беднаты тармазілася наяўнасьцю эсэраўскага і кулацкага засільля ў радзе валасных выканаўчых камітэтаў. У такіх выпадках організацыя вясковай беднаты зацягвалася. У Аршанскім, напрыклад, павеце яшчэ ў сярэдзіне ліпня 1919 году ня было амаль зусім камітэтаў беднаты па павету. Камандыраваны з аддзелу кіраўніцтва Заходняй вобласьці ў Аршанскі павет т. Тамашунос паведаміў у сваім дакладзе ад 17 ліпня 1918 году, што ў валасьцёх Аршанскага павету „партыйных комуністычных ячэек покуль што ня было, таксама як ня было і камітэтаў вясковай беднаты.

З прыбыцьцем агітатараў з камандыроўкі 20 ліпня адбылося пасяджаньне агітацыйнай калегіі... Пастанавілі прыняць самыя энэргічныя меры па стварэньню камітэтаў беднаты і ячэек комуністаў (бальшавікоў). Усе агітатары зараз-жа былі накіраваны па валасьцям і вёскам“ [2]).

У Сеньненскім павеце нанова створаны рэвком пасьля лева-эсэраўскага паўстаньня толькі 14 жніўня вынес пастанову аб організацыі камітэтаў беднаты.

Вельмі дрэнна стаяла справа з організацыяй камітэтаў беднаты і ў некаторых іншых мясцовасьцях, незанятых немцамі ўсходняй часткі Беларусі.

Але побач з гэтым мы можам адзначыць, што ў радзе іншых паветаў, там, дзе была моцная партыйная організацыя, дзе кіраўніцтва савецкаю працаю і ўсім палітычным жыцьцём знаходзілася ў цьвёрдых бальшавіцкіх руках, там праца па організацыі вясковай беднаты, па

[1]) Известия Гомельского губкома № 65, 1924 г.
[2]) Архіў Абласткому, справа № 14 за 1918 год, стар. 26.

наладжваньню дзейнасьці камітэтаў беднаты праходзіла досыць пасьпяхова і давала свае станоўчыя вынікі.

Вялікая праца ў гэтым кірунку была разгорнута ў былой Віцебскай губэрні. На другой Віцебскай губэрскай партконфэрэнцыі, якая адбылася 2—6 жніўня 1918 году, абгаварвалася пытаньне аб арганізацыі вясковай беднаты. Гэта пытаньне ў якасьці асобнага самастойнага пытаньня ўключаецца ў парадак дня конфэрэнцыі. На гэтай конфэрэнцыі дакладчык тав. Крылоў высоўвае цэлы рад палажэньняў па гэтаму пытаньню. „Ідэя арганізацыі камітэтаў беднаты,—гаворыць ён,—высунута ходам нашай рэволюцыі“...

„У вёсцы пролетарская рэволюцыя толькі пачынаецца ў поўным аб'ёме і паступова паглыбляецца. І вось тут-та патрэбны асаблівыя ўмовы, асаблівая энэргія ў барацьбе з вясковаю буржуазіяй—кулакамі“ [1]).

Далей дакладчык падкрэсьлівае, што неабходна, у сувязі з перакідкаю рэволюцыі ў вёску, узмацніць уладу вясковай беднаты для пасьпяховай барацьбы апошняй з кулацтвам і памешчыкамі. Неабходна яе арганізаваць. „Камітэты беднаты,—гаворыць далей дакладчык, — і зьяўляюцца тымі неабходнымі органамі, якія здольны правільна арганізаваць бяднейшае сялянства“. Камітэты беднаты павінны адыграць вялікую ролю ў правядзеньні харчовай політыкі савецкай улады. „Ад правільнай пастаноўкі гэтага пытаньня (харчовага) залежыць посьпех нашай рэволюцыі. І конфэрэнцыя павінна вынесьці яскравую пастанову аб хутчэйшым стварэньні камітэтаў вясковай беднаты ў процівавагу кулацкім саветам“ [2]).

2-ая Віцебская губпартконфэрэнцыя выносіць рэзолюцыю па гэтаму пытаньню. „Конфэрэнцыя пастанавіла, — гаворыцца ў канцы гэтай рэзолюцыі, — безадкладна прыступіць да арганізацыі камітэтаў вясковай беднаты на мясцох, не затрымліваючыся ні перад якімі перашкодамі“ [3]).

У сувязі з прынятымі мерапрыемствамі па арганізацыі вясковай беднаты па ўсёй Віцебшчыне пачалі організоўвацца камітэты беднаты. Ужо ў верасьнёўскіх зводках інформацыйна-інструктарскага пададдзелу кіраўніцтва Заходняй комуны паведамлялася аб арганізаваных камітэтах беднаты і іх працы. У Сутоцкай воласьці Себескага павету да пачатку верасьня ўжо налічвалася 62 камітэты беднаты. Валасны камітэт беднаты Вярхоўскай воласьці прымае рад мер па разьмеркаваньню лішкаў хлеба, задавальняючы ім у першую чаргу тых, хто яго ня меў. Лішкі было пастаноўлена перадаць губвыканкому. Гэты-ж камітэт выносіць сваю пастанову аб тым, каб „з прычыны заняпаду дзяржаўнай гаспадаркі падзел маемасьці спыніць“.

Віцебскі губземаддзел закупае літаратуру для дасылкі камітэтам беднаты. Гэта-ж робяць і іншыя органы савецкай улады.

У інформацыйнай зводцы Заходняй вобласьці паведамлялася 26 жніўня 1918 году: „Інформацыйна-інструктарскім пададдзелам аддзелу кіраўніцтва Віцебскага губвыканкому загатаўляюцца комплекты бібліотэк для бясплатнага разьмеркаваньня камітэтам беднаты. Пададдзелам прапануецца камітэтам прысылаць сваіх прадстаўнікоў з адпаваднымі пасьведчаньнямі для атрыманьня паказаных бібліотэк“. (Архіў Абласткому, справа № 9, стар. 55-56).

---

[1]) Архіў Абласткому, справа № 9, протоколы 2 Віцебскай губпартконфэрэнцыі.
[2]) Там-жа.
[3]) Там-жа, стар. 72.

6 верасьня склікаецца сход прадстаўнікоў камітэтаў беднаты Мішнеўскай валасьці, Гарадоцкага павету, на якім абгаварваюцца наступныя пытаньні: 1) аб арганізацыі валаснога камітэту беднаты, 2) аб рэалізацыі ўраджаю, 3) аб барацьбе з спэкуляцыяй хлебам.

„Па першаму пытаньню сходам пастаноўлена арганізаваць валасны камітэт беднаты.

Па другому пытаньню пастаноўлена: безадклана ўзяць на ўчот увесь хлеб, разьмеркаваць гэткі па ўстаноўленай норме па едаках і лішак даць у распараджэньне Віцебскага харчовага камітэту.

Па пытаньню аб спэкуляцыі хлебам пастаноўлена змагацца ўсімі сіламі і сродкамі супроць кулакоў і спэкулюючых хлебам, пакідаючы бяднейшых сялян і рабочых на голад і сьмерць. Хлебных спэкулянтаў паставіць па-за законам і распраўляцца з імі як з ворагамі народу і рэволюцыі. У заключэньне сход пастанавіў: выселіць усіх памешчыкаў з межаў валасьці згодна дэкрэту Савету Народных Камісараў“ [1]).

Так разгортвалася праца па арганізацыі камітэтаў беднаты і дзейнасьць гэтых апошніх. Пасьля стварэньня камітэтаў беднаты ў вёсках склікаюцца валасныя зьезды камітэтаў беднаты, на якіх абіраюцца валасныя камітэты беднаты і разьвязваюцца іншыя пытаньні. Камітэты беднаты вядуць барацьбу з спэкуляцыяй, адымаюць лішкі хлеба ў кулакоў, дапамагаюць працы харчовых атрадаў, вядуць і іншую вялікую працу ў вёсцы. Заслугі камітэтаў беднаты ў Савецкай Расіі ў 1918 годзе ў тым ліку і ў Савецкай Беларусі асабліва вялікія ў галіне харчовага пытаньня. Харчовае пытаньне ў Савецкай Расіі і на Беларусі непасрэдна пасьля Кастрычнікаўскай рэволюцыі, асабліва пасьля таго, як галоўнейшыя хлебныя раёны былі заняты белагвардзейскімі і імпэрыялістычнымі арміямі, прыняла вастрэйшую форму.

Тав. Ленін у сваім лісьце да піцерскіх рабочых з прычыны голаду ад 22 мая 1918 году падкрэсьліваў: „Раманаў і Керанскі пакінулі рабочай клясе ў спадчыну краіну зруйнаваную да немагчымасьці іх грабеж ніцкаю злачыннаю і цяжкою вайною, краіну абрабаваную расійскімі і замежнымі імпэрыялістамі дашчэнту. Хлеба хопіць на ўсіх толькі пры найстражэйшым учоце кожнага пуда, толькі пры бязумоўным роўнамерным разьмеркаваньні кожнага фунта... Патрэбны масавы „крыжовы“ паход перадавых рабочых да ўсякага пункту вытворчасьці хлеба і апалу, да ўсякага важнага пункту падвозу і разьмеркаваньня іх, для падвышэньня энэргіі працы, для ўдзесяцярэньня яе энэргіі, для дапамогі мясцовым органам савецкай улады ў справе ўчоту і контролю, для ўзброенага зьнішчэньня спэкуляцыі, хабарніцтва, неахайнасьці“ [2]).

Харчовае пытаньне ў той час зьяўляецца складанейшым гаспадарчым і політычным пытаньнем ня толькі таму, што хлеба было мала, што голад так балюча стукаўся ў дзьверы рабочых і беднаты. „Голад не ад таго,—гаварыў тав. Ленін у тым-жа лісьце да Піцерскіх рабочых,— што хлеба няма ў Расіі, а ад таго, што буржуазія і ўсе багацеі даюць апошні рашучы бой панаваньню працоўных, дзяржаве рабочых, савецкай уладзе на самым важным і вострым пытаньні, на пытаньні аб хлебе“.

Буржуазія, кулакі і ўсе багацеі зрывалі ў той час хлебную монополію, зрывалі цьвёрдыя цэны, правільнае разьмеркаваньне хлеба, руйнавалі ўсе мерапрыемствы савецкай улады ў гэтай галіне.

---

[1]) Архіў Абласткому, спр. № 9, зводка інформ.-інсрукт. пададдзелу аддзелу кіраўніцтва Заходняй комуны ад 21 верасьня 1918 г., стар. 3 — 12.

[2]) Ленін, том XXIII, стар. 27, 30.

Камітэты беднаты разам з харчовымі атрадамі, арганізаванымі з рабочых, адыгралі вялізарнейшую ролю ў справе правядзеньня харчовай політыкі савецкай улады. На гэтай справе вясковая бедната дала рашучы бой кулацтву ў вёсцы, з гэтай справы бедната, арганізаваная ў камітэты беднаты, павяла рашучы наступ супроць вясковых багацеяў, кулакоў і спэкулянтаў.

Камбеды на Беларусі ў галіне харчовага пытаньня, у справе барацьбы з голадам, а разам з гэтым і барацьбы супроць кулацтва адыгралі таксама важнейшую ролю і маюць вялізарнейшыя заслугі. У цэнтры іх увагі стаяла, перш за ўсё, пытаньне харчовае, пытаньне аб хлебе. Ад гэтага пытаньня яны нямінуча ішлі далей у барацьбе за дыктатуру пралетарыяту.

Перад камбедамі на Магілеўшчыне становіцца цэлы рад пытаньняў, зьвязаных з харчоваю справаю, на іх ускладаецца бальшавіцкаю арганізацыяй вялікая праца ў гэтай галіне.

Старшыня комуністычнай фракцыі Мікулінскага валвыканкому паведамляў у лістападзе 1918 году ў камітэт партыі Заходняй вобласьці, што „для зьнішчэньня спэкуляцыі хлебам фракцыяй разасланы адозвы і аб'явы вясковым камітэтам беднаты воласьці, каб апошнія трымалі сувязь вёскі з вёскаю і выстаўлялі варту і ўсіх падазроных асоб затрымлівалі, калі гэткія з мэтаю спэкуляцыі вязуць хлеб“ [1]).

У гэтай-жа воласьці склікаецца спэцыяльны зьезд камбедаў для выбараў харчовага камітэту і наладжваньня працы ў галіне харчовай справы.

19 ліпня 1918 г. Клімавіцкі павятовы выканком на сваім пасяджэньні абмяркоўвае пытаньне аб правядзеньні ў жыцьцё дэкрэту аб арганізацыі камітэтаў вясковай беднаты. Выканком прыходзіць да пастановы, што адзіным рэальным сродкам барацьбы супроць голаду зьяўляецца неабходнасьць хлебнай монополіі. Для таго, каб гэтая монополія была ажыцьцёўлена, неабходна тэрмінова прыступіць да арганізацыі вясковай беднаты і да стварэньня камбедаў. І тут, у гэтай пастанове, яскрава адбіваецца думка аб тым, што ў цэнтры ўвагі камбедаў стаіць харчовае пытаньне.

14 жніўня праходзіў чарговы Аршанскі павятовы зьезд саветаў. І на гэтым зьезьдзе стаяла пытаньне аб камітэтах беднаты, прычым сама формулёўка пытаньня вельмі паказальная ў тым сэнсе, якія пытаньні перш за ўсё стаялі ў цэнтры ўвагі камбедаў, вярней, якія пытаньні перад камбедамі ў першую чаргу высоўваліся. Пытаньне формулявалася наступным чынам: „Харчовае пытаньне, рэалізацыя ўраджаю і арганізацыя камітэтаў беднаты“.

Вялікая і вельмі важная праца праводзілася па арганізацыі вясковай беднаты і наладжваньню дзейнасьці камітэтаў беднаты ў Чэрыкаўскім і Чавускім паветах. Эмісар Аддзелу кіраўніцтва аблвыканкому Захаду тав. Салаўёў 16 ліпня 1918 году паведаміў кіраўніцтву, што Чэрыкаўскі павятовы выканком сваю „дзейнасьць наладзіў па павету параўнальна добра. Пасьпяхова арганізуюцца камітэты вясковай беднаты“ [2]).

Партыйная Чэрыкаўская арганізацыя аддае вялікую ўвагу пытаньню арганізацыі вясковай беднаты. 1-я павятовая Чэрыкаўская партконфэрэнцыя, якая праходзіла 15 жніўня 1918 году, таксама ставіць на абмеркаваньне: „Харчовае пытаньне і камітэты беднаты“.

---

[1]) Архіў Абласткому, справа № 14, стар. 58, 61.
[2]) Архіў Абласткому, справа № 11, стар. 3.

Тав. Раманаў выступае па гэтаму пытаньню з дакладам. У сваім дакладзе ён падкрэсьлівае, што ў краіне Саветаў цяжкі харчовы крызіс маецца ў наяўнасьці не таму, што ў нас хлеба няма, а таму, што яго не даюць кулакі, закопваючы яго ў зямлю, гонячы самагонку, спэкулююючы на ім. Ён заклікаў конфэрэнцыю да безадкладнага правядзеньня ў жыцьцё хлебнай монополіі.

На гэтай-жа конфэрэнцыі завастраецца пытаньне аб нямінучай патрэбе ў грамадзкай, організаванай на комуністычных асновах запашцы зямлі. У гэтым кірунку трэба выхоўваць вясковую беднату. Яе-ж неабходна забясьпечыць жывым і мёртвым інвэнтаром за кошт кулацтва.

Конфэрэнцыя прымае спэцыяльную рэзолюцыю па пытаньню аб харчовым становішчы і камітэтах беднаты. У ёй падкрэсьліваецца, што падзел зямлі, які адбываецца, зьяўляецца выгодным „толькі для кулацтва, у якога многа быдла, у якога ў наяўнасьці жывы і мёртвы інвэнтар. Але бясконным сялянам-бедняком карысьці ад такой соцыялізацыі зямлі ніколі не атрымаць... „Толькі магутная організацыя вясковай бядноты, аб'яднаная ў свае профэсіянальныя баявыя саюзы (?—Шч.)— камітэты беднаты — адродзіць беднату да жыцьця... 1-ая Чэрыкаўская павятовая конфэрэнцыя комуністаў - бальшавікоў лічыць сваім сьвятым абавязкам напружыць усе намаганьні да паўсюднай організацыі камітэтаў беднаты, зьнітаваных паміж сабою жалезнаю працоўнаю дысцыплінаю і выхаваных на строга комуністычных пачатках“. Конфэрэнцыя падкрэсьлівае ў рэзолюцыі неабходнасьць забесьпячэньня беднаты інвэнтаром за кошт кулацтва. „Конфэрэнцыя стаіць,—говорыцца далей у рэзалюцыі,—на бязумоўным правядзеньні ў жыцьцё хлебнай монополіі ва ўсерасійскім маштабе і першым сродкам для гэтага лічыць камітэты беднаты, якія павінны ўзяць у кулакоў лішкі хлеба на ўчот разам з харчовымі аддзеламі саветаў [1]).

Тут у гэтых пастановах Чэрыкаўскай партконфэрэнцыі перад камбедамі ставіцца побач з харчовым пытаньнем і другое пытаньне, другая задача: організацыя беднаты для стварэньня новых колектыўных, комуністычных формаў гаспадаркі, задача грамадзкай апрацоўкі зямлі. Пытаньне аб організацыі колектыўных формаў гаспадаркі з вясковай беднаты і сярэдняга працоўнага сялянства нямінуча павінна была паўстаць перад камбедамі. Гэтыя пытаньні зноў такі былі цесна зьвязаны з клясавай барацьбой у вёсцы ў той час, з барацьбой вясковай беднаты з кулацтвам. Тав. Ленін у сваёй прамове да дэлегатаў камітэтаў беднаты Маскоўскай вобласьці 8 лістапада 1918 году ўказаў, што „падзел добрым быў толькі для пачатку. Ён павінен быў паказаць, што зямля адыходзіць ад памешчыкаў, што яна пераходзіць да сялян. Але гэтага недастаткова. Выхад толькі ў грамадзкай апрацоўцы зямлі.

Гэтай сьвядомасьці ў нас ня было, але жыцьцё само прыводзіць нас да гэтага пераканаnьня. Комуны, арцельная апрацоўка, таварыствы сялян—вось дзе ратунак ад нявыгод дробнай гаспадаркі, экономія сіл і барацьбы з кулацтвам, дармаедзтвам і эксплёатацыяй“ [2]). Камітэты беднаты няўхільна павінны былі прыйсьці да неабходнасьці стварэньня новых формаў гаспадаркі, да грамадзкай апрацоўкі зямлі. Яны праводзілі вялікую працу ў гэтым кірунку. Іх заслугі і ў гэтай галіне вельмі вялікія. Цікавая праца з вясковаю беднатой праводзі-

[1]) Архіў Абласткому, справа № 11, стар. 41-42.
[2]) Творы Леніна, том XXIII, стар. 282.

лася ў Чавускім павеце Магілеўскай губэрні. У зводцы організацыйна-інформацыйнага пададдзелу Аддзелу кіраўніцтва Заходняй вобласьці ад 29 жніўня 18 году паведамлялася наступнае аб організацыі беднаты.

„У Чавускім павеце організацыя камітэтаў беднаты праходзіць вельмі пасьпяхова, аб чым сьведчаць наступныя лічбы. На 10 жніўня быў вызначаны зьезд старшынь камітэтаў беднаты, на які зьявілася 12 чалавек. Але ўжо да наступнага зьезду 18 жніўня прыбыло 168 прадстаўнікоў“ [1]). Гэты другі зьезд абгаварваў рад пытаньняў: бягучы момант, харчовае пытаньне і іншыя. Але самая цікавая з усіх пастаноў зьезду—гэта прынятая ім інструкцыя па організацыі камітэтаў беднаты.

Па гэтай інструкцыі кола дзейнасьці камітэтаў беднаты, іх правы і абавязкі параўнальна з дэкрэтам Усерасійскага ЦВК аб камбедах значна пашыраюцца. Дэкрэтам Усерасійск. ЦВК на камбеды ўскладалася наступнае кола дзейнасьці: разьмеркаваньне хлеба і аказаньне садзейнічаньня мясцовым харчовым органам у выняцьці хлебных лішкаў у кулакоў і заможных.

Інструкцыя Чавускага зьезду камбедаў ідзе куды далей дэкрэту. Па гэтай інструкцыі камбедам даваліся правы роспуску кулацкіх сельсаветаў і валасных выканкомаў. Камбеды прызнаюцца адміністрацыйнай адзінкаю на мясцох. Прызнаецца неабходнасьць цэнтралізацыі ўлады камбедаў і стварэньне сельскіх, валасных, павятовых, абласных і цэнтральнага камбедаў. Камітэтам беднаты ставіцца ў абавязак праводзіць рашучую барацьбу з п‘янствам і самагонакурэньнем. Асабліва строгія пакараньні неабходна ўжываць, сказана ў інструкцыі, да членаў камбедаў у гэтых адносінах. Камбедам даручаецца праводзіць рашучую барацьбу супроць провокацыйнай і контррэволюцыйнай агітацыі ў вёсцы. Пададдзелы гарадзкой гаспадаркі пры аддзелах народнае гаспадаркі павінны, па інструкцыі, абярнуцца ў пададдзелы гарадзкой і вясковай беднаты. Так пачалі ва многіх мясцох глядзець на камбеды, адступаючы ад дэкрэту Ўсерасійскага ЦВК. Але асаблівае ўвагі заслугоўвае пункт паказанай вышэй інструкцыі Чавускага зьезду камбедаў аб неабходнасьці стварэньня апошнімі спэцыяльных баявых атрадаў у кожнай вёсцы і мястэчку. Пункт гэты настолькі цікавы, што мы яго прыводзім поўнасьцю.

„Паставіць за абавязак камітэтам вясковай беднаты, сказана ў інструкцыі, організоўваць атрады ў кожнай вёсцы і мястэчку. У атрады павінны ўвайсьці ўсе бednякі ад 18 да 45 год. У атрадах павінна быць навучаньне вайсковай справе пад кіраўніцтвам камітэтаў беднаты. Інструктарамі павінны прызначацца салдаты з гэтых-жа атрадаў. Камітэты вясковай беднаты павінны выклапатаць у павятовым выканкоме тры ці чатыры стрэльбы для кожнага атраду для навучаньня ўсіх таварышоў, якія могуць абыходзіцца з гэткімі, як толькі будуць організаваны атрады. Камітэты беднаты павінны безадкладна скласьці сьпісы і даставіць павятоваму вайсковаму камісару. Сформаваныя атрады павінны быць падпарадкаваны валасному і павятоваму камісару. Калі-ж хто-небудзь адмовіцца ўступаць у атрад, дык гэткіх безадкладна выключаць з ліку беднаты і лічыць іх здраднікамі рэволюцыі. Атрады павінны быць заўсёды гатовымі і па першаму патрабаваньню вышэйшай улады павінны выступіць на абарону рэволюцыі“ [2]).

[1]) Архіў Абласткому, справа № 12, стар. 42-43.
[2]) Архіў Абласткому, справа № 12, стар. 42, 43.

Гэты дакумэнт адбівае сабою сапраўдны твар, кола дзейнасьці, задачы і правы камбедаў ня толькі на паперы і ня толькі камбедаў па Чавускаму павету. Не, камбеды паўсюды, праўда ў адных мясцох у большай меры, а ў другіх у меншай, далёка адыйшлі ад усяго таго, чым яны павінны быць па дэкрэту ЦВК. Яны вышлі за межы дэкрэту. Яны, аб'яднаўшы найбольш рэволюцыйныя элемэнты ў вёсцы, уцягнулі ў барацьбу з кулацтвам сярэдняе працоўнае сялянства і пачалі перакідацца ў адміністрацыйна-палітычныя і экономічныя організацыі вёскі, воласьці.

6 Усерасійскі Надзвычайны Зьезд Саветаў вынес спэцыяльную рэзолюцыю аб будаўніцтве савецкай улады ў цэнтры, камітэтах беднаты і саветах на мясцох. У гэтай рэзолюцыі сказана:

„Кастрычнікаўская рэволюцыя прывяла да перамогі над буржуазіяй пролетарыят гораду. Адсталыя адносіны ў вёсцы затрымалі там рэволюцыйна-соцыялістычную барацьбу. Перамогшы пролетарыят, у мэтах замацаваньня і пашырэньня соцыялістычнай рэволюцыі, пастанавіў стварыць у вёсцы асобыя організацыі, якія непасрэдна зьвязалі-б вясковую беднату з гарадзкім пролетарыятам. Існаваўшыя ў вёсках і валасьцёх саветы не зьяўляліся органамі рэволюцыйнай барацьбы з вясковай буржуазіяй; больш таго — у радзе месц нават уключалі яе ў свой склад. Гарадзкі пролетарыят, перажываючы ў той час цяжкі харчовы крызіс, для перамогі над ім павінен быў аб'яднаць і організаваць пролетарскія элемэнты ў вёсцы, каб разам з імі зламаць супраціўленьне вясковых кулакоў, спэкуляваўшых на голадзе. На камітэты беднаты, створаныя дэкрэтам 11 чэрвеня, і была ўскладзена задача сьціхамірыць спэкуляцыю кулакоў і выклікаць да актыўнага палітычнага жыцьця тыя групы вескі, якія здольны праводзіць задачы пролетарскай соцыялістычнай рэволюцыі. Камітэты беднаты павінны былі вырваць з-пад уплыву кулакоў-міраедаў сярэдняе працоўнае сялянства і павесьці яго за сабою. Камітэты ў гэтай сваёй працы няўхільна павінны былі выйсьці за межы дэкрэту 11 чэрвеня. Камітэты аб'ядналі найбольш рэволюцыйныя элемэнты ў вёсцы, уцягнулі ў агульную барацьбу з кулацтвам сярэдняе працоўнае сялянства і сталі перакідацца ў выканаўца ўсяго палітычнага, адміністрацыйнага і гаспадарча-эканомічнага жыцьця вёскі ці воласьці“ [1]).

У сувязі з такою вялізарнаю роляю камбедаў у вёсцы, у сувязі з такім вялізарным палітычным значэньнем іх, навакол самых камбедаў у вёсцы і часта ўнутры іх завязвалася вострая клясавая барацьба. Кулацтва, ня маючы магчымасьці расправіцца з камбедамі ў адчыненай барацьбе, прабуе заваёўваць іх у многіх мясцох з сярэдзіны, пралазіць у камбеды, падкупліваць іншыя элемэнты і часта нават беднату, якую і пасылаюць у камбеды з мэтаю разбурэньня апошніх ці пераробкі іх у свае ўласныя організацыі. Такіх засьмечаных кулацтвам камбедаў мы маем нямала. Іх нямала было і на Беларусі.

Адносна пранікненьня кулацтва ў сярэдзіну камбедаў і наяўнасьці кулацкіх камбедаў Ленін у 1918 годзе таксама выказваў свае думкі. Ужо ў цытаванай намі прамове Леніна да дэлегатаў камітэтаў беднаты Маскоўскай вобласьці 8 лістапада 1918 году мы знаходзім такія месцы: „Мы ведаем, што і ў камбеды іншы раз пралазяць кулакі. Калі гэта будзе і ў далейшым, дык і да камбедаў будуць такія-ж

[1]) Дадатак да твораў Леніна, т. XXIII, стар. 534, 535.

адносіны з боку беднаты, як да кулацкіх саветаў Керанскага і Аўксеньцьева. Заменаю мянушкі нікога не падманіш" [1]).

І сапраўды мы маем рад даных, якія гавораць аб тым, як кулацтва пранікала ў некаторыя камбеды і на Беларусі.

У агульным аглядзе організатараў і лектароў, якія накіроўваюцца ў Заходні абласны камітэт, падкрэсьліваецца, што бедната ў радзе месц не пасьпела як належыць організавацца, што клясавая барацьба ў вёсцы пачынае толькі яшчэ распальвацца, хаця ўжо ва многіх мясцох бедната пачала весьці барацьбу з кулацтвам, з кулацтвам, якое мае ў вёсцы яшчэ вялікую моц. У дакладзе інструктара Салашэнкава гаворыцца аб тым, як у радзе месц камбеды хаця і абраны, але яшчэ не стаяць на належнай вышыні. Яны іншы раз толькі значацца на паперы, а кулакі арудуюць, як і раней у вёсцы. Барацьба з кулацтвам не праводзіцца як належыць, хлеб застаецца ў руках заможнікаў [2]).

Крычаўскі партыйны камітэт 22 верасьня 1919 году пісаў у паўночна-Заходні абласны камітэт наступнае: „У той-жа дзень, 10 верасьня, у толькі што організаванае часовае бюро паступілі скаргі мясцовай беднаты, што яе камітэт дрэнна працуе і што ў ім заселі былыя жандары і чыноўнікі".

Цікава тут-жа адзначыць, як Крычаўскі камітэт партыі ўжо ў верасьні 1918 году прымае рад мер па рэорганізацыі камбедаў. Узмацніўшы волвыканком комуністамі і правёўшы выбары ў яго выключна з беднаты, ён выносіць сваё рашэньне аб рэорганізацыі камітэту беднаты ў аддзел волсавету пад назваю — „Рэвізійна-Контрольна-Ўчотная Калегія" для ўчоту і рэквізіцыі хлебных і іншых запасаў у буржуазіі і кулацтва.

Вось пастанова Мсьціслаўскага павятовага выканкому аб камбедах, якая была вынесена ім ад 14 лістапада 1918 г. і адзначаючая таксама пранікненьне кулацтва ў камбеды. Заслухаўшы заяву грамадзяніна вёскі Сапрыковічы, дасланую камітэтам партыі пры подпісах ад 12 лістапада г/г. за № 110 аб тым, што Сапрыковіцкі камітэт беднаты не знаходзіцца на належнай вышыні, бо ў ім заселі кулакі, павятовы выканком пастанавіў: прапанаваць валасному савету па перавыбарам яго перавыбраць усе камітэты беднаты, а ў асаблівасьці Сапрыковіцкі"... [3])

Так праходзіла праца па організацыі беднаты на Беларусі ў 1918 годзе; так дзейнічалі, працавалі, змагаліся ствараючы камбеды ў нас у той час. Мы, пэўна, ня ўскрылі ўсяго жыцьця, дзейнасьці, ролі камбедаў у гэты першы год грамадзянскай барацьбы; мы не далі поўнага малюнку іх барацьбы, але нам здаецца, што і тыя даныя, якія мы тут прыводзім — накідак думак зроблены намі аб камбедах у 1918 годе, малююць у асноўным ролю камбедаў, дазваляюць судзіць у асноўным аб усім тым, чым былі, як ствараліся і якую барацьбу вынесьлі на сваіх плячох гэтыя організацыі вясковай беднаты ў грамадзянскую вайну.

---

1) Творы Леніна, том XXIII, стар. 283.
2) Архіў С. З. Абласткому, справа № 21, стар. 49, 56.
3) Магілеўскі архіў, справа з протоколамі Мсьціслаўскага выканкому за 1918 г., стар. 404.

В. С.

# Задачы краязнаўчых організацый у выкананьні прамфінпляну

XVI зьезд УсеКП(б) у радзе асноўных задач партыі па соцыялістычнай індустрыялізацыі СССР вызначыў, як адну з цэнтральных задач, „бязумоўнае выкананьне прамфінпляну, самае строгае выкананьне плянавых заданьняў па зьніжэньню сабекаштоўнасьці і па падвышэньню якасьці продукцыі, больш рашучае і плянамернае правядзеньне рацыяналізацыі, барацьбу з бракам і стратамі ў вытворчасьці, падвышэньне продукцыйнасьці працы і ліквідацыю прарываў, якія маюць месца ў радзе галін“. На выкананьне гэтай пастановы партыя мобілізавала самыя шырокія рабочыя масы, узьняла іх творчую актыўнасьць. Соцыялістычныя мэтоды працы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва—зрабіліся асноўнымі мэтодамі працы на нашых прадпрыемствах, мэтодамі высокіх тэмпаў працы. Але нам патрэбны яшчэ больш высокія, бальшавіцкія тэмпы будаўніцтва, каб „максымум у дзесяць год мы змаглі прабегчы тую адлегласьць, на якую мы адсталі ад перадавых краін капіталізму“ (Сталін), а для гэтага рабочая кляса СССР павінна аўладаць тэхнікай, аўладаць навукай вытворчасьці. „Бальшавікі павінны аўладаць тэхнікай“, бо „тэхніка ў пэрыод рэконструкцыі вырашае ўсё“. Вось чаму партыя разгарнула вялізарнейшую работу па тэхнічнай пропагандзе сярод рабочых мас і ўсіх працоўных СССР.

Выкананьне плянавых заданьняў у нашай соцыялістычнай прамысловасьці ў новых умовах разьвіцьця нашай соцыялістычнай гаспадаркі патрабуе таксама і новых мэтодаў работы і новых мэтодаў кіраўніцтва. Тав. Сталін у сваёй прамове на нарадзе гаспадарнікаў 23 чэрвеня 1931 году вызначыў шэсьць конкрэтных умоў, выкананьне якіх у поўнай меры павінна забясьпечыць выкананьне вытворчых пляпаў у розных галінах прамысловасьці. Указаньні т. Сталіна знайшлі свой водгук сярод рабочых і інжынэрна-тэхнічнага пэрсоналу перадавых прадпрыемстваў СССР. Хуткім і рашучым правядзеньнем у жыцьцё баявых дырэктыў т. Сталіна цэлы рад прадпрыемстваў ліквідаваў прарывы, і прадпрыемствы гэтыя вышлі пераможцамі ў выкананьні прамфінпляпаў. У гэтых адносінах вельмі характэрным і паказальным зьяўляецца ліст да т. Сталіна ўдарнікаў перадавых бакінскіх нафтавых промыслаў („Правда“ № 306 1931 г.). У гэтым лісьце ўдарнікі перадавых промыслаў расказваюць аб рабоце тых промыслаў Баку, якія, узброіўшыся тэхнікай, першыя пачалі выконваць указаньні тав. Сталіна і дамагліся вялікіх перамог у выкананьні нафтавай пяцігодкі. Ужываньне новых спосабаў здабычы нафты (нагнятаньне газу ў бедныя нафтай пласты), ліквідацыя ўраўнілаўкі і перавод на прогрэсыўна-зьдзельную працу,

мэханізацыя працы, ліквідацыя абязьлічкі (прымацаваньне брыгад да буравых шчылін), перавод промыслаў на гаспадарчы разьлік,—сыстэматычна праведзеныя ў жыцьцё на перадавых нафтавых промыслах, далі вельмі паказальныя вынікі—здабыча за 8 месяцаў у параўнаньні з мінулым годам узрасла на 28 проц.

„Наш ліст—гэта наша практыка, якая паказвае адстаючым промыслам Баку, адстаючым заводам, фабрыкам і шахтам Савецкага саюзу шлях да перамогі"—пішуць рабочыя і спэцыялісты бакінскіх промыслаў. Такая сьмелая і рашучая практыка ў рацыяналізацыі вытворчасьці, у перабудове работы і кіраўніцтва па-новаму ёсьць ужо і ў іншых галінах нашай прамысловасьці, але дасягненьні паасобных лепшых і перадавых прадпрыемстваў у нас належным чынам не вывучаюцца, слаба популярызуюцца ў друку, абмен практыкай у перабудове работы паводле паказаньняў т. Сталіна не наладжаны.

Партыя і рабочая кляса істотна зацікаўлена ў тым, каб лепшая практыка, лепшыя і найбольш каштоўныя дасягненьні перадавых прадпрыемстваў зрабіліся здабыткам усіх прадпрыемстваў. Рабочыя вынаходніцтвы, дасягненьні ў рацыяналізацыі вытворчасьці, тэхнічныя ўдасканаленьні, дасягненьні ў організацыі работы пановаму ў паасобных прадпрыемствах—павінны неадкладна популярызавацца і пераносіцца на іншыя прадпрыемствы.

Каб выявіць багацейшую практыку і дасягненьні ў нашай прамысловасьці, на заводах і фабрыках, неабходна разгарнуць шырокую масавую дасьледчую работу, у якую павінны быць уцягнуты лепшыя ўдарнікі, інжынэрна-тэхнічны пэрсонал, рацыяналізатары, вынаходцы. Організацыя краязнаўчых ячэек на фабрыках, заводах, пры чыгуначных дэпо і інш. прадпрыемствах прамысловага значэньня зьяўляецца той формай масавай дасьледчай работы, якая можа забясьпечыць самы шырокі ахоп рабочых мас дасьледчай работай. Краязнаўчыя ячэйкі павінны быць неадкладна організаваны пры ўсіх буйнейшых прамысловых прадпрыемствах. Асноўнай задачай гэтых ячэек павінна быць навуковае абгрунтаваньне ўсіх рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, падвядзеньне навуковай базы пад вытворчыя пляны прадпрыемстваў, вывучэньне і популярызацыя найлепшых форм і мэтодаў організацыі працы і кіраўніцтва ў новых умовах нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

У сучасны момант, калі рабочыя масы, лепшыя ўдарнікі, лепшыя інжынэрна-тэхнічныя сілы і гаспадарнікі, пад кіраўніцтвам партыі, па-бальшавіцку змагаюцца за перабудову працы на прадпрыемствах, за ажыцьцяўленьне шасьці ўмоў т. Сталіна, умоў, якія забясьпечваюць падвышэньне тэмпаў вытворчасьці, выкананьне і перавыкананьне прамфінпляноў і палепшаньне матар'яльнага становішча рабочых мас, дасьледчая работа краязнаўчых ячэек павінна быць у першую чаргу зьвязана з вырашэньнем гэтых актуальнейшых пытаньняў. Аднэй з бліжэйшых задач масавае дасьледчае работы на заводах і фабрыках павінна быць вывучэньне пытаньня адносна ўкараненьня тэхнікі ў прамысловасьці, найлепшай організацыі набору рабочае сілы і мэханізацыі працы. Краязнаўчыя організацыі павінны навукова абгрунтаваць і паказаць перавагу організаванага падбору рабочай сілы, вывучыць найлепшыя формы і мэтоды організацыі набору рабсілы, дасьледваць рэзэрвы рабочай сілы ў колгасах у сувязі з рацыяналізацыяй і мэханізацыяй працы. Вялізарнейшае значэньне для павялічэньня продукцыйнасьці і выкананьня плянавых заданьняў мае мэханізацыя процэсаў вытворчасьці, асабліва процэсаў цяжкой фізычнай працы. Некаторыя

прадпрыемствы, зрабіўшы ўпор на аўладаньне тэхнікай вытворчасьці, на мэханізацыю працы, дасягнулі значных посьпехаў. Практыка гэтых прадпрыемстваў павінна быць дасканала вывучана завадзкімі краязнаўчымі ячэйкамі, паглыблена і пашырана на аснове дасягненьняў сучаснай навукі і тэхнікі і шырока папулярызавана сярод рабочых мас у мэтах перанясеньня найбольш удалых спроб у іншыя прадпрыемствы.

Наша соцыялістычная прамысловасьць разьвіваецца на аснове сучаснай тэхнікі, якая патрабуе кваліфікаванай рабочай сілы. Укараненьне новай магутнай тэхнікі ў нашу вытворчасьць уласна патрабуе забесьпячэньня сталай рабочай сілы, ліквідацыі яе цякучасьці, бо „бяз сталага складу рабочых, больш-менш усвоіўшых тэхніку вытворчасьці і прызвычаіўшыхся да новых мэханізмаў, немагчыма пасоўвацца ўперад, немагчыма выканаць вытворчыя пляны. У праціўным выпадку прышлося-б кожны раз нанова навучаць рабочых і траціць палову часу на іх навучаньне, замест таго, каб выкарыстаць яго для вытворчасьці“ (Сталін). Замацаваньне рабочай сілы за вытворчасьцю і за кожным прадпрыемствам—адна з асноўных задач партыі і рабочай клясы. Тав. Сталін зусім конкрэтна вызначыў той шлях, ідучы па якому можна ліквідаваць цякучасьць і дабіцца сталага складу рабочай сілы ў розных галінах вытворчасьці. Шлях гэты—ліквідацыя ўраўнілаўкі, правільная організацыя зарплаты, палепшаньне бытавых умоў рабочых. Задача краязнаўчых організацый у вырашэньні гэтага пытаньня заключаецца ў тым, каб дапамагчы партыйным і профсаюзным організацыям і ўсёй рабочай масе знайсьці найлепшыя мэтоды стварэньня сталай рабочай сілы ў вытворчасьці, вывучыць практыку тых прадпрыемстваў, якія ўжо па-бальшавіцку вырашылі пытаньне аб ліквідацыі цякучасьці рабсілы і аб правільнай організацыі зарплаты.

Масавыя дасьледчыя організацыі павінны шырока ахапіць усе галіны вытворчасьці, вывучыць і наглядна паказаць, як, напр., увядзеньне прэміяльна-зьдзельнай аплаты працы ў пэўных конкрэтных умовах на тых ці іншых прадпрыемствах спрыяла павялічэньню выпрацоўкі і выкананьню вытворчых плянаў.

Вельмі важна таксама дасьледваць і паказаць, як палепшаньне матар'яльна-бытавых і культурных умоў адбіваецца на выкананьні прамфінпляну.

У гэтых адносінах цікава адзначыць маленькую брошурку „Новы цэх варашылаўцаў“, напісаную рабочымі заводу імя К. Я. Варашылава (у Менску), якая паказвае, як павялічэньне і палепшаньне вытворчасьці заводу цесна зьвязана і залежыць ад палепшаньня бытавых умоў рабочых, палепшаньня грамадзкага харчаваньня і інш.

Варашылаўцы вядуць барацьбу за прамфінплян, ажыцьцяўляючы дырэктывы т. Сталіна, і аказваюцца пераможцамі на многіх вучастках гэтай барацьбы. Посьпехі перабудовы працы па-новаму на нашых заводах яшчэ больш павялічацца, калі гэта перабудова будзе праводзіцца на аснове дасьледчай работы, на аснове дасканалай папярэдняй пераапрацоўкі кожнага мерапрыемства ў пэўных конкрэтных умовах.

Правільная організацыя працы на прамысловых прадпрыемствах, у саўгасах, колгасах, МТС і г. д.—адна з неабходнейшых і найважнейшых умоў павялічэньня продукцыйнасьці працы і палепшаньня яе якасьці. „Трэба паставіць рабочых у такія ўмовы працы, якія-б давалі ім магчымасьць працаваць з толкам, узьнімаць продукцыйнасьць, палепшыць якасьць продукцыі. Трэба, стала быць, організаваць працу

такім чынам, каб продукцыйнасьць узьнімалася з месяца ў месяц, з кварталу ў квартал" (Сталін). Для гэтага патрэбна ліквідаваць абязьлічку, палепшыць організацыю працы, правільна разьмеркаваць сілы на кожным прадпрыемстве. Працу трэба організаваць так, каб кожная машына, кожны варштат працавалі-б бесьперабойна з максымальнай інтэнсыўнасьцю пры найменшай затраце рабочых рук. Для гэтага на кожным прадпрыемстве патрэбна дакладнейшае сыстэматычнае вывучэньне найлепшага разьмеркаваньня рабочай сілы па цэхах, агрэгатах, шахтах і г. д. Масавыя дасьледчыя організацыі (ячэйкі) на прадпрыемствах павінны паставіць сваёй мэтай ня толькі паказаць простую залежнасьць паміж організацыяй працы і яе продукцыйнасьцю, але яны павінны сыстэматычна вывучаць, якую вытворчую эфэктыўнасьць (у колькасным і якасным выражэньні) даюць тыя ці іншыя формы організацыі працы, гаспадарча-разьліковыя брыгады і інш., яны павінны ставіць сваёй задачай адшуканьне новых і новых вышэйшых формаў організацыі працы. У справе лепшай організацыі вытворчасьці вялікае значэньне мае правільнае выкарыстаньне навуковых і інжынэрна-тэхнічных сіл на прадпрыемстве. Перадавыя рабочыя, ударнікі, важакі брыгад, работнікі рацыяналізатарскіх брыгад, вынаходцы павінны быць шырока ўцягнуты ў работу навукова-дасьледчых інстытутаў і організацый. Гэта ёсьць „новая праслойка рабочай клясы, якая і павінна скласьці разам з прайшоўшымі вышэйшую школу таварышамі ядро інтэлігенцыі рабочай клясы, ядро каманднага складу нашай прамысловасьці".

Разьвіцьцё бальшавіцкіх тэмпаў індустрыялізацыі патрабуе ўзмацненьня і адшуканьня новых крыніц гаспадарчага накапленьня. Наша соцыялістычная прамысловасьць мае нязьлічоныя магчымасьці павялічэньня гэтага накапленьня. Ліквідацыя безгаспадарчасьці, мобілізацыя ўнутраных рэсурсаў прамысловасьці, укараненьне і ўзмацненьне гаспадарчага разрахунку ва ўсіх нашых прадпрыемствах, сыстэматычнае зьніжэньне сабекошту, узмацненьне ўнутрыпрамысловага накапленьня ва ўсіх без выключэньня галінах прамысловасьці—вось той шлях, які вызначаны т. Сталіным, які вырашае пытаньне адносна гаспадарчага накапленьня прамысловасьці да яе пасьпяховага разьвіцьця, да выкананьня плянаў, вызначаных партыяй і ўрадам.

Краязнаўчыя ячэйкі на прадпрыемствах павінны заняцца сур'ёзна адшуканьнем усіх магчымасьцяў і ўсіх крыніц унутрызаводзкага накапленьня: вывучыць, наколькі і якім чынам можна зьнізіць сабекошт продукцыі, палепшыць процант браку, як найлепш скарыстаць на прадпрыемстве розныя адкіды і г. д. Масавая дасьледчая работа на прадпрыемствах павінна мець сваёй задачай вывучэньне і энэргетычнай і сыравіннай базы для свайго прадпрыемства, найлепшай якасьці сыравіны, умоў яе дастаўкі, найлепшага захаваньня і інш. Краязнаўчыя ячэйкі могуць наладзіць дасьледчыя экскурсіі (у часе адпачынку, у выходныя дні) у раёны забесьпячэньня прадпрыемстваў сыравінай і ў мэтах вывучэньня і найлепшага вырашэньня сыравіннай проблемы. Так, напрыклад, фабрыка „Дзьвіна" (Віцебск), якая не даатрымоўвае патрэбную ёй колькасьць сыравіны—лён, магла-б наладзіць дасьледчую экскурсію ў колгасы, з якімі заключыла дагавор контрактацыі на забесьпячэньне лёнам, валакном і які ня быў выкананы, і разам з колгасьнікамі вывучыць на месцы, як забясьпечыць сваечасовую здачу фабрыцы ільнянай продукцыі і дабіцца палепшаньня яе якасьці.

Дасьледчая работа зьяўляецца неабходнейшай умовай нашага соцыялістычнага будаўніцтва ва ўсіх галінах. Гэта работа ва

ўсім Савецкім саюзе і ў БССР разгортваецца надзвычайна вялікімі тэмпамі. Разгорнута вялізарная сетка спэцыяльных дасьледчых інстытутаў, станцый, лябораторый. Але „работа гэта,—як зазначана ў адозьве ЦК УсеКП(б),—ня можа быць выканана аднымі дзяржаўнымі навуковымі ўстановамі, калі да навукова-дасьледчай работы ня будуць прыцягнуты масы рабочых, сялян і савецкай інтэлігенцыі. Гэту навуковую работу ў сучасны момант трэба цесна зьвязаць з краязнаўчым рухам—колектыўным усебаковым вывучэньнем свайго раёну, свайго колгасу, прадпрыемства". На прадпрыемсавах трэба шырэй разгарнуць масавую дасьледчую работу, організаваўшы на кожным буйным заводзе, на кожнай вялікай фабрыцы краязнаўчыя ячэйкі, якія сваёй дасьледчай работай павінны дапамагчы лепшаму выкананьню прамфінпляну, выяўленьню новых відаў сыравіны для прамысловасьці, паказаць дасягненьне нашых лепшых заводаў і популярызаваць гэтыя дасягненьні ў мэтах самага шырокага абмену практыкай.

---

Б. Леванчук

# Сэктанцтва на Койданаўшчыне і праца, якая ім праводзіцца ў раёне

*(з матар'ялаў экспэдыцыі БАН у 1931 годзе)*

Каб змагацца з рэлігіяй і сэктанцтвам, весьці пераможную барацьбу „за зьнішчэньне яе, як „призрачного счастья“ для народу, якое (зьнішчэньне—Л.) зьяўляецца неабходнай умовай сапраўднага яго шчасьця“ (Маркс), трэба ўсебакова вывучыць гэтага ворага, ведаць яго моц, яго організаванасьць, яго мэтоды працы, „здолець зацікавіць зусім яшчэ неразьвітыя масы сьвядомымі адносінамі да рэлігійных пытаньняў, сьвядомай крытыкай рэлігіі“ (Ленін) і выкрыць яе перад шырокімі працоўнымі масамі. Асабліва гэта важна і патрэбна ў той момант, калі пролетарыят, пад кіраўніцтвам партыі, вядзе пераможны соцыялістычны наступ па ўсяму фронту, выкарчоўваючы рэшткі капіталістычных элемэнтаў. Таму на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва клясавы вораг вядзе шалёнае супраціўленьне і ў адказ на шырокае разгортваньне соцбудаўніцтва дбае выкарыстаць усе магчымыя легальныя і нелегальныя моманты, якія-б тармазілі і падрывалі гэтае будаўніцтва. Адным з легальных момантаў, які служыць у руках клясавага ворага тормазам і прыладай для барацьбы супроць соцыялістычнага будаўніцтва, зьяўляецца рэлігія і сэктанцтва.

Вось чаму, чым шпарчэй мы ідзем па шляху да соцыялізму, тым больш мы павінны ўзмацняць барацьбу з рэлігіяй і сэктанцтвам, тым больш мы павінны выкрываць перад шырачайшымі працоўнымі масамі сапраўдную клясавую сутнасьць рэлігіі, памятуючы пры гэтым словы т. Леніна, што змагаючыся з рэлігіяй, мы гэтым самым змагаемся за соцыялізм.

Таму, вывучаючы працу рэлігійных організацый аднаго з перадавых раёнаў БССР, які на 1 кастрычніка ў асноўным закончыў суцэльную колектывізацыю, аб'яднаўшы на 94 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у колгасы, мы павінны тут выкрыць сапраўдны клясавы твар рэлігіі, паказаць, як у жорсткай клясавай барацьбе на вёсцы клясавы вораг—кулак—скарыстоўвае яе як прыладу ў барацьбе супроць партыі, соцыялістычнага будаўніцтва. Прыгледзімся бліжэй да працы аднэй з адмен рэлігійных організацый—да сэктанцтва.

На тэрыторыі Койданаўскага раёну знаходзіцца адна вялікая моцная баптысцкая сэкта, якая добра акапалася і ўмацавалася на пасёлках і хутарох Навасадзкага сельсавету. Другая баптысцкая сэкта ахапляе сваёй працай дзьве часткі двух раёнаў—Койданаўскага і Пу-

хавіцкага. Цэнтар кіраўніцтва і цэнтар наогул знаходзіцца на тэрыторыі Пухавіцкага раёну—так званая Шацкая група, але праца ня менш актыўна вядзецца і на тэрыторыі Койданаўскага раёну. Акрамя гэтых дзьвюх сэкт, па цэламу раду сельсаветаў, як Рабілкаўскі, Азярскі, Станкаўскі і іншых, раскіданы паасобныя баптысты, якія або зьвязаны з сэктамі і праводзяць працу паводле дырэктыў сэкты, або ў сваёй рэлігійнай працы саматужнічаюць, орыентуючыся на вучэньні эвангельля і біблії. Таму для нас найбольш каштоўна ў сэнсе вывучэньня пазнаёміцца з самімі сэктанцкімі організацыямі, да чаго мы і пяройдзем.

Перш за ўсё крыху гісторыі сэкт. Сэкта *Навасадзкага сельсавету* організавалася ў 1925 г. Організатарам яе быў кулак і ўладар вадзяного млыну на раце Вусе, у вёсцы Паўсьце—Красоўскі, які, пабываўшы ў Амэрыцы і ўсвоіўшы баптысцкае вучэньне, вярнуўшыся з Амэрыкі ў 1925 г., распачаў вярбоўку і організацыю сэкты. Другая сэкта Пухавіцкага раёну—шацкі цэнтар пад кіраўніцтвам кулака Юхновіча з вёскі Ступені распачала сваю дзейнасьць на прымежнай частцы Койданаўскага раёну ў 1927 г. Гэтая сэкта ў 1927 г. зрабіла першую агітацыйную вылазку на тэрыторыі Койданаўскага раёну, якая дала станоўчыя вынікі для сэкты. Гэтую вылазку можна лічыць пачаткам пашырэньня баптызму ў Крупіцкім і Рублікаўскім сельсаветах. Організатарамі і кіраўнікамі сэкт зьяўляюцца кулакі, якія, труцячы працоўныя масы рэлігійным дурманам, адрываюць іх ад непасрэднага социялістычнага будаўніцтва, накіроўваюць іх увагу на па-заземны сьвет і падрываюць гэтым дыктатуру пролетарыяту. Пэрсанальны склад сэкт вельмі рознастайны. Але пераважную большасьць складаюць заможныя серадняччкі і звычайныя серадняччкі—хутаране, атрымаўшыя хутары і пасёлкі ў часе правядзеньня прышчэпаўскай політыкі.

Аб складзе сэкт гавораць наступныя табліцы:

**Склад актыву сэкты Навасадзкага с/с.**

| Лік гасп. | Кулацказам. | Серадняцк. хут. | Бяд. | У колгасе | Не ў колгасе | Лік членаў | Муж. | Жан. | Ня пісьмен. | Мала пісьмен. | Ніж. асьв. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 12 | 7 | 3 | 2 | 10 | 2 | 43 | 18 | 25 | 6 | 33 | 4 |

**Склад актыву сэкты Крупіцкага с/с.**

| Лік гасп. | Кулацказам. | Серадняцк. хут. | Бяд. | У колгасе | Не ў колгасе | Лік членаў | Муж. | Жан. | Няпісьмен. | Малапісьмен. | Ніж. асьв. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | 2 | 1 | — | 3 | — | 5 | 2 | 3 | 2 | 3 | — |

Што характарызуюць паданыя табліцы? Па-першае, у складзе сэкты мы маем пераважную кулацка-заможную і серадняцка-хутарскую частку насельніцтва і толькі нязначную частку беднякоў. Гэты момант неабходна падкрэсьліць таму, што хутарская сыстэма прышчэпаўскай політыкі, як політыка насаджэньня кулацтва, аказалася вельмі плённай для пашырэньня ўсяго „мракабесься", у прыватнасьці сэктанцтва. Таму ня дзіва, што Навасадзкі с/с. раёну, як сельсавет пасялкова-хутарскага характару, зрабіўся цэнтрам усяе баптысцкае думкі ў раёне. Далей

у складзе сэкты мы маем найбольшы процант няпісьменных і малапісьменных; ясна, што няпісьменнасьць і малапісьменнасьць зьяўляецца найбольш спрыяючай глебай для пашырэньня сэктанцтва. Вось чаму ліквідацыя няпісьменнасьці і малапісьменнасьці павінна быць пастаўлена, як баявая задача дня, задача барацьбы з рэлігійным дурманам, у прыватнасьці з сэктанцтвам.

## Рост сэкт і мэтоды сэктанцкай вярбоўкі

Прасочым цяпер, як расьлі сэкты. Сэкта Навасадзкага сельсавету мела наступную крывую росту. У 1925 г. была 1 асоба (сам кіраўнік—кулак), у 29 годзе—5 асоб; у канцы 1929 году—30 асоб; канец 1930 году—43 асобы (гэта даныя росту актыву). Сэкта Крупіцкага сельсавету ў 1927 г. пасьля першай агітацыі завербавала 1 асобу; у 1928 годзе—3 асобы; у 1931 годзе—5 асоб (весткі таксама актыву сэкты). Чым можна вытлумачыць рост сэктанцтва ў раёне, асабліва калі прыняць пад увагу, што, паводле слоў сялян, сэктанты сярод навакольнага насельніцтва ніякім аўторытэтам не карысталіся. І калі да 1927 году адносіны насельніцтва да сэктантаў былі цярпімыя, дык пазьней сяляне пачалі кпіць з іх.

Гэта зьявішча—рост сэкт, можна тлумачыць тым, што з шырокім разгортваньнем соцыялістычнага будаўніцтва і пераходам у наступленьне на капіталістычныя элемэнты раёну клясавы вораг—кулацтва—ўзьняла шалёную агітацыю, каб затармазіць і перашкодзіць пасьпяховаму соцыялістычнаму будаўніцтву. Вось чаму мы маем вялікую актыўнасьць кулацтва ў справе пашырэньня і росту сэкт, вось чаму клясавы вораг з вялікай стараннасьцю працуе над утварэньнем баптысцкіх сэкт, як прылады для змаганьня супроць інтарэсаў партыі і пролетарыяту ў цэлым. Па-другое, рост сэкт трэба тлумачыць і тым, як мы пазьней убачым, што пастаноўка працы і мэтоды сэктанцкай вярбоўкі былі вельмі добра замаскаваны. Далей пры правядзеньні сваёй працы сэктанты стараліся выкарыстаць усе наяўныя недахопы нашага соцыялістычнага і культурнага будаўніцтва. Па-трэцяе, яны прыбягалі да ўсіх спосабаў агітацыі і ўплыву, каб толькі (па-езуіцку) дасягнуць свае мэты. Прыгледзімся бліжэй да іх працы.

Перш за ўсё трэба сказаць, што ў справе вярбоўкі ў сэкту на першай стадыі яе разьвіцьця адыграла вялікую ролю экономічная перавага кулака над навакольным насельніцтвам. Маючы свой вадзяны млын, кулак Красоўскі ператварыў яго ў ачаг, цэнтар сэктанцкай агітацыі. Кожнага селяніна, які прыяжджаў у млын і якога можна было па яго думцы павярнуць на „пуць ісьціны“, ён адводзіў да сябе ў хату і там перад раскрытым эвангельлем пачынаў адпаведную апрацоўку.

Калі гэтая апрацоўка давала станоўчыя вынікі, Красоўскі „выратаванаму“ чалавеку малоў збожжа без чаргі і іншы раз, у „імя Хрыстова“, звальняў яго ад памольнага збору. Такая цырамонія паўтаралася да той пары, пакуль „заблудшы“ ня ўступаў у сэкту, непаслухмянага-ж, які і слухаць не хацеў яго агітацыі, кулак выпраўляў з млыну і перад усім натоўпам, які зьбіраўся ў млыне, пускаў усьлед яму праклянцьці. Вядома, што хата і млын былі прыбраны адпаведнымі лёзунгамі, якія мірылі бедняка з кулацкай эксплёатацыяй, напрыклад, „всегда радуйтесь“, „непрестанно молитесь“, „за всё благодарите“ і г. д.; усё гэта прыводзіла да таго, што менш упартыя траплялі пад уплыў кулака.

Нядзельныя дні і дні сьвят не праходзілі для кулака дарма. Ён зьяўляўся заўсёды там, дзе бачыў натоўп—ці каля царквы, ці ў кооперацыі, ці на вясельлі і г. д. Усюды зьяўлялася фігура кулака з выглядам „збаўцы“. Ён пачынаў сваю агітацыю, трапна зьвязваючы дзеяньні прысутных з „навуковымі“ данымі і ўказаньнямі эвангельля і бібліі.

Акрамя гэтага праводзілася праца і па індывідуальнай апрацоўцы. Кулак Красоўскі добра ведаў фізычныя недахопы і звычкі кожнага селяніна свае мясцовасьці. Гэтыя фізычныя недахопы і недахопы звычкі ня міналі кулацкай увагі. Яны ім выкарыстоўваліся ў вярбоўчых агітацыйных мэтах. Кулак не затрымліваўся ні перад якімі няўдачамі ці перашкодамі. Сыстэматычна праводзячы адпаведную работу сярод гэтай групы людзей, ён усё-ж дасягаў сваёй мэты па вярбоўцы навакольнага сялянства ў сэкту.

Гэтая вярбовачная праца праводзілася кулаком на першай ступені організацыі сэкты. І пасьля таго, як быў скалочаны сэктанцкі актыў з людзей, якія зрабіліся ў поўным сэнсе слова кулацкімі падпяваламі, праца прыняла больш шырокі размах. Завязалася сувязь з сэктамі іншых раёнаў — Пухавіцкім і Узьдзенскім; асабліва цесная сувязь з менскім баптысцкім цэнтрам, які ўзяў на сябе абавязкі дырэктыўнага кіраўніцтва і жывога інструктажу сэкты. Першым лёзунгам цэнтру быў лёзунг—барацьбы за моладзь. Заваяваць моладзь—гэта значыла адарваць яе ад комсамольскіх і грамадзкіх організацый, зрабіць яе паслухмянай прыладай у барацьбе за справы варожай клясы, за кулацкія інтарэсы. На гэту працу была зьвернута галоўная ўвага. Пускаліся ў ход усе магчымыя спосабы вярбоўкі і скарыстоўваліся ўсе магчымыя легальныя віды агітацыі. Так, усе сьвяточныя дні, у часе якіх адбываліся добра абсталяваныя малебствы сэкт, праходзілі пад лёзунгам: больш моладзі на малебствы. Кожны член сэкты на малітву павінен прывесьці з сабою аднаго несэктанта. Перад кожным такім сходам праводзілася і адпаведная агітацыйна-растлумачальная праца сярод навакольнага насельніцтва. Вядома, што такая агітацыя была насычана цытатамі з эвангельля і бібліі. Уся гэта агітацыйная праца праводзілася пад найважнейшым кіраўніцтвам і наглядам менскага баптысцкага цэнтру, які рабіў сыстэматычныя пасылкі ў раён сваіх інструктароў. Гэтыя інструктары, паводле слоў сялян, літаральна назалялі, як мухі. Па сьвяточным дням іх заўсёды можна было бачыць сярод сышоўшыхся сялян. Іх прыкрыя сыстэматычныя гутаркі аб богу, аб рэлігіі, аб грэшнасьці на гэтай зямлі абуралі іншы раз сялян, і яны гналі агітатараў з вёскі. Але гэткая няўдача ні ў якім разе не расчароўвала прамоўцаў, яны нанава шукалі выгоднага моманту, каб нанова ў іншым месцы выступіць у ролі збаўцаў душ прысутных ад грахоў. Асабліва сэктанцкія інструктары дбалі аб агітацыі на кожнай вечарыне, на кожным яе зборышчы і пагулянцы. Калі-ж агітацыя сярод моладзі не давала жаданых вынікаў, кіраўнікі сэкт пераходзілі да агітацыі фактамі і дзеяньнем. Рабілася гэта вельмі проста. Да тых, хто, па думцы кіраўніка сэкты, мог падпасьці пад уплыў сэкты, пасылаліся агітатары процілеглага полу: к хлапцу дзяўчына і наадварот (агітатар абіраўся, вядома, фізычна прыгожы). Агітацыйная праца праводзілася пад акомпанімэнт пустых слоў аб каханьні, аб шлюбе і г. д. Гэтыя фальшывыя цэрамоніі цягнуліся да той пары, пакуль канчаткова не атрымлівалася перамога над „заблудшым“. Вядома, на працягу гэтай цэрамоніі адбываліся паездкі агітатараў у Менск ці ў іншыя малельныя месцы, дзе

малебствы набывалі характар харавога вечару, пяяліся песьні, вяліся набожныя гутаркі.

Вось што расказвае пра сябе 19-гадовая дзяўчына, беларуска з вёскі Паўсьце. „Да мяне прыехаў малады, прыгожы, сярэдняга росту хлапец з Менску, які быў мне адрэкомэндаваны Красоўскім. Яго візыты да мяне пасьля гэтага знаёмства зрабіліся вельмі частымі. Гаварыў ён мне часта аб каханьні, абяцаў са мною ажаніцца, я яму паверыла, бо ўсё гэта ён гаварыў мне без якіх-бы то ні было зьняважальных слоў. Затым некалькі разоў вазіў ён мяне за свой кошт у Менск, у маліцьвены дом, дзе мне спадабалася іх маленьне, іх паводзіны паміж сабою. Я рашыла стаць баптысткай і пачала наведваць маліцьвены дом у сваім сельсавеце. Цяпер ня веру, бо бачу, што мяне абманвалі“.

Другі факт: да аднаго актыўнага комсамольца Крупіцкага сельсавету была падаслана дзяўчына з баптысцкага цэнтру Пухавіцкага раёну, якая настолькі заўладала 20-гадовым хлапцом, што ён дзеля яе кінуў комсамол і канчаткова перашоў у лягер баптыстаў.

Практыкавалася і такая махінацыя, калі кіраўнікі сэкт сыстэматычна за „невядомы“ кошт (вядома кулацкі) вазілі моладзь у Менск, у маліцьвены дом, дзе стваралі атмосфэру нібы брацкіх адносін, атмосфэру, якая спрыяла пераходу моладзі ў лягер сэктанцтва.

Акрамя прыведзеных мэтодаў вярбоўкі, агітатары з цэнтру практыкавалі і такі спосаб. Прывозілі або куплялі ў мясцовай коопэрацыі некалькі кілё цукерак, з якімі ішлі ў натоўп моладзі, у натоўп дзяўчат. Там, як дабрадзецелі, раздавалі цукеркі і тут-жа распачыналі свае евангельскія антымоніі. Вядома, што ўжыць такі мэтод вярбоўкі здольны толькі такія людзі, як баптысцкія агітатары з Менску, якія, відаць, нашу моладзь лічаць няздольнай бачыць пад маскай баптыстаў азьвярэлы твар клясавага ворага, лічаць, што яна лёгка паверыць у дабрадзейнасьць і ласкавыя словы кулацкіх падпявалаў.

У шырокім маштабе сэктанты практыкавалі агітацыйную вылазку ў масы іншых сельсаветаў, іншых мясцовасьцяў. Гэта рабілася з мэтай популярызацыі баптызму і вярбоўкі ў сэкту. Вылазку рабіў актыў сэкты, або ўвесь разам, або ў некаторыя пункты паасобнымі групамі. Кіраўнікам сэкт добра вядома, што ўсякая контррэволюцыйная агітацыя, накіраваная на адурманьваньне працоўных мас, караецца законам як контррэволюцыйнае злачынства, а таму свае вылазкі яны прыкрываюць нявіннымі формамі. Так, вылазка ў вёску Каськавічы адбылася пад відам вандроўцаў, якія затрымаліся на начлег у вёсцы. З такога „начлегу“, вядома, распачыналася адпаведная агітацыйная праца. Апрацаваўшы адпаведным чынам гаспадароў, яны, пры дапамозе гаспадара, наступным разам склікалі савецка-варожы „актыў“, з якім праводзілася адпаведная праца.

У часе гэтых маленьняў сэктанты галоўным чынам зьвярталі ўвагу на недахопы культурна-масавай працы на вёсцы. Малым фактам перад масай яны надавалі вялізарнае значэньне, заяўляючы, што грамадзтва Савецкага саюзу настолькі заняпала, што трэба яго ратаваць, трэба накіраваць на пуць ісьціны, бо надыходзіць канец сьвету. На гэта падацца мог толькі чалавек няпісьменны і малапісьменны, які слаба орыентуецца ва ўсім тым, які прогрэс робіць навука і які прогрэс зрабіла савецкая краіна, дабіўшыся вялізарнейшых посьпехаў у справе непасрэднага социялістычнага будаўніцтва. На гэтую вудачку маглі папасьці людзі, якія па свайму сьветапогляду не знайшлі і не маглі знайсьці самі выхаду з наяўных момантаў някультурнасьці і розных

„извращений“, што іншы раз наглядаецца сярод насельніцтва. Дапамагчы ім знайсьці той выхад, які ўказвае партыя для падняцьця культурнасьці і дабрабыту працоўных мас, нашы раённыя культасьветныя організацыі не змаглі. Гэта скарыстаў варожы элемэнт, зрабіўшы гэтых людзей пакорнай прыладай у сваіх руках.

Клясавы вораг скарыстаў недастатковасьць працы нашых культасьветных організацый, зрабіўшы з гэтага адпаведны клясава-варожы вывад. Вось чаму ў тых сельсаветах і вёсках, дзе не прывілася прышчэпаўшчына і дзе пастаноўка культурна-асьветнай працы была большменш здавальняючая, сэктанцтва не знайшло для сябе адпаведнага грунту. Я кажу больш-менш здавальняючага таму, што ў раёне ўцэлым культурна-асьветная праца не на патрэбнай вышыні.

## Сэктанцтва і колектывізацыя

Затрымаемся цяпер на пытаньні адносін сэктанцтва да колектывізацыі. Як агульнае правіла, кожная рэлігійная організацыя, кожны рэлігійнік становіцца на дыбы супроць колектывізацыі. Клясавы вораг падняў усё і ўся на ногі, каб толькі перашкодзіць пераможнаму колгаснаму руху. Тут і актыўныя дзеяньні, падпал колгаснае маемасьці, замах на лепшых барацьбітоў за колектывізацыю і замаскаваныя лёзунгі левых слоў, якія так ці іначай накіраваны супроць колектывізацыі і колгаснага руху. Першым лёзунгам сэкт Койданаўшчыны быў лёзунг: „веруючы ва Хрыста, змагайся з колгасам“. Першая дырэктыва прайшла пад знакам: „няма брата па Хрысту, які быў-бы колгасьнікам“. І мы маем такое становішча, што на першым этапе колгаснага руху ніводзін сэктант не ўвайшоў у колгас. Надышла вясна 1931 году. Партыя выкінула лёзунг: — за веснавую сяўбу ня менш 35 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у колгасы. Надышоў другі этап. Раённыя партыйныя організацыі ў барацьбе на два франты — супроць правага ўхілу ў колгасным руху, як галоўнай небясьпекі на даным этапе і супроць левых заскокаў і загібаў (хаця факты левых загібаў меліся і ў працы саміх райоргарнізацый) дасягнулі вялізарных посьпехаў у справе аб'яднаньня шырачайшых бядняцка-серадняцкіх мас у колгасы.

Колгасны рух Койданаўшчыны пачаў расьці з нячуванай хуткасьцю. Калі на 1 студзеня 1931 году колгасамі было аб'яднана 21,4 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, дык 30 красавіка маецца ўжо 39,6 проц., 1 чэрвеня — 53 проц., 15 чэрвеня—81,4 проц., 30 чэрвеня — 90,6 проц., 1 жніўня — 92,1 проц. і 1 кастрычніка—94 проц. А па паасобным сельсаветам колектывізацыя дасягнула 95 і 100 проц. Партыйныя організацыі раёну, вядучы ў асноўным правільную лінію ў колгасным руху, перамаглі ўсе перашкоды, ня гледзячы на контррэволюцыйную сэктанцкую агітацыю. Сэкта Навасадзкага і Крупіцкага с/с. засталіся бяз першых сваіх організатараў. Прышлося самім сэктантам рэорганізоўвацца на хаду. Зараз быў абраны галава сэкты, падкулачнік, які пад дбалым кіраўніцтвам менскага баптысцкага цэнтру праводзіў і далей кулацкую політыку. Прышлося шукаць выхаду з склаўшагася становішча. Уся маса бядняцка-серадняцкіх гаспадарак на заклік партыі на 94 проц. аб'ядналася ў колгасы, а тыя, хто ня ўступіў у колгасы, сталі перад фактам надзелу іх зямлёй за межамі колгасных палёў. Горш за ўсё для сэктантаў было тое, што яны трацілі магчымасьць праводзіць сэктанцкую працу сярод насельніцтва, трацілі магчымасьць мець адносны ўплыў на яго. Тут прышлося ў сілу гэтых акалічнасьцяў зьмяніць ранейшы лёзунг на лёзунг супроцьлеглы, — менавіта—

веруючыя ва Хрыста павінны стаць колгасьнікамі. Вось прычына таго, што ўсе сэктанты ўвайшлі ў колгасы. Але вядома гэта ня значыць, што сэктанты раёнаў зьмянілі свой палітычны твар, адмовіліся ад правядзеньня кулацкай палітыкі, кулацкай ідэолёгіі. Кулацкая мэтаімкненасьць падарваць колгасны рух і надалей застаецца цэнтральным пунктам увагі сэктанта. Пад кіраўніцтвам „левай фразы“ за колгас, яны знутры колгасу, пралазячы ў праўленьне колгасу, пачынаюць сваю шкодную працу. Але гэтая праца — не адкрытая агітацыя, не адкрытыя ўчынкі, гэта праца консьпірацыйная.

І цікава, што з таго часу, калі партыя прыступіла да ліквідацыі ў раёне кулацтва, як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі, з часу, калі былі раскулачаны і высланы за межы раёну першыя арганізатары сэкт — кулакі Красоўскі, Юхновіч, сэкты і сэктанцкая праца прымае нелегальны характар. Сэктант ніколі не пачне з гутаркі аб сэкце і баптысцкім вучэньні, ніколі ня прызнаецца незнаёмаму чалавеку, якога ён ня ведае, што ён член сэкты, і дарэмны будуць спробы ў гэтым кірунку што-небудзь выведаць.

Гэтую консьпірацыйнасьць сэкт трэба падкрэсьліваць таму, што раённыя організацыі Койданаўшчыны, дзякуючы гэтаму, ня ведалі аб існаваньні сэкт. Таму гэты момант неабходна ўлічыць у іншых раёнах суцэльнай колектывізацыі, дзе магчымы такія-ж адказы, што ў нашым раёне зараз ніякіх сэкт няма.

Далей цікавы яшчэ і той момант, што, у сувязі з нелегальным становішчам, мэтоды працы сэкты таксама зрабіліся іншымі. Сэктанты значна звузілі адкрытую агітацыю. Ужо не даведаешся, дзе і калі адбываюцца маліцьвеныя сходы. Ужо нельга ўбачыць актывістаў з Менску на раёне ў кожны сьвяточны дзень. Іх візыты на раёне зусім няпрыкметныя несыстэматычныя і нявызначаныя. Яны зьяўляюцца толькі на кватэрах баптысцкага актыву, на хутарох і пасёлках—Батурава, Разаны і інш. хутарох Навасадзкага сельсавету. Сэктанты сваю працу пераключылі на іншыя рэйкі, яны клапоцяцца аб тым, каб пралезьці ў праўленьне колгасу і працай з сярэдзіны падрываць колгас. Так, у вёсцы Коскі, Станькоўскага сельсавету, старшыня колгасу баптыст у часе працы праводзіць сярод колгасьнікаў агітацыю: „Работайце, работайце, бог работу любіць, але і бога не забывайце“. У Навасадзкім сельсавеце актыў сэкты працуе ўзорна. Мэта гэтае дбаласьці зусім ясная—заваяваць аўторытэт сярод колгасьнікаў, павесьці там адпаведную працу і вярбоўку з тым, каб з колгасу соцыялістычнага тыпу зрабіць колгас „брацьцяў, веруючых у Хрыста“. І сапраўды прыходзілася чуць гутаркі сярод сялян, што „глядзі якія яны на працы і як добра працуюць. Нябось, калі бога не забываюць, дык і людзі працавітыя. Гэтаму трэба-б было і нам навучыцца ў іх“.

Зусім іншы малюнак наглядаецца ў другой сэкце, якая мае цэнтар у Пухавіцкім раёне, дзе яшчэ на сёнешні дзень не прайшла суцэльная колектывізацыя. Там барацьба супроць колектывізацыі сэктантамі праводзіцца з усёй жорсткасьцю, адкрыта. У гэтай сэкце няма ніводнага колгасьніка.

Праўда, трэба сказаць, што за апошні час праца і гэтай сэкты набывае таксама консьпірацыйны характар. Адчуваецца несыстэматычнасьць у наведваньні агітатарамі паасобных сельсаветаў Койданаўскага раёну, зараз ужо вельмі цяжка даведацца дзе і калі адбываюцца сэктанцкія сходы.

## Адносіны сэктанцтва да комуністаў

Цікавым момантам, які неабходна тут адзначыць, зьяўляюцца адносіны сэктантаў да комуністаў. Трэба сказаць, што нянавісьць сэктантаў да партыі і комуністаў упаўне законная з клясавага пункту погляду, але гэтая нянавісьць заўсёды замаскавана. Варожы твар прыкрываецца „левым словам“. Комуніст для сэктанта, паводле яго перакананьняў і ідэй, не зьяўляецца ворагам. „Гэта чалавек,—кажа намесьнік старшыні сэкты,—які мае тыя самыя ідэі, што і мы сэктанты. Комуністы імкнуцца пабудаваць комуністычнае громадзтва,—мы таксама імкнемся да гэтага грамадзтва, дзе ня будзе варожасьці, дзе чалавек чалавеку будзе братам. Комуністы змагаюцца супроць алькоголю, курэньня, лаянкі, распусты і г. д., мы—таксама. Комуністы зараз прапаведуюць організацыю колгасаў-комун—мы таксама імкнемся да брацкіх комун. Але нам нашых комун савецкая ўлада не дазваляе організоўваць. Каб нам гэта было дазволена, то мы на практыцы далі-б, што мы—тыя самыя комуністы. Таму мы комуністаў паважаем“. Калі пытаньне было пастаўлена так, што ці ня лепш-бы было пакінуць сэктанцтва, якое шкодзіць комунізму, якое праводзіць кулацкія ідэі, і перайсьці ў партыю, дзе разам з комуністамі змагацца за комуністычныя ідэі. Адказ быў такі: „Мы ня можам гэтага зрабіць таму, што комуністам бог не патрэбен, а для нас бог—гэта ўсё, без яго нельга нічога зрабіць“. Адказ сьпярша здаецца наіўным, але на справе ён вельмі лоўка замаскаваны. Ня бог дае розьніцу паміж комунізмам і сэктанцтвам. Прычынаю варожасьці зьяўляецца тая клясавая супярэчнасьць, якая ляжыць між інтарэсамі партыі, як перадавой часткі пролетарыяту, якая змагаецца за інтарэсы яго, і сэктанцтвам, якое адбівае і праводзіць інтарэсы кулацтва, інтарэсы буржуазіі. Таму левая фраза „інтарэсы нашы і комуністаў адны, мы—за комуністаў“—зьяўляецца ня больш ня менш, як утончанай формай, пры дапамозе якой сэктанты хочуць надаць сваёй працы аўторытэт партыі і за гэтым аўторытэтам праводзіць сваю шкодную працу і барацьбу з партыяй.

Што-ж датычыцца комсамолу, дык сэктанты ў ім бачаць толькі цёмнае, сапсутае, аморальнае. Комсамол — гэта організацыя, якую трэба-б было партыі даўно распусьціць. Там поўны распад і парушэньне комуністычных формаў этыкі.

„Калі-б мае дзеці,—кажа намесьнік кіраўніка сэкты,—былі ў комсамоле, я-бы іх пракляў і выгнаў з дому“. Нянавісьць да комсамольскае організацыі ўпаўне законная з клясавага пункту погляду. Моладзь раёну не пайшла за сэктанцкай агітацыяй. Найменшы процант у сэкце мы маем якраз сярод комсамольскага ўзросту. Комсамол пасьпяхова змагаецца за моладзь з усякімі спробамі ўсіх рэлігій і, у прыватнасьці, з спробамі сэктанцтва перацягнуць яе на свой бок. Таму сэктанцтва з усёй нянавісьцю ўзброілася супроць комсамолу, як організацыі, якая вельмі энэргічна змагаецца з сэктанцтвам.

Далей сэктанцтва ня менш узброілася супроць піонэрскіх організацый, бачачы ў гэтай організацыі ўсё тое, чаго, па іх думцы, не павінна быць. Па думцы баптыстаў у піонэры ідуць тыя дзеці, якія па свайму хуліганству выходзяць з-пад уплыву бацькоў. Таму сэктанцтва прымае ўсе меры, каб захаваць сваіх дзяцей ад гэтай „заразы“. Дзеля гэтага сэктант сваіх дзяцей ня пускае гуляць з дзецьмі іншых сялян, бо яны могуць навучыць яго дзяцей хуліганіць і ўгаварваць іх запісацца ў піонэры. У школу сэктант дзяцей пускае, бо баіцца штрафу

Затое пасьля школы, адарваўшы дзяцей ад зьнешняга ўплыву, сэктант пачынае сваю адпаведную апрацоўку, пачынае адурманьваць дзіця рэлігійным дурманам.

Словам адносіны сэктанцтва да комуністаў і іх вялікага рэзэрву—комсамолу і піонэрскіх організацый—клясавая варожыя. Клясавая нянавісьць і клясавая барацьба з партыяй праводзіцца ня менш жорстка і ўпарта (але схавана), як і з комсамольскімі і піонэрскімі організацыямі. Гэтая нянавісьць выяўляецца толькі ў іншых формах да партыі, чым да комсамолу і піонэрорганізацый. Там замаскаваная форма—„мы за партыю, за комуністаў", тут—выразная вочная нянавісьць. Але і там і тут—адна нянавісьць, адна барацьба—гэта нянавісьць да ворага клясы, барацьба не на жыцьцё, а на сьмерць.

Да чаго-ж у асноўным павінны зьвесьціся нашы вывады, атрыманыя з дасьледваньня сэктанцкіх організацый раёну? Па-першае, сэктанцтва, як адна з відаў рэлігійных організацый, па працы, якую яно праводзіць, па мэтодам вярбоўкі, барацьбы за моладзь, барацьбы супроць колгаснага руху і г. д., зьяўляецца організацыяй, якая адбівае інтарэсы і праводзіць працу варожай контррэволюцыйнай клясы—кулацтва, клясы, якая ў барацьбе супроць соцыялістычнага наступленьня выкарыстоўвае сэктанцтва як прыладу для дасягненьня сваіх мэт.

Па-другое—колгасны рух, які ахапіў шырачэйшыя бядняцка-серадняцкія масы раёну, і ліквідацыя кулацтва на базе суцэльнай колектывізацыі, усё гэта канчаткова вырвала глебу з-пад ног сэктанцтва. Легальныя формы барацьбы супроць колектывізацыі сталі немагчымы. Таму сэктанцтва пачало шукаць іншыя формы клясавай барацьбы. Такімі формамі для сэктанцтва зьявіліся консьпірацыйна-замаскаваныя формы, не адкрытая агітацыя, не адкрытыя ўчынкі (хаця і гэтыя формы не ігноруюцца ў зручных выпадках), а патайная агітацыя пад прыкрыцьцем левых слоў, пад відам актыўных дапаможнікаў соцыялізму.

Таму сэктанцтва, як рэлігійную організацыю, якая найбольш тонка і замаскавана праводзіць сваю шкодную кулацкую працу, вядзе сваю патайную вярбоўку, трэба лічыць вельмі небясьпечнай організацыяй у Койданаўскім раёне, побач з каталіцызмзм. Вось чаму на гэтыя рэлігійныя організацыі павінна быць зьвернута пільная ўвага нашых ваяўнічых бязбожных організацый раёну.

---

**Ф. П. Міхневіч**

# Аб лясох БССР

Беларусь—гэта краіна лясоў. Яна з даўных часоў славілася сваімі дрымучымі, непраходнымі пушчамі. Яшчэ ў другой палове мінулага стагодзьдзя агульная плошча лясоў на тэрыторыі сучаснай БССР складала каля 4.900.000 га, або 45 проц. ад агульнай тэрыторыі. З гэтай плошчы 86 проц. прыпадала на долю прыватных уладароў, такім чынам, лясныя багацьці БССР да Кастрычнікавай рэволюцыі амаль што цалкам знаходзіліся ў руках памешчыкаў-капіталістаў, якія ў пераважнай колькасьці гаспадарылі ў лясох бяз пляну. Высечка лесу вялася самым бяссыстэмным спосабам. У шмат якіх лясных дачах былі пабудаваны лесапільні і, дзеля атрыманьня пілавальнага матар'ялу, лясы высякаліся бязьлітасна. У выніку такой гаспадаркі каштоўныя пароды як дуб, ясен, чорная вольха, клён і інш. к моманту рэволюцыі былі амаль што зьнішчаны. Акрамя таго, экономічныя і соцыяльныя ўмовы жыцьця народу ў часы прыгону налажылі свой адбітак на былыя панскія лясы. У той час, калі лясы ня прыносілі амаль што ніякага прыбытку з прычыны адсутнасьці збыту і шляхоў зносін, усё багацьце паноў складалася з колькасьці падданых сялян, дзеля чаго паны заахвочвалі сялян да распрацоўкі лясных плошчаў пад с.-г. ўжыткоўнасьці. Сяляне, карыстаючыся гэтым, выпальвалі баравыя плошчы лясоў, каб ня вельмі многа працы траціць на раскарчоўку, і засявалі іх, а калі пяшчаная глеба бяднела і не давала больш ураджаяў, рабілі новыя распрацоўкі. Вось чаму так часта б. прыватныя лясы бываюць зрэзаны зьдзірванелымі палянамі розных плошчаў.

Лясы БССР у пэрыод імпэрыялістычнай і грамадзкай войнаў перанесьлі высечкі. У часы польскай окупацыі, пры адыходзе палякаў з Беларусі, лясы нашы гарэлі, а гасіць іх ня было каму. Усё гэта клала свой адбітак. Па сваёй лясістасьці, якая вызначаецца ў сярэднім каля 26 проц., БССР займае першае месца ў параўнаньні з заходнімі раёнамі РСФСР—23 проц., УССР—7,3 проц., Польшча—22,8 проц., Літва—19,1 проц., Германія—23 проц.

Чацьвертая частка сучаснай тэрыторыі БССР пакрыта лliving лясnымі масывамі. Паводле апошніх даных лясы БССР займаюць агульную плошчу ў 3.692.000 га (Лесбел), якая разьмяркоўваецца на лясы дзяржаўнага значэньня—3.142.000 га і лясы мясцовага значэньня—550.000 га. Пакрыта лесам—2.768.000 га. Кліматычныя і глебавыя ўмовы БССР вельмі спрыяюць як вырашчваньню высокаякаснай і каштоўнай драўніны, так і той разнастайнасьці дрэўных парод, якія сустракаюцца ў яе лясох. У склад дрэвастанаў лясоў БССР уваходзяць наступныя

пароды: сасна, елка, дуб, ясен, чорная вольха, асіна, бяроза, клён, граб, ліпа, лём і інш.

Лясы дзяржаўнага значэньня па пародах разьмяркоўваюцца наступным парадкам:

пад сасной—51%
„ елкай—17%
„ дубам і ясенем—5%
„ альхой—7%
„ бярозай, асінай і інш. лістав. пародамі—20%.

У лясох мясцовага значэньня пад іглатымі—65 проц. і пад ліставымі—35 проц.

Пры разьмеркаваньні лясоў дзяржаўнага значэньня паводле ўмоў месцаўзросту (на клясы бонітэту) па пародах у проц. атрымаем наступную табліцу:

Табл. № 1.

| Парода | Клясы бонітэту | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | IV | V |
| Сасна . . . . . . . . . | 17 | 37 | 35 | 6 | 5 |
| Елка . . . . . . . . . | 48 | 41,4 | 9 | 1,4 | 0,2 |
| Дуб . . . . . . . . . | 12,7 | 61 | 23 | 3,3 | |
| Альха . . . . . . . . | 22 | 54 | 21,5 | 2,5 | |
| Асіна . . . . . . . . | 64,3 | 29,6 | 5,9 | 0,2 | |
| Бяроза . . . . . . . . | 22,6 | 37,1 | 27,5 | 10,7 | 2,1 |

Пры разьмеркаваньні лясоў дзяржаўнага значэньня ў межах парод па ўзростах у проц. атрымоўваем наступную табліцу:

Табл. № 2.

**Сасна і елка.**

| ад 1—40 год | 41—60 г. | 61—80 г. | 81 г. і выш. |
|---|---|---|---|
| 41% | 20% | 17% | 22% |

**Дуб і ясен.**

| ад 1—40 г. | 41—80 г. | 81—120 г. | 121—160 г. | 161 г. і выш. |
|---|---|---|---|---|
| 14% | 43% | 26% | 9% | 8% |

**Альха.**

| ад 1—20 г. | 21—40 г. | 41—60 г. | 61 г. і выш. |
|---|---|---|---|
| 29% | 25% | 17% | 29% |

**Іншыя ліставыя пароды.**

| ад 1—20 г. | 21—40 г. | 41—60 г. | 61 г. і выш. |
|---|---|---|---|
| 35% | 27% | 19% | 19% |

Пры разглядзе табліцы № 2 можна адзначыць недахоп сьпелых і дасьпяваючых дрэвастанаў, праўда, гэта неаднолькава па ўсёй тэрыторыі БССР.

БССР знаходзіцца ў зоне інтэнсыўнай лясной гаспадаркі і мае цэлы рад фактараў, якія дапамагаюць разьвіцьцю лесаэкспорту. Перш

за ўсё трэба адзначыць багацьці ў БССР сплаўных і суднаходных рэк, належачых да трох басэйнаў—Заходняй Дзьвіны, Дняпра і Нёману, потым наяўнасьць багата разьвітай чыгуначнай сеткі. Па даным пераліку лесасек 29/30 г. відаць, што як запас, так і сярэдні прырост, які выяўляецца ў 2,4 куб. мэт. на га—значна зьніжаны. Калі параўнаць гэта карыстаньне з нормальным прыростам дрэвастанаў для сярэдніх умоў росту БССР (5 куб. м.), дык прыдзем да вываду, што лясная гаспадарка БССР знаходзіцца ў дрэнным становішчы, лясы яе вельмі



Сасновы дрэвастан І-а боніт., узр. 130 г. Пруд-Баранскае л-цтва (Барысаўшчына).

вынішчаны і патрэбна вялікая асьцярожнасьць у сэнсе іх эксплёатацыі. Добрыя-ж кліматычныя і глебавыя ўмовы даюць поўную мажлівасьць давесьці прырост нашых лясоў да прыросту лясоў Германіі, іначай кажучы, прырост павінен быць павялічаны на 75 проц.

У нас цяпер значна зьнізілася лясістасьць, ёсьць раёны, дзе нельга здаволіць запатрабаваньні ў мінімальных нормах, як, напр., Слуцкі раён, лясістасьць якога складае каля 0,1 га на чалавека.

Лесаўпарадкаваная плошча складае 92 проц. ад агульнай плошчы, што-ж датычыцца адміністрацыйна-гаспадарчых адносін, дык усе лясы БССР падзелены на 65 леспрамгасаў.

БССР у сваіх палітычных межах выцягнута з поўначы на поўдзень, што складае звыш 500 кілёмэтраў, і ў гэтым кірунку найбольш прыметны зьмены як у клімаце, так і ў расьліннасьці.

У паўночнай частцы распаўсюджаны іглястыя дрэвастаны—сасновыя, якія распаўсюджаны па ўсёй Беларусі—інтразональныя [1]) і мяшаныя лясы з значным панаваньнем елкі—Picea excelsa—з невялікаю дамешкаю шыракаліставых парод—дубу, клёну і па паніжаных мясцох—ясену.

Як відаць з табліцы разьмеркаваньня дрэўных парод, якія насяляюць лясы Беларусі, сасьне належыць дамінуючае месца, прычым яна часта ўтварае суцэльныя масывы, якія цягнуцца на дзесяткі кілёмэтраў. Знаходзячы на ўсёй тэрыторыі БССР спрыяючыя ўмовы росту, сасна ўтварае вельмі прыгожыя дрэвастаны, некаторыя з якіх і да гэтага часу захавалі назву „карабельных гаёў“ з адпаведнымі лесатаксацыйнымі [2]) элемэнтамі. (Гл. фот. 1). (Пруд-Баранскае л-цтва, Барысаўшчына).

Зьяўляючыся вельмі каштоўнай пародай, сасна павінна карыстацца і ўважнымі лесагаспадарчымі адносінамі. Знаходзячыся пераважна на бедных глебавых участках, сасна не сустракае для сябе конкурэнтаў з боку іншых дрэўных парод, маючых да глебы больш шырокія запатрабаваньні. Але глебавыя ўмовы на адлегласьці ў значнай меры зьмяняюцца ў залежнасьці як ад рэльефу, так і ад характару падглебы, дзякуючы чаму ёсьць магчымасьць іншы раз назіраць астраўкі іншых дрэўных парод сярод сасны, а таксама сасна ўзрастае і на гэтых лепшых глебах.

Пры пасоўваньні на поўдзень проц. дамешкі елкі зьмяншаецца, дамешка-ж шыракаліставых парод павялічваецца як па колькасьці, так і па відавому складу. На поўдні БССР елка сустракаецца адзіночна, тут праходзіць паласа заходня-эўропейскага тыпу з значнаю дамешкаю грабу.

Дубовыя лясы і наогул дуб больш і часьцей сустракаецца на Палесьсі, дзе паасобныя дрэвы раней дасягалі вялізарных разьмераў. Так, напрыклад, на рачным судне, пабудаваным з адной дубовай калоды, у 1784 г. Станіслаў Аўгуст з сваёю сьвітаю ў 30 асоб аглядаў выкапаны Дняпрова-Бускі канал.

Дубы больш-менш вялікіх разьмераў у лясох на Мазыршчыне і Бабруйшчыне захаваліся і да нашых часоў.

Да ліку зьнішчаных дрэўных парод на БССР належыць мадрына—Larix europaea, якая раней досыць часта сустракалася ў лясох Случчыны.

У сучасны момант лясы БССР зьяўляюцца магутным фактарам індустрыялізацыі краіны, а таксама і галоўнай крыніцай дзяржаўнага прыбытку.

Але лясы нашы вельмі мала вывучаны. Абсьледваньне НК РСІ СССР лясной гаспадаркі і лясной прамысловасьці БССР, ня гледзячы на вялікія дасягненьні, паказала, што як лясная гаспадарка, так і лясная прамысловасьць знаходзяцца яшчэ на досыць нізкім культурным роўні як у сэнсе аховы лесу, лесааднаўленьня і г. д. Пры хэмізацыі краіны, прамысловасьці і сельскай гаспадаркі лесу належыць вялікая будучыня.

---

[1]) Нямаючыя сталай мяжы распаўсюджаньня.

[2]) Разьмеры ў грубіню, вышыню, зьбежыстасьць.

Суцэльная колектывізацыя сельскай гаспадаркі стварае найлепшыя ўмовы для палепшаньня і разьвіцьця лясной гаспадаркі як у сэнсе аховы, аднаўленьня, так і эксплёатацыі яе.

Краязнаўчыя організацыі, садзейнічаючы соцыялістычнаму будаўніцтву шляхам вывучэньня краю, павінны зьвярнуць увагу на гэты



Дуб, вышыня 35 м, таўш. 80 сан. Жорнаўская л-цтва (Бабруйшчына).

магутны фактар—лясы БССР. Лес можа задаволіць вялізныя патрэбы чалавека, пачынаючы ад вопраткі і канчаючы ядою.

Вывучаючы лясы, мы зможам дапамагчы хутчэйшаму зьнішчэньню ўсіх тых недахопаў, якіх так многа ў лясной гаспадарцы і лесапрамысловасьці. Апрача таго краязнаўчыя організацыі сваёй працай дапамогуць прыцягнуць увагу шырокіх колаў рабочых, колгасьнікаў і сялян, прыхільныя адносіны якіх да лесу значна павялічаць прыбытак і тым самым палепшаць дабрабыт рэспублікі.

В. Міхайлоўская

# Яшчэ да вывучэньня лекавых расьлін

Шпаркія тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва ў мэтах соцыялістычнай рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі высоўваюць на першы плян інтарэсы скарыстаньня натуральна-вытворчых сіл прыроды. Сучасны момант ставіць перад намі задачы поўнага скарыстаньня расьлінных рэсурсаў краіны Саветаў, а для гэтай мэты павінна быць усюды шырока разгорнута праца па вывучэньню таго, што нам можа даць расьлінны сьвет. Расьлінны сьвет даў нам ужо вельмі многа, але мы можам атрымаць ад яго яшчэ больш. Мы ведаем расьліны, якія маюць тэхнічнае значэньне (фарбоўныя, прадзільныя, каўчуканосн.), яны дасьледуюцца і вывучаюцца. Ведаем значную колькасьць расьлін, якія маюць у сваім складзе лекавыя матэрыі.

Лекавых траў у нас на БССР вельмі многа, яны ўсюды—у лесе, на лузе, у полі, але мы часта ня ведаем іх, ня ведаем і таго, наколькі яны для нас карысны. А між тым яны маюць вялікае значэньне для нашых аптэк і апрача таго служаць каштоўным об'ектам экспорту. Гэта справа загатоўкі лекавай сыравіны павінна быць шырока популярызавана, на яе павінны зьвярнуць увагу ўсе нашыя мясцовыя краязнаўчыя організацыі, бо нішто карыснае прапасьці не павінна.

Але для таго, каб мець магчымасьць правільна сабраць — мы павінны ведаць, якія расьліны лекавыя, як і дзе іх знайсьці, сабраць і падрыхтаваць. Мэтаю гэтага невялікага артыкулу і зьяўляецца памагчымасьці найбольш простае апісаньне некаторых лекавых расьлін, для таго, каб нашы дасьледчыкі-краязнаўцы маглі ведаць, якія расьліны карысны, як іх пазнаць, калі, як, дзе, зьбіраць і сушыць.

Кожная лекавая расьліна мае ў сваім складзе адно або некалькі лекавых матэрый. Пакуль яна расьце, гэтыя матэрыі назапашваюцца, і калі іх будзе найбольш (звычайна ў часе красаваньня), мы і павінны распачынаць іх збор. Апрача таго, ня ўсе часткі расьліны бываюць аднолькавы ў гэтых адносінах: часта лекавымі зьяўляюцца толькі кветкі, у другіх — лісьці, у трэціх лекавыя матэрыі сконцэнтраваны ў падземных частках—корані, сьцябло-корані, клубяні. Бываюць і такія расьліны, якія лекавыя цалкам, з лісьцямі, сьцяблямі, кветкамі. Пры зборы трэба гэта прыняць пад увагу і браць толькі патрэбныя часткі. Зьбіраць трэба ў яснае, сухое надвор'е, у час, калі расьліны ўжо абсохлі ад расы. Кветкі бяруцца без кветаножак і прыкветнікаў; лісьці выбіраюцца самыя зялёныя, здаровыя, жоўтыя выкідаюцца. Корані выкопваюцца, абціраюцца і абмываюцца халоднай вадою (толькі клубяні ятрышнікаў гарачай вадой). Калі корань вялікі, яго рэжуць на кавалкі і так сушаць. Для насеньня бяруць або ўсю расьліну цалкам,

высушваюць і выкалачваюць, або толькі плод. Сушыць трэба ў цяньку, бо на сонцы расьліна зжаўцее і страціць сваю каштоўнасьць. Для сушкі бяруць звычайныя рамы з нацягнутым палатном і ставяць дзенебудзь пад дахам, некаторыя можна і проста сушыць на вяроўках, зьвязаўшы іх у пучкі.

Ніжэй падаецца сьпіс некаторых лекавых расьлін, распаўсюджаных па БССР.

1. *Крываўнік звычайны (Achilea millefolium).*

Шматгадовая травяністая расьліна з многімі сідзячымі, пёркава расьсечанымі лісьцямі і шчытком белых або ружаватых кветак на канцы сьцябла. Зьбіраюцца толькі кветкі і лісьці (у чэрвені-ліпні).

У нас на БССР шырока распаўсюджана на сухіх лугох, палянах, у садох, часта на полі.

2. *Аер балотны (Acorus calamus).*

Шматгадовая травяністая расьліна з доўгім цыліндрычным сьцябло-коранем, на якім сядзяць невялікія барадаўкі. Ад сьцябло-кораня ўніз ідзе маса драбнюсенькіх карэнчыкаў. Уверх ідуць буйныя, зялёныя, мечавідныя лісьці і трохграннае сьцябло, якое нясе дробныя, жоўтыя кветкі, сабраныя ўпачатак. Ужываюцца толькі сьцябло-корані, якія выкопваюцца ўвосень. Прыбытковыя карэнчыкі абразаюцца, корань абмываецца, рэжацца на кавалкі і сушыцца. Часта зьнімаецца яшчэ і скурачка, якая ўжываецца ў парфумэрыі. На БССР аеру многа, ён расьце цэлымі зарасьнікамі па берагох рэк, вазёр, па балотам.

2. *Купальнік звычайны (Arnica montana).*

Арніка мае простае валасістае сьцябло з прыкаранёвым акружкам буйных лісьцяў і з 1-2 аранжавымі кошычкамі наверсе. Уніз ідзе кароткі, тоўсты сьцябло-корань, ад якога адыходзяць тонкія карэнчыкі. Красуе ў чэрвені-ліпні. Зьбіраюцца толькі кветкі, якія неабходна ўважліва аглядаць, каб ня было пашкоджаных шасьціножкамі. Ужываецца для ўрэгуляваньня сардэчнай дзейнасьці, для зажыўленьня ран, ушыбаў. У нас яна ёсьць (асабліва на Меншчыне) у лясох, на лузе.

*Мучаньнік звычайны (Arctostaphylos uva ursi).*

Дробны хмызьняк, з паўзучым па зямлі моцна галінаватым сьцяблом, з масаю дробных круглаватых, бліскучых скурападобных лісьцяў. Па свайму выгляду нагадвае брусьніку, адрозьніваючыся ад апошняй адсутнасьцю дробных, чорных залозак на ніжняй паверхні ліста. Кветкі ў форме бубенчыка, сьветла-ружовыя, у гронках. Зьбіраюцца толькі лісьці, у час, калі мучаньнік красуе (у маі-чэрвені). У нас мучаньнік сустракаецца ў іглавых лясох, часам на высечках.

*Быльнік-палын (Artemisia absinthium).*

Высокая шматгадовая травяністая расьліна, шараватая ад тонкага шаўкавістага лямцу. Лісьці тонка расьсечаныя, сідзячыя, ніжнія на чарашкох. Галоўкі дробныя, жоўтыя, сабраны ў мяцёлку. Зьбіраюцца і сушацца верхавінкі красуючага быльніку, ў ліпні-жніўні. На БССР яе многа расьце каля будынкаў, на палёх.

*Чарнобыль (Artemisia vulgaris).*

Высокая шматгадовая расьліна з простастаўным коранем і масай прыбытковых карэнчыкаў. Сьцябло цёмна-чырванаватага колеру, лісьці

сідзячыя, расьсечаныя, зьверху цёмна-зялёныя, зьнізу з тонкім белым лямцам. Кветкі сабраны ў концавую мяцёлку. Лекавымі зьяўляюцца толькі прыбытковыя карані, якія адразаюцца ад сьцябло-караня. Верхавінкі з кветкамі ўжываюцца ў народнай мэдыцыне. Расьце на палёх, каля будынкаў.

*Амежнік плямісты (Conium maculatum).*

Двухгадовая расьліна з высокім (да 75 см) пустым сьцяблом, часта з бура-чырвонымі плямамі. Дробныя кветкі сабраны ў парасонік. Зьбіраецца трава — лісьці, кветкі і насеньне, якое трэба зьбіраць да часу яго поўнай сьпеласьці, бо колькасьць лекавай матэрыі (коніїна) па меры высьпяваньня зьмяншаецца. Для насеньня зьбіраюцца парасонікі, якія высушваюцца і вытрасаюцца.

*Касталом лекавы (Cynoglossum officinale).*

Двухгадовая расьліна з простым галіністым сьцяблом, пакрытым валаскамі. Кветкі брудна-чырвоныя, сабраны ў аднабочныя гронкі на версе сьцябла і галінак. Зьбіраецца або корань, або ўся расьліна цалкам. Ужываецца ў народнай мэдыцыне ад усякіх хвароб.

*Рамонак праўдзівы (Matricaria chamomilla).*

Аднагадовая расьліна з галінаватым сьцяблом. Кветкі на доўгіх кветаножках, сабраны на канцох галінак у кошачкі. Ускрайнія кветкі ў іх язычковыя, белыя, унутраныя — жоўтыя, трубчатыя. Кветадоньне ў выглядзе конусу, полае. Лісьці чарговыя, пёркава-расьсечаныя. Зьбіраюцца толькі кошачкі, без кветаножак, увесь час, пакуль рамонак красуе. Расьце на палёх, межах і палянах.

*Бабок трылісьцёвы (Menyanthes trifoliata).*

Шматгадовая травяністая расьліна з горызонтальным, унутры полым сьцябло-каранем. Лісьці патройныя з овальнымі лісточкамі. Кветочнае сьцябло выходзіць з пазухі ліста і нясе гронку белых або ружаватых кветак. Зьбіраюцца лісьці перад пачаткам красаваньня. У нас на БССР бабок вельмі распаўсюджаны, расьце на балотах, у значнай колькасьці на вільготных лугох.

*Мацярдушка (Origanum vulgare).*

Шматгадовая расьліна з высокім, акруглым сьцяблом і паўзучым галінаватым сьцябло-каранем. Лісьці овальныя, на кароткіх чарашкох, кветкі дробныя, ружовыя, сабраныя ў шчыток. Зьбіраецца ўся расьліна цалкам (бяз караня) у часе красаваньня. Расьце на сухіх лясных палянах і сухіх мурагох, даволі распаўсюджана.

*Драсён (Polygonum hidropiper).*

Аднагадовая расьліна з сьцяблом, які часта набывае чырванаваты колер, і доўгімі лянцэтнымі з чорнымі плямамі лісьцямі. Кветкі вельмі дробныя, зялёныя, або ружаватыя, сабраныя ў доўгую павіслую гронку, якая выходзіць або з пазухі лісьцяў, або знаходзіцца на канцы сьцябла. Раней ужываўся выключна ў народнай мэдыцыне, зараз прызнаецца вельмі добрым сродкам супроць крывацёку. Зьбіраецца ўся расьліна бяз караня. На БССР драсёну многа, каля рэк, крыніц, на вільготных лугох.

*Мыльнік лекавы (Saponaria officinalis).*

Шматгадовая расьліна з доўгім паўзучым сьцябло-коранем і простым сьцяблом з лянцэтападобнымі процілежнымі лістамі. Сьветларужовыя кветкі сабраны ў парасонік. Ужываецца корань мыльніка, які дае сапонін. На БССР даволі распаўсюджаная расьліна, сустракаецца каля будынкаў, у садох, гародах, на межах у полі.

*Падбел звычайны (Tussilago farfara).*

Шматгадовая травяністая расьліна з сьцябло-коранем, ад якога ў першы год адыходзяць толькі вялікія лісьці, гладкія і халодныя з знадворнага боку, лямцаватыя і цёплыя з унутранога. На другі год выходзіць кветочнае сьцябло раньняю вясною. Сьцябло пакрыта бурымі лусачкамі і заканчваецца адзіночным жоўтым кошачкам кветак. Зьбіраюцца толькі маладыя лісьці падбелу, без черашкоў. На БССР распаўсюджана, каля рэк, балот, крыніц.

*Валяр'яна лекавая (Valeriana officinalis).*

Шматгадовая расьліна з кароткім вузлаватым сьцябло-коранем з многімі прыбытковымі карэнчыкамі. Сьцябло высокае, простае, барозчатае. Кветкі дробныя, ружаватыя, сабраныя на версе ў духавітую шчыткападобную мяцёлку. Зьбіраецца сьцябло-корань, разам з прыбытковымі карэнчыкамі ўвосень (у верасьні або кастрычніку). У нас на БССР шырака распаўсюджана, яе многа па зарасьніках, алешніках, на лугох і на балоце.

*Чамярыца белая (Veratrum lobelianum)*

Шматгадовая высокая расьліна з вялікімі, шырака-овальнымі, распаложанымі па сьпіралі, лісьцямі і густой гронкаю зеленавата-жоўтых кветак на версе сьцябла. Ужываецца сьцябло-корань, які выкопваецца позна ўвосень, або раньняю вясною. Расьце на вільготных лугох.

*Дыванна фіялетавая (Verbascum phlomoides, V. thapsiforme).*

Двухгадовая расьліна, якая на першы год дае толькі адзін акружак прыкаранёвых лісьцяў і кароткае сьцябло. На другі год выходзіць высокае, густа пакрытае валаскамі сьцябло з мяцёлкаю буйных жоўтых, лямцаватых кветак. Ужываюцца адны толькі вяночкі кветак, якія павінны зьбірацца ў сухую пагоду, бо мокрыя кветкі пры сушцы выйдуць цёмнымі, а гэта зьмяншае іх каштоўнасьць. Расьце на сухіх мясцох.

---

*Ад рэдакцыі:* У нумары 6 часопісу „Савецкая Краіна" за 1931 г. ужо быў зьмешчаны артыкул Л. Балкавец „Збор лекавых расьлін у БССР", у якім быў даны рад расьлін з указаньнем іх лекавай уласьцівасьці, часу збору і куды здаваць сабраную расьліну.

Гэты артыкул дае рад зусім іншых лекавых расьлін з падрабязным азначэньнем іх, а калі сустракаюцца 2-3 віды лекавых расьлін агульных для абодвых артыкулаў, то ня ў выглядзе паўтарэньня, а ў выглядзе дапаўненьня да таго, што было напісана ў артыкуле Л. Балкавец.

Прыдаючы вялікае значэньне неабходнасьці збору лекавых расьлін і маючы на ўвазе, што гэтыя артыкулы дадуць краязнаўчым арганізацыям магчымасьць арганізаваць па БССР гэтую справу, рэдакцыя зьмяшчае артыкул т. Міхайлоўскай пад назвай: „Яшчэ да вывучэньня лекавых расьлін".

А. Гарбачоў

# Як жыве і працуе наш колгас

Колгас „Ільліч“ Грыбавецкага с/с, Клічаўскага раёну (б. Чачавіцкага) організаваны ў жніўні месяцы 1930 г. на сталыпінскіх хутарох Зеляніцы. Піонэрамі колгасу зьяўляюцца комсамольцы: Кандраценка Янка, Гарбачоў Аверка, кандыдат КП(б)Б Кандраценка Ляксей.

Яшчэ да ўпарадкаваньня колгасу малады колгас прыступіў да касьбы кулацкай сенажаці, з якой добра справіўся. Працавалі ўдарна. Пасьля ўпарадкаваньня прыступілі да сяўбы азімага жыта. Райколгассаюз адпусьціў угнаеньня пад гатунковае жыта, і колгасьнікі, закасаўшы рукавы, прыняліся за справу. Поле апрацавалі добра: пакапалі канавы, прачысьцілі баразны. І аднаасобнікі, гледзячы на гэта, гаварылі.

—Гэта робіцца па-гаспадарску. Калі і надалей такія добрыя парадкі будуць, то і наша тут гняздо...

Колгасьнікі працавалі па-бальшавіцку. Набылі малатарню з конскім прыводам і абслугоўвалі аднаасобнікаў. Дасягненьні нашы былі ва ўсіх на вачох. Але 4 сталыя гаспадаркі і 7 хлапцоў адзіночак не маглі задаволіць колгасьнікаў. Колгас пачаў змагацца за прыліў. Гаварылі на сходах, апрацоўвалі паасобку сялян. Але кулацтва не давала магчымасьці атрымаць належны эфэкт. І толькі к перавыбарам праўленьняў колгасаў пачаўся прыліў і цягнуўся і далей.

Да ўборачнай кампаніі 1931 г. колгас налічваў 33 гаспадаркі, што складала больш як палову гаспадарак хут. Земяніцы.

Цяпер аб працы.

У другую бальшавіцкую сяўбу колгас засеяў 19,5 га бульбы, аўсу—27,5, ячменю—7 га, лёну—9 га, яравога жыта 4 га, а таксама і інш. культур.

Усе зернавыя культуры ўбраны з посьпехам, апроч часткі аўсу ды ячменю, перашкодай да чаго зьяўлялася дрэнная пагода. Але на полі на 10 верасьня не засталося нічога. Уборка праходзіла пад знакам ударніцтва. У колгасе створаны ўдарныя групы. У часе ўборкі адмоўным бокам было тое, што нарады брыгадзіры не раздавалі з вечару, ня былі прымацаваны адказныя асобы да паасобных галін гаспадаркі, інвэнтар і цягавая сіла ня былі замацаваны за брыгадамі.

Наогул кажучы, у колгасе панавала абязьлічка. Зараз з абязьлічкай паведзена жорсткая барацьба. Пачын у гэтай справе ўзяла колгасная комсамольская ячэйка. Зараз вылучаны загадчык гаспадаркай, кладаўшчык, палявод, жывёлавод, начны вартаўнік, ад комсамольцаў—пост па ахове ўраджаю і г. д. (Да гэтага часу „загадваў“ усім старшыня колгасу, таму і была абязьлічка).

Зараз у колгасе ідзе сяўба і абмалот збожжа. Чарговыя работы і колгасе—падніманьне, канчатковая апрацоўка ільну, уборка бульбы і зябленьне, а таксама заканчэньне пабудовы кароўніка на 100 галоў ўпабудова цялятніка на 150 шт. На пабудову апошняга адпушчана 1.500 р. крэдыту.

Тормазам у будаўніцтве зьяўляецца адсутнасьць цьвікоў.

Зараз колгасьнікі правялі самаабкладаньне на пабудову дзіцячых ясьляў.

Пры колгасе к XVII МЮД утварылася комсамольская ячэйка з 13 чалавек — з 9 хлапцоў і 4 дзяўчат.

У колгасе налічваецца 1 член і 3 кандыдаты КП(б)Б.

Маюцца наступныя грамадзкія організацыі:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1. МОПР у ячэйцы | 17 | жанчын | і 38 | мужчын |
| 2. Асоавіяхэм | 10 | „ | і 29 | „ |
| 3. Чырв. крыжу | 5 | „ | і 13 | „ |
| 4. Бязбожнік | 5 | „ | і 11 | „ |

Выпускаецца насьценгазэта „Ільлічоўка“, якая стаіць на чале соцпаборніцтва і ўдарніцтва, змагаецца з прагуламі. Так расьце новы быт у глушы нашых вёсак, якім кіруе компартыя і комсамол.

---

*Ад рэдакцыі:* Зьмяшчаючы гэты артыкул, як паведамленьне з месц адносна актыўных удзельнікаў будаўніцтва колгасу, рэдакцыя чакае прысылкі матар‘ялу аб організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасу.

М. Войтка

# Колгас „Комсамолец“

*(Нарыс)*

## Кулацкае Памежнае

Хутары Памежнае нарадзіліся ў часы Сталыпіна. Хутка расьлі кулакі, бо самаўладзтва рознымі мерамі спрыяла росту сваёй сапраўднай апоры на вёсцы—кулацтву.

Дыктатура пролетарыяту пазбавіла тутэйшых эксплёататараў магчымасьці піць сокі і кроў з беднаты.

У жніўні 1929 году організаваўся колгас Бальшавік, аб'яднаўшы пасёлкі ля станцыі Калодзішча МББ чыг. Колгас хутка рос. У канцы 1930 году колгас Бальшавік стаў ужо буйным колгасам. Ён аб'яднаў у сабе вёскі, пасёлкі, хутары ў радыусе 4 кілёмэтраў. Да яго далучыліся і вв. Вадапой, Глебкавічы, хутары Памежнае і Памежнае II, засьценкі Ліпавая Калода і Доўгія Сенажаткі.

Але не хацелі кулакі мірна падпарадкавацца пастанове органаў дыктатуры пролетарыяту аб іх ліквідацыі. Яны актыўна выступілі супроць гэтага мерапрыемства савецкай улады.

Вялізарныя прасторы (каля 3.000 га) колгасу Бальшавік, цяжкасьць опэрацыйнай і організацыйнай работы прымусілі стварыць з колгасу Бальшавік яшчэ адзін колгас. 1-га студзеня 1931 г. быў створан новы колгас (частка Бальшавіка). Далі яму назву „Комсамолец“. Да яго адышлі хутары Памежнае, вв. Вадапой, Глебкавічы, засьценкі Ліпавая Калода і Доўгія Сенажаткі з агульнай плошчай па прыблізных падліках у 810 га.

## Таварна-малочная фэрма

З 810 га ўсёй плошчы колгасу Комсамолец маецца: ворнае зямлі 600 га, сухадольнага лугу 80 га, хмызьнякоў, балота і лесу 130 га.

Значная плошча балота, луг ля рэчкі Сьніцы, добрая паша, прыгараднае палажэньне колгасу (ад гор. Менску 15 км), блізкасьць да стан. Калодзішча МББ (4 км), дзе кожнае лета жыве шмат дачнікаў, вялікі рынак для малочных продуктаў, — усё гэта спрыяла таму, каб колгас Комсамолец быў жывёлагадоўчым колгасам, таварна-малочнай фэрмай у прыгарадным Менскім раёне.

Райколгассаюз зьвярнуў належную ўвагу на колгас Комсамолец пры складаньні пляну засеўнай кампаніі 1931 г., дзе зазначалася аб пашырэньні плошчы пад караньплоды, пад бульбу і кармовыя травы, каб забясьпечыць фэрму сакавітымі кармамі і гэтым павялічыць удой

малака. Але плян гэты выкананы ня быў, з прычыны адсутнасьці насеньня (сэрадэля) і інш.

Вось даныя выкананьня пляну засеву:

Табліца № 1.

| Назва культуры | Плян засеву ў га | Выканана | Прычыны невыкананьня |
|---|---|---|---|
| Караньплоды | 15 га | 7 га | 48% |
| Бульба | 136 „ | 89 „ | 65% |
| Сэрадэля, сена | 8 „ | — | адсутнасьць |
| Сылёсныя культуры | 3 „ | 3 „ | 100% |
| Сэрадэля-насеньне | 6 „ | — | — |
| Віка | 20 „ | 0,5 „ | 2,5% |
| Канюшына | — | 51 „ | — |

Даючы плян засеву кармовымі караньплодамі вызначанай плошчы для забесьпячэньня жывёлагадоўчай фэрмы кармамі і для пашырэньня статку, райколгассаюз не паклапаціўся даць колгасу патрэбнае для гэтага насеньне караньплодаў і сэрадэлі.

Дойных кароў колгас мае 52 галавы, маладняку старэй году—4, да году—31, ёсьць тры бычкі-вытворнікі. Каровы простай пароды. У агульны лік кароў уваходзяць 21 карова, аграмаджаная колгасьнікамі, рэшта кароў—былыя кулацкія.

Малочнасьць кароў зусім нізкая. 52 каровы за дзень у чэрвені месяцы давалі 89 літраў малака. За ўвесь чэрвень месяц далі толькі 1.800 літраў малака. Карова дае ў дзень ня больш як 1-2 літры малака.

Гэта гаворыць за тое, што канечна трэба палепшыць пароду кароў, замяніць простую пароду палепшанай чырвона-беларускай або якой іншай, трэба з году ў год пашыраць плошчу пад кармовыя травы і караньплоды, больш сылёсаваць кармы, каб забясьпечыць пашырэньне малочнага статку і значна павысіць удой малака.

А магчымасьці для гэтага ёсьць.

Ёсьць луг, балота, хмызьнякі—паша добрая, ёсьць рынак для збыту продуктаў—малака, масла, сыру, торагу.

## Павысіць ураджай

Увесну 1931 г. плян засеву некаторых культур збожжа быў перавыкананы.

Табліца № 2.

| Назва збожжавай культуры | Плян засеву ў га | Выкананьне ў га |
|---|---|---|
| 1. Пшаніца | 5 га | 18,40 га |
| 2. Авёс | 65 „ | 114 „ |
| 3. Ячмень | 48 „ | 28 „ |
| 4. Гарох | 12 „ | 8 „ |
| 5. Грэчка | 15 „ | 42 „ |

Табліца № 2 (працяг)

| Назва збожжавай культуры | Плян засеву ў га | Выкананьне ў га |
|---|---|---|
| 6. Жыта 1930 г. | — | 103 га |
| 7. Лён (тэхнічн. культура) | 1 „ | 3,5 „ |
| 8. Лубін (угнаеньне) | 35 „ | 0,5 „ (насеньня) 4 га на ўгнаеньне |
| 9. Гародніна | 15 „ | 8 га |

Глеба ў колгасе ў большасьці пяшчаная, ураджайнасьць асноўных культур збожжа малая. Адсюль — усе сілы і сродкі для павышэньня ўраджайнасьці. Гэктар жыта ў 1930 г. даў 75 п. зерня, а ў 1931 г. яшчэ менш, бо жыта ўвосень 1930 г. вымакла; 1 га пшаніцы даў—50 пуд., аўсу—50 п., ячменю—75 п., бульбы—700 п.

Каб падняць ураджайнасьць, колгас засяе пэўную плошчу (гл. табл. № 2) лубіну на ўгнаеньне пад жыта, ужываюцца штучныя ўгнаеньні: увесну 1931 году было расьсеяна пад гародныя культуры—396 кг цыяналіту, па папары пад жыта было расьсеяна—18.000 кг фосфарыту, пад бульбу і караньплоды было расьсеяна—3.000 кг сыльвініту.

Колгас увосень паднімае зяб, каб ураджайнасьць ярыны была вышэйшая.

## Колгасьнікі

У колгас „Комсамолец" аб'яднана 48 гаспадарак, з іх 12 бядняцкіх, 2 батрацкіх, 34 серадняцкіх, адзіночак—2 чал.

Як відаць, колгас па свайму соцыяльнаму стану—серадняцкі.

У колгасе 93 чал. працаздольных, з іх мужчын — 44 чал., жанчын—49 чал., ёсьць 12 чал. падлеткаў; непрацаздольных у колгасе 158 чал.

Усяго насельніцтва „Комсамольца"—263 ч.

Рабочых коняй у колгасе 54, маладняку—13.

Сярод коняй цяпер ёсьць некаторы лік слабых, якіх трэба стабілізаваць.

Мёртвы інвэнтар у колгасе „Комсамолец" наступны: 12 жняярак, 1 касілка, 3 чыгунныя малатаркі, 64 плугі, 4 радавыя сеялкі, 2 плянэты, 3 дыскавыя бараны, Зіг-Заг, арфы, сячкарні, трыер, інвэнтар для малочнай фэрмы і інш.

Як відаць сельска-гаспадарчых машын колгас мае недастатковую колькасьць, а тыя, што ёсьць с/г. машыны—простыя.

## Падзёншчына, пайкаўшчына, бязучотнасьць заядаюць колгас

Адно з балючых, слабых месц колгасу „Комсамолец" адсутнасьць зьдзельшчыны, няма нормаў выпрацоўкі для ўсіх відаў сельска-гаспадарчых прац.

Калі амаль усе колгасы БССР перайшлі на зьдзельшчыну і гэтым значна падвысілі вытворчасьць працы, організацыйна-гаспадарча ўмацаваліся, „Комсамолец" зьдзельшчыну злачынна ігноруе, пануе старая

форма, жыцьцём адкінутая, як нестымулюючая падвышэньня вытворчасьці працы, організацыі працы—падзёншчына.

Усім, хто хоць што-небудзь робіць у колгасе ад званка да званка, не зважаючы на колькасьць і якасьць зробленай работы, запісваецца адзін дзень.

Была спроба, запісваючы колгасьніку дзень, адзначыць, што ён у гэты дзень рабіў, — выконваў цяжкую работу (напр., касіў), або лёгкую (вазіў каго-небудзь куды-небудзь), або сярэднюю. Такі ўчот працы нікуды не гадзіцца.

Калі няма вызначаных нормаў выпрацоўкі, калі гэтыя нормы (пры ўмове калі яны выпрацаваны) ня выконваюцца колгасьнікамі кожны дзень у процэсе працы,—зьдзельшчыны няма, няма правільнага ўчоту працы, ня будзе правільна разьмеркаваны ўраджай і прыбыткі ў колгасе і гультаі будуць сядзець на карку сьвядомых працавітых колгасьнікаў.

Значная адлегласьць (2—$2^1/_2$ км) некаторых колгасьнікаў (напр., з засьц. Ліпавая Калода, або з в. Вадапой), да цэнтру колгасу—в. Глебкавічы, да канюшні і машыннага двара (хут. Памежнае), прымусіла колгасьнікаў організавацца ў тэрыторыяльныя брыгады. Вызначаецца брыгадзе плошча (блізкая да месца жыцьця) і брыгада выконвае ўсе работы на гэтай плошчы. Калі гэта пахаць — ворыва, засеў, жніво, уборка і г. д., калі гэта сенажаць — касьба травы, сушка, возка сена...

У колгасе шэсьць тэрыторыяльных брыгад:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| I-я | брыгада | в. Глебкавічы . . . | 14 | колг. |
| II-я | „ | засьц. Ліпавая Калода . . | 6 | „ |
| III-я | „ | вёска Вадапой . . . | 12 | „ |
| IV-я | „ | хутар Памежнае (I-е) . . | 9 | „ |
| V-я | „ | „ „ (II-е) . . | 8 | „ |
| VI-я | „ | засьц. Доўгія Сенажаткі . . | 12 | „ |

Да гэтых працаздольных колгасьнікаў прымацоўваюцца падлеткі.

На чале брыгады стаіць брыгадзір. Да брыгады прымацоўваецца адпаведны жывы і мёртвы інвэнтар. Брыгадзір вядзе ўчот работы брыгады.

Да рэчы сказаць, у колгасе няма рахункавода. Рахункаводзтва пастаўлена зусім дрэнна. А праўленьне само слаба разумее рахункаводную „мудрасьць“. „Дэбэт і крэдыт“ незразумелыя для нас словы, заявіў тав. Данэйка—старшыня колгасу.

Разьмеркаваньне харчовай продукцыі ў колгасе ідзе па прынцыпу пайкаўшчыны і едакоў.

Устаноўлены месячны паёк на працуючых і непрацаздольных. Пры выдачы пайкоў ніякай увагі не зварочваюць на колькасьць прапрацаваных дзён і на якасьць работы. Пайкі наступныя: працаздольны (дарослы) у месяц атрымлівае 1 пуд і 5 ф. жытняй мукі, 100 грам тлушчаў на дзень, 1 літар малака ў дзень, падлеткі атрымліваюць у месяц 30 ф. жытняй мукі, 100 гр тлушчаў на дзень, 1 літар малака, дзеці і непрацаздольныя атрымліваюць у месяц 30 фунтаў жытняй мукі, малако, тлушчы.

Пайкаўшчына, ураўнілаўка, падзёншчына на дзіва спрыяюць пашырэньню ў колгасе лайдацтва, прагулаў, нядбалай працы — гэтых бічоў социялістычнага будаўніцтва на вёсцы.

## Вораг падрывае з сярэдзіны...

У колгасе ёсьць некалькі „колгасьнікаў“ — як Шэвель Сяргей і Іван Позьняк, якія ўвайшлі ў колгас, каб падарваць яго з сярэдзіны, каб нажыцца, прадаючы колгаснае дабро. Шэвель Сяргей — загадчык гаспадаркі, Позьняк Іван — брыгадзір Глебкаўскай брыгады, летам 1931 г. прадалі аднаасобніку Ахрэму Кахтуну 80 пудоў сена за 8 паўлітраў „хлебнага віна“.

Часамі наглядаецца ў працы бесталковасьць. Чэрвень месяц, трэба ўбіраць сена—аж курыць. Праўленьне, замест таго, каб пасылаць брыгады на ўборку сена, пасылае колгасьнікаў вазіць каменьні, а сена чакае дажджу.

Былі выпадкі пасьбы жывёлы па садох, каровы аб‘ядалі лісьце, абламвалі сукі. У кароўніку, на машынным двары пануе абязьлічка.

Дойніца не прымацавана да кароў, неакуратна абмываецца вымя каровам, у хлеве гной па шчыкалатку.

Усё гэта перашкаджае працы, падрывае аўторытэт колгасу ў вачох тых беднякоў і серадпякоў, што яшчэ сёньня па-за колгасам, перашкаджае прыліву ў колгас.

## Ударніцтва

Соцспаборніцтва і ўдарніцтва, як мэтоды працы, яшчэ не заваявалі ў колгасе „Комсамолец“ свайго пачэснага месца. Аднак, сярод колгасьнікаў ёсьць адданыя справе перабудовы дробна-ўласьніцкай гаспадаркі ў колектыўную, соцыялістычную.

Іх ніхто ўдарнікамі ніколі не называў, іх завуць працавітымі, акуратнымі колгасьнікамі. Вось некаторыя з іх: Андрэй Каўтун,— серадняк, акуратна выконвае ўсякую працу, што дае яму праўленьне. Ноччу вартуе колгасную маемасьць, а ўдзень працуе на палявых або яшчэ на якіх работах. Ён ня лічыцца ні з чым! — гавараць аб ім колгасьнікі.

Міхалка Войтка — актыўны добрасумленны колгасьнік. Кожны дзень выходзіць з дзецьмі на працу.

Пруза Рачынская — жне, баранує, ходзіць за плугам, выконвае і жаночую працу і мужчынскую. Яна ніводнай хвіліны ня можа пабыць дома, ёй так і рупіць ці зроблена гэта, ці зроблена тое.

Іван Войтка, сябар праўленьня, выкрывае „колгасьнікаў“ з кулацкай тэндэнцыяй нажывы, актыўна выступае супроць Шэвеля, Позьняка, крытыкаваў і кулацкую спэкуляцыю колгасным дабром. Іван ня робіць прагулаў, агітуе за зьдзельшчыну.

## Масавая праца.

Культурна-масавая работа сярод колгасьнікаў пастаўлена слаба. У в. Глебкавічы ёсьць школа, але масавай працы сярод колгасьнікаў не праводзіцца. Над колгасам „Комсамолец“ шэфствуе Менскі Эльвод. Даўно, даўно былі шэфы ў сваім падшэфным колгасе, ніякай працы не вядуць сярод падшэфных колгасьнікаў, ня дзеляцца мэтодамі сваёй працы, не бяруць на буксір колгасьнікаў.

Сярод колгасьнікаў ёсьць 3 комсамольцы і 1 член партыі.

Колгасьнікі выпісваюць 40 экз. газэт.

У колгасе ёсьць значная колькасьць няпісьменных і малапісьменных—трэба школе і пісьменным узяцца за ліквідацыю няпісьменнасьці па-ўдарнаму, каб яе ліквідаваць за 1931/32 год.

Летам працуюць дзіцячыяясьлі, але ахопліваюць нязначную колькасьць дзяцей, усяго 15 чал. Гэта тлумачыцца вялікай адлегласьцю некаторых колгасных сямействаў ад ясьляў (2-3 км). Загадчыца ясьляў—колгасьніца, тутэйшая.

Колгасьнікі падпісаліся на пазыку „3-га году пяцігодкі“ ў колькасьці 2.850 руб.

### Некаторыя заўвагі

Колгасу „Комсамолец“ трэба як-найхутчэй пераключыцца на новыя мэтоды працы, ужываць соцспаборніцтва і ўдарніцтва як найлепшы мэтод організацыі гаспадаркі колгасаў. Падзёншчыну, якая ня спрыяе падняцьцю вытворчасьці працы,—замяніць на зьдзельшчыну. Зьнішчыць пайкоўшчыну, якая нараджае лайдакоў, абібокаў, не стымулюе колгасьнікаў працаваць па-ўдарнаму, з вялікімі вытворчымі вынікамі. Зьнішчыць абязьлічку ў кароўніку, прымацаваць дойніц да кароў, зьнішчыць абязьлічку на машынным двары шляхам прымацаваньня колгасьніка да інвэнтару, за які яны павінны адказваць.

Паставіць як належыць учот працы, праводзячы запіс колькасьці і якасьці прапробленае працы.

Колгасу неабходна знайсьці рахункавода. Пашырыць крытыку і самакрытыку. Гнаць з колгасу Шэвеляў і Позьнякаў—гэтых кулацкіх агентаў, што пралезьлі ў колгас з мэтай разбурэньня яго з сярэдзіны.

Пашырыць культурна-масавую работу сярод колгасьнікаў — гэта прывядзе да большай продукцыйнасьці працы і будзе штуршком да прыліву ў колгас бядняцка-серадняцкіх гаспадарак навакольных хутароў і вёсак.

**В. Самцэвіч**

# У баявы паход за выкананьне загатоўчых плянаў

Аб'яднаны лістападаўскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б у сваёй пастанове аб ходзе загатовак адзначыў, што „загатоўкі асноўных відаў сельска-гаспадарчай продукцыі ва ўстаноўленыя тэрміны ня выкананы, што тармозіць пасьпяховую барацьбу за выкананьне плянаў соцыялістычнага будаўніцтва“. Сваечасовае правядзеньне важнейшых відаў загатовак—збожжа, лёну-валакна, мяса, экспортнай сыравіны—зьяўляецца найважнейшай і найадказьнейшай задачай партыйных, савецкіх, коопэрацыйных, савгасных і колгасных організацый, бо ад выкананьня плянаў загатовак у значнай меры залежыць і выкананьне ўсяго народна-гаспадарчага пляну IV-га кварталу трэцяга рашаючага і чацьвертага заключнага году пяцігодкі; пасьпяховае выкананьне загатовак зьяўляецца аднэй з найважнейшых умоў забесьпячэньня продуктамі харчаваньня рабочае клясы і забесьпячэньня сыравінай станкоў нашай прамысловасьці і атрыманьня валюты для набыцьця машын і замежнага абсталяваньня. Аднак, ход загатовак у нас ідзе яўна нездавальняюча: на 21 лістапада плян збожжазагатовак па БССР выкананы на 57,3 проц., па лёна-валакну—на 7,8 проц., а па пяньцы толькі на 0,9 проц. Некаторыя раёны ў загатоўках ганебна адстаюць. Так, напрыклад, Прапойскі раён выканаў 39 проц. збожжазагатовак, Лельчыцкі—27 проц., а Стара-Дароскі толькі 22 проц.

Чым-жа тлумачацца такія ганебна нізкія тэмпы загатовак? „Адставаньне ў загатоўках тлумачыцца тым, што цэлы рад парторганізацый, савецкіх загатоўчых організацый, савгасныя і колгасныя сыстэмы не організавалі па-бальшавіцку работы загатовак, прадаставілі яе самацёку, ня далі руйнуючага адпору гутаркам аб нерэальнасьці загатоўчых плянаў, ня выкарысталі ў поўнай меры больш спрыяючых умоў, у якіх праходзіць загатоўчая кампанія гэтага году (практыка клясавай барацьбы за загатоўкі, узмацненьне і рост аўторытэту партыі і савецкай улады, рост вясковых парторганізацый і інш.). Загатоўчай кампаніі гэтага году спрыяюць тыя абставіны, што соцыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі зьяўляецца пераважным, і асноўная маса сельска-гаспадарчай продукцыі знаходзіцца ў савгасах і колгасах“ (з пастановы пленуму).

У БССР 50 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак ужо аб'яднаны ў колгасы. Колгасьнік стаў галоўнай апорай партыі і савецкай улады ў вёсцы і цэнтральнай фігурай земляробства, асноўным вытворцам сельска-гаспадарчай продукцыі. Такім чынам, у нас ёсьць усе ўмовы, якія забясьпечваюць сваечасовае выкананьне плянаў зага-

товак, трэба толькі належным чынам арганізаваць работу, правесьці сярод колгасьнікаў масавую палітвыхаваўчую работу, дабіцца арганізацыйна-гаспадарчага ўзмацненьня колгасаў, вядучы рашучую барацьбу з кулацтвам і яго права-„лявацкай“ агентурай. Прыклады Аболіцкага і Друцкага сельсаветаў Талочынскага раёну, Амбросаўскага сельсавету Сіроцінскага раёну і інш. яскрава сьведчаць, што належная пастаноўка работы ў колгасах забясьпечвае і поўнае выкананьне колгасамі сваіх абавязкаў перад дзяржавай.

Пераробка селяніна ў колгасе яшчэ толькі пачалася. У адсталых групах колгасьнікаў яшчэ ня зжыты дробна-ўласьніцкія тэндэнцыі. Кулак, разьбіты ў адкрытым баі пролетарыятам у процэсе магутнага колгаснага руху, зьмяніў мэтоды сваёй барацьбы. Ён імкнецца разбурыць колгасы знутры, пралазячы туды сам, выкарыстоўваючы адсталыя групы колгасьнікаў, праводзячы агітацыю супроць здачы (продажу) колгасамі хлеба дзяржаве, распальваючы рвацкія тэндэнцыі ў адсталых колгасьнікаў і імкненьні таварныя лішкі пад тым ці іншым прадлогам пакінуць у сябе. Супроць лёзунгу партыі—„Ніводнага цэнтнэра збожжа прыватніку“—клясавы вораг высунуў свой кулацкі лёзунг: „Спачатку сабе, а потым дзяржаве“. Пад уплывам рвацкіх кулацкіх настрояў у радзе колгасаў у мэтах затрыманьня здачы (продажу) дзяржаве сельска-гаспадарчай продукцыі зьмяншалася валавая продукцыя, непамерна павялічваліся кармовыя фонды і г. д. У выніку опортуністычнай практыкі раду праўленьняў колгасаў, райколгассаюзаў і мясцовых арганізацый мы маем такія факты, што некаторыя колгасы Быхаўскага, Крупскага і Капыльскага раёнаў ня здалі дзяржаве яшчэ ніводнага цэнтнэра збожжа.

Пленум пастанавіў „усямерна ўзмацніць рашучую барацьбу за сваечасовае і поўнае выкананьне плянаў загатовак, мобілізуючы для гэтай мэты ўсе сілы“. Перад усімі партыйнымі, загатоўчымі, колгаснымі, савгаснымі і грамадзкімі арганізацыямі пастаўлена задача „баявога падвышэньня тэмпаў загатовак, асабліва ў галіне барацьбы за збожжа, бульбу, мяса, лён, каноплі і экспортную продукцыю“. Пленум патрабаваў, каб у бліжэйшыя дні быў створаны карэнны пералом у ходзе загатовак, каб савгасы не пазьней 10-га сьнежня выканалі вызначаны плян загатовак сельска-гаспадарчай продукцыі і была рашуча ўзмоцнена работа па здачы (продажу) продукцыі колгасамі, пры гэтым павінна быць праведзена рашучая барацьба супроць недаацэнкі індывідуальнага сэктару ў загатоўках. Савгасы, колгасы і МТС павінны паказаць прыклад для аднаасобнікаў сваёй датэрміновай здачай продукцыі.

Краязнаўчыя арганізацыі, як масавыя навукова-дасьледчыя арганізацыі, якія маюць сваёй задачай актыўна дапамагаць соцыялістычнаму будаўніцтву і весьці барацьбу за генэральную лінію партыі, павінны неадкладна прыняць самы актыўны ўдзел у выкананьні пастаноў аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б і дапамагчы мясцовым партыйным, савецкім, коопэрацыйным, савгасным і колгасным арганізацыям у правядзеньні загатовак.

У чым-жа можа выявіцца ўдзел краязнаўчых ячэек у загатоўках? Краязнаўчыя арганізацыі, асабліва ячэйкі ў савгасах, колгасах і пры ШКМ павінны разгарнуць самую шырокую растлумачальную масавую работу сярод колгасьнікаў і аднаасобнікаў (беднякоў і серадiнякоў) аб іх абавязках па здачы (продажу) пролетарскай дзяржаве сельска-гаспадарчай продукцыі. На конкрэтным, практычным і праверaным матар'яле краязнаўчыя арганізацыі павінны паказаць рэальнасьць

плянаў загатовак і выкрыць карэньні кулацкай агітацыі супроць здачы сельска-гаспадарчай продукцыі дзяржаве. Перад краязнаўчымі організацыямі стаіць задача вывучыць новыя формы, мэтоды і новую тактыку барацьбы кулака супроць колгасаў і супроць дыктатуры пролетарыяту, выкрыць перад колгасьніцкімі масамі клясавую сутнасьць агітацыі кулацка-заможных элемэнтаў супроць выкананьня плянаў гаспадарча-палітычных кампаній, супроць здачы таварнай продукцыі дзяржаве і разам з мясцовымі партыйнымі організацыямі мобілізаваць колгасныя масы на організацыйна-гаспадарчае ўзмацненьне колгасаў, на рашучую барацьбу з рвацкімі кулацкімі імкненьнямі і на поўнае выкананьне і перавыкананьне сваіх абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай.

Мясцовыя краязнаўчыя організацыі павінны вывучыць практыку лепшых перадавых савгасаў, колгасаў і МТС у справе організацыі і здачы (продажу) сельска-гаспадарчай продукцыі дзяржаве і шырока популярызаваць гэтую практыку сярод іншых савгасаў і колгасаў. Адначасна з гэтым неабходна вывучыць, у выніку якіх прычын атрымаліся ганебныя прарывы ў загатоўках і здачы сельска-гаспадарчай продукцыі ў паасобных колгасах, савгасах і сярод аднаасобнікаў (беднякоў і серадьнякоў вёскі). Трэба дасканала дасьледваць, як новыя ўмовы (рост колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, організацыйна-гаспадарчае ўзмацненьне колгасаў, павялічэньне аўторытэту партыі і рост мясцовых партыйных організацый) зьмяняюць формы і мэтоды работы па загатоўках і здачы сельска-гаспадарчай продукцыі соцыялістычнымі і індывідуальным сэктарамі. Нездавальняючыя тэмпы загатовак і здачы сельска-гаспадарчай продукцыі ў некаторых раёнах у значнай меры тым і тлумачацца, што мясцовыя організацыі ня ўлічылі новых умоў, у якіх працякае ў гэтым годзе кампанія загатовак. У адных раёнах і колгасах мы бачым выяўленьне праваопортуністычнай практыкі ў справе загатовак, патураньне рвацкім імкненьням кулацка настроенай адсталай часткі колгасьнікаў, у другіх „лявацкія“ загібы, пераацэнка колгасаў, адмаўленьне ад правядзеньня масавай растлумачальнай работы сярод колгасьнікаў. Няўменьне ацаніць рэальную абстаноўку, улічыць новыя ўмовы, у якіх праводзіцца загатоўка ў гэтым годзе, работа па мэтодах мінулых гадоў, адсутнасьць сапраўднага знаёмства з гаспадаркаю колгасаў і савгасаў, іх фактычнымі патрэбамі, недаацэнка выкарыстаньня ўнутраных рэсурсаў колгасаў і савгасаў, адсутнасьць орыентоўкі і гнуткасьці ў рабоце пры новых умовах і запатрабаваньнях,—таксама зьяўляюцца прычынамі таго, што некаторыя раёны адсталі ў тэмпах загатовак і здачы сельска-гаспадарчай продукцыі дзяржаве. Вось чаму паўстае пытаньне аб сыстэматычным вывучэньні практыкі ўдалага правядзеньня загатовак у розных раёнах у залежнасьці ад новых палітычна-гаспадарчых умоў і перадачы гэтае практыкі колгасам і савгасам у іх далейшай рабоце.

У сучасны момант праводзіцца аб'яўлены „Праўдой“ конкурс савгасна-колгасных газэт на організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, выкананьне і перавыкананьне плянаў загатовак. У гэтым конкурсе прымаюць удзел тысячы газэт, армія селькораў, ударнікі савгасаў і колгасаў; выпрацоўваюцца зусім новыя формы і мэтоды ўцягваньня шырокіх колгасных мас і аднаасобнікаў — беднякоў і серадьнякоў у паход за выкананьне і перавыкананьне плянаў загатовак. Колгасныя газэты і селькоры сталі організатарамі чырвоных абозаў і эшалёнаў, сустрэчных плянаў, унутрыколгасных конкурсаў, буксіраў

і інш. Гэтыя новыя бальшавіцкія формы работы па арганізацыі здачы сельска-гаспадарчай продукцыі дзяржаве неабходна вывучыць і паказаць лепшыя і найбольш эфэктыўныя ўзоры работы з тым, каб лепшыя спробы маглі быць шырока выкарыстаны ў далейшай рабоце.

Правядзеньне работы па загатоўках сельска-гаспадарчай продукцыі павінна цесна ўвязвацца з работай па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў. Краязнаўчыя арганізацыі на аснове вывучэньня лепшае практыкі перадавых когласаў павінны дапамагчы іншым колгасам у арганізацыі працы, пераходзе на зьдзельшчыну, у палепшаньні політычна-масавай і культурнай работы. Аднэй з бліжэйшых і найважнейшых задач мясцовых краязнаўчых арганізацый зьяўляецца барацьба за павялічэньне ўраджайнасьці ў колгасах і саўгасах, а таксама і ў індывідуальным сэктары сельскай гаспадаркі. Вывучэньне глеб, найлепшых спосабаў яе апрацоўкі, угнаеньня, вывучэньне лепшых гатункаў насеньня для данай мясцовасьці, лепшых спосабаў і часу пасеву і г. д. неабходна разгарнуць магчыма шырэй, памятуючы, што павялічэньне ўраджайнасьці дае магчымасьць колгасам, саўгасам і бядняцка-серадняцкім масам вёскі павялічыць таварную частку сельска-гаспадарчай продукцыі і продажу гэтай продукцыі дзяржаве.

БССР зьяўляецца аднэй з важнейшых льнаводных баз Савецкага саюзу. На БССР ускладзена адказьнейшая задача — у значнай меры забясьпечыць тэхнічнай сельска-гаспадарчай сыравінай нашу лёгкую прамысловасьць, і таму пытаньне загатовак і здачы лёну-валакна для прамысловасьці мае надзвычайна вялікае політычнае і гаспадарчае значэньне. Аднак, здача лёну-валакна ў нас да гэтага часу праходзіла зусім нездавальняюча з прычыны слабой арганізацыі колгасьніцкіх і бядняцка-серадняцкіх мас і нездавальняючай арганізацыі работы па першапачатковай апрацоўцы лёну. Выходзячы з вялікай важнасьці пытаньня сваечасовага і поўнага выкананьня плянаў загатовак і здачы (продажу) лёну-валакна пролетарскай дзяржаве, ЦК КП(б)Б з 10-га лістапада абвясьціў месячнік штурму апрацоўкі і здачы лёну-валакна. На працягу гэтага месяца павінны быць апрацавана і здана дзяржаве ня менш 70 проц. усяго лёну-валакна. Краязнаўчыя арганізацыі павінны вывучыць вынікі гэтага месячніка. Трэба безадкладна арганізаваць вывучэньне практыкі перадавых ільнаводных колгасаў у справе арганізацыі ў іх працы па апрацоўцы лёну-валакна і практыку гэтую перанесьці ў больш адсталыя ільнаводныя колгасы. У лепшых ільнаводных колгасах уся праца пераведзена на зьдзельшчыну, разгорнута соцспаборніцтва і ўдарніцтва, працуюць ударныя брыгады, ёсьць значныя дасягненьні ў сэнсе палепшаньня тэхнікі апрацоўкі і г. д.; усе гэтыя дасягненьні праз краязнаўчыя арганізацыі, мясцовы друк і інш. павінны быць шырока папулярызаваны сярод колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Краязнаўчыя арганізацыі разам з колгасьніцкім актывам павінны ў кожным колгасе і вёсцы распрацаваць конкрэтны плян выкарыстаньня ўсіх магчымасьцяў, паскарэньня апрацоўкі лёну і канапель і палепшаньня якасьці здаваемай продукцыі. Найбольш рацыянальнае выкарыстаньне існуючых сушыльняў і ільнамялак, прыстасаваньне ёўняў і лазьняў у колгасах і вёсках, арганізацыя сушыльнамяльных пунктаў і бесьперабойнай конвэернай сыстэмы апрацоўкі і здачы ільна-валакна, арганізацыя культмасавага абслугоўваньня колгасьнікаў і аднаасобнікаў у ільнаводных раёнах — вось рад тых пытаньняў, у вырашэньні якіх павінны прыняць удзел краязнаўчыя ячэйкі, каб дапамагчы партыі, рабочай клясе і колгасьнікам

хутчэй і лепш справіцца з задачай сваечасовага забесьпячэньня нашай лёгкай прамысловасьці тэхнічнай сельска-гаспадарчай сыравінай (льняным волакном).

Пленум падкрэсьліў і вынес пастанову аб узмацненьні тэмпаў па загатоўцы экспортнай сыравіны і палепшаньні якасьці здаваемай продукцыі. Краязнаўчыя організацыі павінны заняцца вывучэньнем усіх відаў экспортнай сыравіны, адшуканьнем новых відаў сыравіны ў кожным раёне БССР і вывучэньнем якасьці патрэбнай да экспорту продукцыі, ставячы перад сабой практычныя задачы — павялічэньне колькасьці і палепшаньне якасьці продукцыі.

Пастановы аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б аб загатоўках абавязваюць усе партыйныя, савецкія і грамадзкія організацыі мобілізаваць усю ўвагу на сваечасовае і поўнае выкананьне загатовак. Краязнаўчыя організацыі, асабліва ячэйкі ў колгасах, павінны зьявіцца сапраўднымі змагарамі за выкананьне важнейшых задач, пастаўленых партыяй. Краязнаўчыя ячэйкі павінны стаць першымі застрэльшчыкамі ў організацыі чырвоных абозаў, унутрыколгасных конкурсаў, сустрэчных плянаў па загатоўцы і здачы дзяржаве сельска-гаспадарчай продукцыі; яны павінны выкрыць і павесьці рашучую барацьбу з праявай рвацкіх, кулацкіх імкненьняў у колгасах. Разам з тым краязнаўчыя організацыі павінны праявіць ініцыятыву і прыняць актыўны ўдзел у важнейшай рабоце па складаньню ў колгасах вытворчых плянаў на 1932 год з улічэньнем лепшае практыкі 1931 году перадавых колгасаў. Вытворчыя пляны 1932 году павінны адкрыць новы этап у колгасным будаўніцтве, забясьпечыць організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, павялічэньне іх таварнай продукцыі і забесьпячэньня сваечасовай загатоўкі і здачы дзяржаве таварнай продукцыі.

---

# Кароткая програма па вывучэньню быту і культуры лесарубаў

*У РЭДАКЦЫЮ „САВЕЦКАЙ КРАІНЫ“*

*Сэкцыя этнографіі Інстытуту гістарычных навук БАН, разгледзеўшы на сваім паседжаньні ад 10/XI-1931 г. справу аб „Програме па вывучэньню быту і культуры лесарубаў і плытагонаў“, якую навуковы супрацоўнік Сэкцыі І. А. Сербаў передаў для надрукаваньня ў „Савецкай Краіне“ ад імя сэкцыі без зацьверджаньня апошняй, вынесла пастанову, якую просіць надрукаваць на старонках Вашага часопісу:*

*1) З пастановай рэдколегіі „Савецкай Краіны“, а таксама з палітычнай і мэтодолёгічнай ацэнкай програмы цалкам згадзіцца.*

*2) Лічыць, што і ў пляне програмы, у яе структуры таксама маецца цэлы рад памылак—мэтодолёгічных, тэхнічных і інш.*

*3) Програму ў хуткім часе колектыўна пераапрацаваць.*

*4) Папярэдзіць т. Сербава, што ў выпадку паўтарэньня падобных зьявішчаў, пытаньне аб ім будзе перадана ў Прэзыдыум Інстытуту гісторыі.*

*5) Пастанову надрукаваць у „Савецкай Краіне“.*

*Адначасна Сэкцыя этнографіі просіць надрукаваць нанова пераапрацаваную програму па вывучэньню быту і культуры лесарубаў.*

*СЭКЦЫЯ ЭТНОГРАФІІ.*

---

Лясная прамысловасьць зьяўляецца аднэй з галоўных галін народнай гаспадаркі БССР. Лес дае важнейшы сырэц для прамысловасьці, каштоўнейшы экспортны матар‘ял і пакуль што зьяўляецца асноўнай крыніцай апалу. Таму ад належнай організацыі лесараспрацовак, ад поўнага і своечасовага выкананьня пляну загатовак і вывазкі загатоўленай драўніны залежыць пасьпяховае выкананьне ўсяго народна-гаспадарчага пляну, пасьпяховае заканчэньне пяцігодкі ў чатыры гады. А поўнае выкананьне лесазагатовак у першую чаргу залежыць ад належнай організацыі працы, забесьпячэньня рабочай сілай і стварэньня такіх матар‘яльных і культурна-бытавых умоў, якія забясьпечылі-б замацаваньне рабочых на лесараспрацоўках. Вось чаму вывучэньне быту, культуры і ўмоў працы лесарубаў і плытагонаў, тых

двух атрадаў працоўных, якія заняты важнейшай галіной прамысловасьці, набывае важнейшае значэньне.

Сэкцыя этнографіі БАН, якая перабудавала ў сучасны момант плян сваёй працы такім чынам, каб зьвязаць усю сваю дзейнасьць з бурным соцыялістычным будаўніцтвам і садзейнічаць апошняму ўсімі тымі сродкамі, якія мажлівы ў галіне этнографіі, паставіла ў рад сваіх баявых задач вывучэньне быту і культуры пролетарскіх і паўпролетарскіх пластоў гораду і вёскі і ў тым ліку лесарубаў і плытагонаў.

Задача краязнаўчых організацый—разьвіць у гэтым кірунку навукова-дасьледчую работу на мясцох. Краязнаўчыя організацыі і паасобныя дапішчыкі часоп. „Савецкая Краіна“, узяўшыся ў зімовы пэрыод лесараспрацовак 1931-32 г. за вывучэньне быту і культуры лесарубаў па данай ніжэй програме, маглі-б сваімі матар'ямі значна дапамагчы Сэкцыі этнографіі ў распрацоўцы гэтага пытаньня.

Програма гэта ня носіць характару анкеты, а толькі высоўвае тыя пытаньні і кірункі, па якіх павінна праводзіцца вывучэньне і зьбіраньне матар'ялу, пагэтаму кожны пункт павінен распрацоўвацца дэталёва і вычэрпваюча. Неабходна таксама зьбіраньне статыстычных даных і выкарыстоўваньне архіваў лесазагатоўчых устаноў. Лепш за ўсё будзе, калі вывучэньнем, згодна гэтай програмы, краязнаўчая організацыя зоймецца колектыўна, разьмеркаваўшы паміж паасобнымі т. т. паасобныя пытаньні.

——

1. Якія вытвараюцца цяпер у данай мясцовасьці (сельсавет, раён, тэрыторыя якога Леспрамгасу) лесараспрацоўкі, разьмеры, род лясных парод, назначэньне (дровы, дзелавая драўніна, вяршыньне, на экспорт і г. д.).

2. Колькасьць занятых на распрацоўках лесарубаў, пільшчыкаў, цесакоў і возчыкаў, сталых і сэзонных; іх соцыяльны і нацыянальны склад (колгасьнікі, адзінаасобнікі, сярод апошніх—бедныкі, серадныкі, раскулачаныя і інш.), партыйная і комсамольская праслойка, профэсіянальны склад і стаж, узроставыя групы. Жанчына на лесараспрацоўках.

3. Організацыя і мэтоды працы—арцелі, брыгады, соцспаборніцтва, ударніцтва і інш. Асобныя комсамольскія брыгады. Організацыя працы раней і цяпер.

4. Дэталёва апісаць усе працоўныя процэсы і спосабы працы (адзначыць традыцыйныя і новыя, асабліва тыя, якія ўведзены ў выніку рабочых прапаноў і партыйным і тэхнічным кіраўніцтвам).

5. Тэхнічныя ўмовы працы. Інструмэнты і прылады. Мэханізацыя працоўных процэсаў, пералічыць якія процэсы мэханізаваны.

6. Вываз лесаматар'ялаў на станцыі і румы—гужам, ляжнёвым шляхам, вузкакалейкай, трактарам. Мэханізацыя транспорту.

7. Як організавана зьдзельшчына? Нормы выпрацоўкі і якасьць продукцыі. Уплыў соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Правядзеньне ўдарных месячнікаў і кампаній. Дапамога рабочай і колгаснай грамадзкасьці.

8. Заробак лесарубаў і возчыкаў раней і цяпер. Сыстэма аплаты працы—падзённая, зьдзельная, прэміяльная і інш.

9. Адміністрацыйна-тэхнічныя кіраўнікі—дзесятнікі, брыгадзіры, прарабы і інш., іх соцыяльны і партыйны склад, кваліфікацыя. Узаемаадносіны з рабочымі.

10. Распадзел працы на лесараспрацоўках, спэцыялізацыя і кваліфікацыя лесарубаў.

11. Колектыўныя і індывідуальныя працумовы і іх рэалізацыя на практыцы (рабочы час, выходныя дні, адпачынкі, інструмэнтары, аплата амортызацыі ўласнага інвэнтару, спэцвопратка і г. д.).

12. Тэхнічная і санітарная ахова працы. Мэддапамога. Профэсіянальныя захворваньні (сабраць статыстычныя весткі на мэдпункце), іх дынаміка па гадох.

13. Памяшканьні для жыльля і харчаваньне лесарубаў і возчыкаў. Забесьпячэньне продуктамі і прамтаварамі. Работа коопэрацыі на лесараспрацоўках. Жыльлёвыя і інш. ўмовы раней.

14. Партыйная і комсамольская ячэйкі. Іх склад і праца.

15. Профорганізацыя. Удзел рабочых у профпрацы, у чым ён выяўляецца. Барацьба профорганізацый за выкананьне прамфінпляну, контроль за выкананьнем колдагавору, соцдагавораў, разгляд конфліктаў і г. д.

16. Грамадзкія організацыі і іх праца.

17. Культ-асьветпраца. Праца клюбу, ленкутка, насьценгазэты. Якія маюцца гурткі—політгурткі, па тэхнічнай асьвеце, бязбожныя, драматычныя і інш. Ліквідацыя няпісьменнасьці, лік няпісьменных па ўзростах. Выпіска газэт. Організацыя спэктакляў, кіно-сэансаў, лекцый, гутарак і г. д.

18. Праявы новага быту і хваравітыя зьявішчы старога быту. Параўнаць з мінулым.

19. Песьні лесарубаў і возчыкаў, традыцыйныя і новыя (з запісам па-мажлівасьці і мэлёдый).

20. Апавяданьні, казкі, прыказкі і інш. продукты вуснай творчасьці лесарубаў. Апавяданьні аб умовах працы на лесараспрацоўках у дарэволюцыйныя часы.

21. Літаратурная творчасьць лесарубаў у насьценгазеце і іншых выданьнях.

22. Мова лесарубаў і возчыкаў. Вытворчая тэрмінолёгія (укласьці тэхнічны слоўнік), працоўныя выкрыкі.

23. Ідэолёгія. Рэлігійнасьць і бязбожжа. Сьвяты рэлігійныя і рэволюцыйныя. Вераваньні і забабоны і ўтварэньне новага сьветапогляду пад уплывам сучасных умоў гаспадарча-грамадзкага і політычнага быту, соцбудаўніцтва, мэханізацыі вытворчасьці, уплыву гарадзкога пролетарыяту і г. д.

24. Матар'ялы для характарыстыкі гаспадарчага і хатняга быту лесарубаў-сэзоньнікаў дома—гаспадарка, хатнія ўмовы, сямейныя адносіны, асабліва як адбіваецца адыход на лесараспрацоўкі па эконамічнаму і бытавому становішчу лесаруба-сэзоньніка, хто выконвае гаспадарчыя працы дома ў часе працы ў лесе, месца заробку лесаруба ў бюджэце гаспадаркі і г. д. У якіх мясцовасьцях вярбуюцца рабочыя для лесараспрацовак.

25. Колгасьнікі-адыходнікі на лесараспрацоўках. Іх узаемаадносіны і сувязь з колгасам.

---

Матар'ял трэба дасылаць у Сэкцыю этнографіі—Менск, Беларуская Акадэмія Навук. Перасылка бяз марак.

Програма па вывучэньню быту і культуры плытагонаў будзе надрукавана ў адным з наступных нумароў „Савецкай Краіны“, бліжэй да пачатку сплаву.

# АДОЗВА

## Таварыства краяведаў-марксыстаў пры Комакадэміі да ўсіх краяведаў СССР

Па ініцыятыве А. М. Горкага і па рашэньню ЦК ЎсеКП(б) пачынаецца праца па стварэньню „Гісторыі грамадзянскай вайны“. Значэньне гэтай працы выкладзена ў арт. М. Горкага. Гэта значэньне вялікае ня толькі для працоўных мас СССР, але і для міжнароднага пролетарыяту. Таварыства краяведаў-марксыстаў пры Комакадэміі (ОКРАМ) зьвяртаецца да ўсіх савецкіх краяведаў СССР з заклікам тэрмінова адгукнуцца на гэтае мерапрыемства і ўключыцца ў працу па зьбіраньню матар'ялаў і докумэнтаў, па стварэньню нарысаў, аглядаў і артыкулаў па гісторыі грамадзянскай вайны свайго раёну.

ОКРАМ заклікае цэнтральныя бюро краязнаўства (ЦБК) саюзных і аўтономных рэспублік, краязнаўчыя організацыі вобласьцяў, краёў і раёнаў павесьці гэтую працу ўдарнымі тэмпамі і мэтодамі соцспаборніцтва паміж сабою. Кожная з рэспублік і вобласьцяў, кожны край і раён павінны лічыць сваёю справаю як-мага хутчэй, паўней і лепей асьвятліць усю злучнасьць соцыяльна-экономічных умоў грамадзянскай вайны, усю героічнасьць і адвагу працоўных мас свайго раёну, выказаную ў героічнай барацьбе супроць белагвардзейцаў, бандытаў і інтэрвэнтаў.

Як-мага больш фактаў, як-мага больш конкрэтных удзельнікаў барацьбы павінна быць апісана мясцовымі краязнаўцамі.

Савецкія краязнаўцы павінны паказаць сябе ня толькі радавымі ўдзельнікамі гэтай працы, але і організатарамі яе, уступіўшы зараз-жа ў контакт з мясцовымі цэнтрамі па вывучэньню гісторыі рэволюцыі. У тых раёнах, дзе яшчэ няма такіх цэнтраў, краязнаўчыя організацыі самі павінны стаць дапаможнымі пунктамі па зьбіраньню матар'ялаў і экспонатаў ад усіх удзельнікаў і сьведак грамадзянскай вайны, ад ахвяр інтэрвэнцыі і белага рэжыму. Усе сабраныя матар'ялы павінны накіроўвацца без затрымкі па адрасу „Гісторыі грамадзянскай вайны“ (адрас публікуецца ва ўсіх газэтах СССР).

Краязнаўчыя організатары павінны быць ініцыятарамі па наладжваньню вечароў успамінаў удзельнікаў грамадзянскай вайны, вечароў запісу апавяданьняў, анкетных апытаньняў і індывідуальных гутарак з былымі чырвонагвардзейцамі, чырвонымі партызанамі і інш. Правадзімая праца адным з сваіх непасрэдных вынікаў павінна мець ажыўленьне і ўмацаваньне працы мясцовых музэяў з іх аддзеламі гісторыі рэволюцыйнага руху ў раёне.

Для нагляду за ходам працы ў краязнаўчых організацыях прэзыдыум ОКРАМ'у стварае спэцыяльную брыгаду з членаў Таварыства, удзельнікаў грамадзянскай вайны, пад кіраўніцтвам старшыні Т-ва

Н. В. Крыленка. У часопісе „Советское краеведение“ ствараецца спэцыяльны аддзел, у якім будзе асьвятляцца праца краязнаўчых арганізацый па гісторыі грамадзянскай вайны. Заклікаем усіх краязнаўцаў паведамляць у часопіс аб ходзе працы.

Тыя краязнаўчыя арганізацыі і асобныя краязнаўцы, якія праявяць асобую энэргію і дадуць добрыя вынікі па зборы матар'ялаў у сваім раёне, будуць (па заяўкам ЦБК саюзных і аўтономных рэспублік і бюро вобласьцяў і краёў) прэм'яваны Таварыствам краяведаўмарксыстаў Комакадэміі.

Для членаў ОКРАМ'у прэзыдыум лічыць працу па гісторыі грамадзянскай вайны абавязковай. Краяведы-марксысты павінны паказаць прыклад энэргічнай працы ў справе стварэньня „Гісторыі грамадзянскай вайны“.

Нам. старшыні Т-ва краяведаў-марксыстаў (б. удзельнік грамадзянскай вайны ў Сібіру) К. Гідлеўскі.

Член прэзыдыуму (б. удзельнік грамадзянскай вайны ў Маскве і ў Тамбоўскай губ.) А. Сегаль.

Вучоны сакратар (б. удзельнік грамадзянскай вайны ў Сярэдняй Азіі) В. Карпыч.

# Статут

## Таварыства краяведаў-марксыстаў пры Комуністычнай акадэміі ЦВК СССР [1])

### I Разьдзел

### Мэты і задачы Таварыства

1. Таварыства краяведаў-марксыстаў (ОКРАМ) знаходзіцца пры Комуністычнай акадэміі ЦВК СССР, праводзіць сваю працу пад непасрэдным кіраўніцтвам прэзыдыуму Комакадэміі і мае наступныя мэты і задачы:

1. Аб'яднаньне навуковых і грамадзка-політычных працаўнікоў у межах СССР, стоячых на пляцформе марксыцка-ленінскай мэтодолёгіі і актыўна ўдзельнічаючых у савецкім краязнаўстве ці садзейнічаючых разьвіцьцю краязнаўчага руху для навуковай распрацоўкі і пропаганды марксыцка-ленінскай мэтодолёгіі і мэтодыкі савецкага краязнаўства.

2. Падрыхтоўка і вылучэньне кадраў краяведаў-марксыстаў, у першую чаргу з асяродзьдзя членаў УсеКП(б), ударнікаў-рабочых, колгасьнікаў, батракоў розных нацыянальнасьцяў, уваходзячых у склад СССР.

3. Правядзеньне ў жыцьцё асноўных дырэктыў партыі ў галіне савецкага краязнаўства і актыўная барацьба супроць буржуазнай ідэолёгіі ў краязнаўстве, антымарксысцкіх плыняў і праяўленьняў правых і левых ухілаў у тэорыі і практыцы савецкага краязнаўства.

4. Практычнае ажыцьцяўленьне і правядзеньне ў краязнаўчым руху новых задач, стоячых перад усім навуковым фронтам, форсаванае вывучэньне і абагульненьне практыкі соцыялістычнага будаўніцтва ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, уцягваючы краязнаўчыя організацыі ў самыя процэсы соцыялістычнай рэконструкцыі і на аснове комплекснага навуковага дасьледваньня кожнага з раёнаў СССР.

II. Для ажыцьцяўленьня сваіх мэт і задач Таварыства краяведаў-марксыстаў (ОКРАМ) праводзіць наступныя мерапрыемствы:

*А. У галіне організацыі і падрыхтоўкі кадраў*

1. Выяўляе і ўлічвае і організацыйна яднае навуковых і грамадзка-політычных працаўнікоў, праводзячых працу ў краязнаўчых організацыях на аснове марксысцка-ленінскай мэтодолёгіі.

---

[1]) Гэты проект, прыняты на організацыйным сходзе Таварыстваў краяведаў-марксыстаў (ОКРАМ) у студзені 1931 г., дзейнічае як часовы статут да зацьверджаньня яго на Ўсесаюзнай нарадзе па краязнаўству.

2. Ставіць і разьвязвае пытаньні марксысцкай падрыхтоўкі навуковых кадраў і кіруючых пролетарскіх кадраў у галіне савецкага краязнаўства шляхам вылучэньня, стварэньня асобых сэмінараў, курсаў і завочных консультацый для рабочых, колгасьнікаў, батракоў і вучнёўства, а таксама ажыцьцяўляе вылучэньне на навуковую працу актыўных краязнаўцаў, асабліва з асяродзьдзя рабочых, колгасьнікаў і батракоў, нацменшасьцяў, выявіўшых інтарэс і здольнасьці ў навуковай працы ў процэсе краязнаўчага вывучэньня сваіх раёнаў.

3. Ажыцьцяўляе грамадзкі нагляд за пастаноўкаю выкладаньня і падрыхтоўкі краязнаўчых кадраў.

*Б. У галіне навукова-дасьледчай працы*

4. Праводзіць распрацоўку тэорытычных асноў савецкага краязнаўства і пытаньняў марксысцка-ленінскай мэтодолёгіі і мэтодыкі.

5. Устанаўліваючы сувязі з рознымі навуковымі організацыямі і ўстановамі, распрацоўвае разам з імі мэтодыку і пляны комплекснага вывучэньня раёнаў і па-магчымасьці садзейнічае навукова-дасьледчай працы гэтых устаноў (музэяў) і організацыі.

6. Удзельнічае ў распрацоўцы і абгаварэньні пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва на аснове ўсебаковага вывучэньня асаблівасьцяў раёну і краю.

7. Мае свае выданьні, прысьвечаныя пытаньням кіраўніцтва, савецкага краязнаўства і непэрыодычныя выданьні як па агульным пытаньням, так і па асобным бягучым проблемам краязнаўства.

8. Наладжвае даклады, лекцыі, дыскусіі па пытаньням краязнаўства.

9. Склікае нарады, конфэрэнцыі і зьезды як для організацыі марксысцкіх сіл у галіне краязнаўства, так і для абмеркаваньня бягучых задач краязнаўства; стварае бібліотэкі і дасьледчыя брыгады па пытаньням краязнаўства.

*В. У галіне пропагандысцка-масавай працы*

10. Удзельнічае ў агульным партыйным і савецкім друку, популярызуючы дасягненьні савецкага краязнаўства, выяўляючы яго недахопы, ажыцьцяўляючы непрымірымую барацьбу з клясава-чужымі і опортуністычнымі плынямі ў галіне краязнаўства, і на гэтай аснове садзейнічае разьвіцьцю масавага савецкага краязнаўства.

11. Організуе публічныя даклады, лекцыі і дыспуты як у Комакадэміі, так і ў рабочых і колгасных групах, у навучальных установах, навуковых організацыях як у Маскве, так і ў іншых пунктах СССР, адначасова аказваючы, пры выездах на месцы, конкрэтную дапамогу па ўзмацненьню мясцовых організацый.

12. Склікае конфэрэнцыі-нарады і выдае масавыя лістоўкі і брошуры па пытаньням савецкага краязнаўства.

13. Організуе консультацыю па пытаньням краязнаўства.

14. Уцягвае ўдарнікаў у краязнаўчую працу і наладжвае соцыялістычнае спаборніцтва.

## Разьдзел II

### Склад таварыства

1. Таварыства складаецца з сапраўдных членаў і членаў корэспондэнтаў.

2. Сапраўднымі членамі Таварыства могуць быць толькі марксысты, працуючыя навукова ці практычна ў галіне краязнаўства.

3. Першымі сапраўднымі членамі зьяўляюцца ніжэйнаступныя члены—заснавальнікі Таварыства.

4. Асобы, уступаючыя ў сапраўдныя члены Таварыства, падаюць у Савет Таварыства заяву і прадстаўляюць рэкомэндацыі двух сапраўдных членаў Таварыства.

5. Залічэньне ў сапраўдныя члены ўтвараецца па прапанове Савету на агульным сходзе з адчыненым галасаваньнем, простаю большасьцю галасоў.

6. Членамі-корэспондэнтамі могуць быць асобы, адпавядаючыя ўсім запатрабаваньням п. 7. статуту.

7. Члены-корэспондэнты зацьвярджаюцца Саветам Таварыства. На сходах Таварыства члены-корэспондэнты карыстаюцца правам дарадчага голасу і ня могуць быць абраны ў выканаўчыя і рэвізійныя органы таварыства. Перавод членаў корэспондэнтаў у сапраўдныя члены ўтвараецца агульным сходам у парадку, прынятым для прыёму ў члены (п. 10).

8. Члены Таварыства плоцяць уступныя і штогоднія членскія ўзносы ў разьмерах і ў тэрміны, установленыя агульным сходам Таварыства.

9. Сапраўдныя члены Таварыства карыстаюцца наступнымі правамі:

а) правам рашаючага голасу на ўсіх сходах Таварыства;

б) правам абіраць і быць абранымі ў выканаўчыя і рэвізійныя органы Таварыства.

10. Усім членам Таварыства прадстаўляецца права карыстаньня бібліотэкамі і музэямі і іншымі ўстановамі Комакадэміі і краязнаўчых організацый. Таварыства садзейнічае сваім членам у атрыманьні навуковай літаратуры, доступе ў архівы, навуковых камандыроўках і інш.

11. Выбыцьце з ліку членаў Таварыства можа мець месца або па асабістай заяве выбываючага, або за няўплату членскіх узносаў, або па пастанове $^2/_3$ наяўнага складу Таварыства па сьпісам, прычым выключэньне ў апошнім выпадку можа мець месца толькі пры наяўнасьці з боку выключаемага ці неадпаведнасьці з патрабаваньнямі, якія прад'яўляюцца членам гэтым статутам, ці ў выпадку компромэнтуючага Таварыства ўчынку ці крымінальна прасьледваемага дзеяньня.

## Разьдзел III

### Структура Таварыства і яго кіраўніцтва

1. Кіруючым органам Таварыства зьяўляецца агульны сход Таварыства, які склікаецца не радзей аднаго разу ў год.

2. Выканаўчым органам зьяўляюцца: савет Таварыства, які абіраецца на агульным сходзе, яго прэзыдыум, які абіраецца на агульным сходзе Таварыства. Першы склад членаў заснавальнікаў Таварыства зацьвярджаецца Прэзыдыумам Комакадэміі. Організацыйны сход членаў-заснавальнікаў абірае першы склад савету Таварыства.

3. Агульны сход таксама абірае рэвізійную камісію, якая зьяўляецца контролюючым органам Таварыства. Яна складаецца з старшыні і чатырох членаў. Рэвізійная камісія правярае фінансава-гаспадарчую дзейнасьць Таварыства і прадстаўляе справаздачны даклад аб ёй чарговаму агульнаму сходу Таварыства.

4. Пытаньнямі, якімі ведае савет Таварыства, зьяўляюцца:

а) правядзеньне ў жыцьцё пастаноў агульнага сходу Таварыства і пастаноў Прэзыдыуму Комакадэміі;

б) кіраўніцтва працай Таварыства і яго сэкцыямі, камісіямі і нагляд за іх дзейнасьцю;

в) выданьне часопісаў, навуковых прац, зборнікаў і г. д.;

г) складаньне плянаў, каштарысаў і справаздач;

д) загадваньне ўсімі справамі і маемасьцю Таварыства;

е) наём і звальненьне супрацоўнікаў;

ж) утварэньне ад імя Таварыства ўсякіх актаў і дагавораў, прадугледжаных параграфамі гэтага статуту;

з) скліканьне зьездаў Таварыства, падрыхтоўкі да іх дакладаў і г. д.;

і) выданьне правіл і палажэньняў па ўсім відам дзейнасьці Таварыства.

5. Для кіраўніцтва бягучаю працаю савет Таварыства абірае з складу сваіх членаў прэзыдыум з старшыні, намесьніка старшыні, навуковага сакратара і членаў прэзыдыуму ў колькасьці, устаноўленай саветам Таварыства.

6. Савет Таварыства склікаецца не радзей аднаго разу ў тры месяцы. Прэзыдыум склікаецца ў тэрміны, устаноўленыя саветам Таварыства.

7. Працуючы пад непасрэдным кіраўніцтвам Прэзыдыуму Комакадэміі, савет Таварыства збавязаны прадстаўляць штогодна ў Прэзыдыум Комуністычнай акадэміі справаздачу аб дзейнасьці Таварыства па форме, устаноўленай апошнім.

8. Таварыства краяведаў-марксыстаў сваіх мясцовых аддзяленьняў не організоўвае. Усе краяведы-марксысты на мясцох абавязаны ўваходзіць у мясцовыя краязнаўчыя організацыі, абіраючы з свайго асяродзьдзя для сувязі з Таварыствам бюро і па меры патрэбы склікае нарады групы.

9. Таварыства мае пячатку, штамп і правы юрыдычнай асобы.

## Разьдзел IV

## Сродкі Таварыства

Сродкі Ўсесаюзнага Таварыства краяведаў-марксыстаў складаюцца з:

а) уступных і штогодніх членскіх узносаў;

б) асыгнаваньняў Комакадэміі і іншых організацый і ўстаноў.

## Разьдзел V

## Ліквідацыя Таварыства

1. Таварыства можа быць ліквідавана: па пастанове Прэзыдыуму Комуністычнай акадэміі, па пастанове 3/4 членаў Таварыства, па распараджэньню ўрадавых органаў.

2. У выпадку ліквідацыі Таварыства ўся яго маемасьць перадаецца Комуністычнай Акадэміі.

# Прынцыпы пабудовы савецкага краязнаўчага музэю

*(Тэзы, зацьверджаныя на Першым усерасійскім музэйным зьезьдзе)*

1. Асноўнае адрозьненьне савецкага краязнаўчага музэю, як навукова-дасьледчай установы, ад іншых навукова-дасьледчых устаноў заключаецца ў тым, што музэй ставіць сваёй простай задачай ня толькі вывучаць тую ці іншую зьяву, але выяўляць і вынікі вывучанага шляхам дэманстрацыі *навукова апрацаваных* матар'ялаў у мэтах комуністычнай пропаганды. Для гэтага музэй організуе дасьледчыя работы з такім разьлікам, каб у выніку ён мог узбагаціць свае экспозыцыйныя магчымасьці для політычна-асьветнай работы на базе марксысцка-ленінскага вучэньня.

2. Ставячы сваёй задачай вывучэньне пэўнай тэрыторыі і яе выяўленьне ў музэйнай экспозыцыі, краязнаўчы музэй павінен у сваім паказе вытлумачыць розныя зьявы ў прыродзе, у людзкім грамадстве як у мінулым, так і ў сучасным, каб наведвальнік мог зразумець акружаючае яго жыцьцё ў сьвятле дыялектычнага матар'ялізму і тым самым садзейнічаць актыўнаму ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве.

3. Каб ажыцьцявіць гэту задачу, краязнаўчы музэй павінен вывучыць усебакова свой край, даць поўнае выяўленьне жыцьця краю ў дынамічным разрэзе, каб перад наведальнікам у лёгічнай зьвязнасьці паўстаў яскравы малюнак усіх тых узаемадзеяньняў фактараў, якія з няўхільнасьцю прыводзілі да зьмены аднэй грамадзкай формацыі на другую, уключна да самой дыктатуры пролетарыяту, якая праводзіць соцыялістычную рэконструкцыю народнае гаспадаркі і быту.

4. Для гэтага краязнаўчы музэй павінен паказаць ня толькі тое асяродзьдзе прыроды, у якім разьвіваліся і разьвіваюцца вытворчыя сілы краю, г. зн. суму тых прыродна-гістарычных умоў, у якіх адбылася і адбываецца дзейнасьць людзкога грамадства, але і процэс актыўных адносін чалавека да акружаючага яго прыроднага асяродзьдзя і процэс адносін чалавека да прыроды з прычыны разьвіцьця вытворчых сіл.

5. Выяўляючы прыроду вывучанага краю і паказваючы процэсы зьмены чалавекам прыроды, музэй не павінен паказваць разрозьнена паасобныя элемэнты (сыстэматычныя колекцыі) па-за якой-небудзь прычыннай іх залежнасьцю паміж сабою,—такая экспозыцыя з пункту погляду дыялектычнага матар'ялізму павінна быць рашуча адкінута,— мы павінны высунуць як адпаведны яму прынцып ляндшафтнай экспозыцыі прыродна-гістарычнага матар'ялу, пры якім музэй можа паказаць, як прырода ўтварае цэльную сыстэму, сукупную сувязь матар'-

яльных цел і процэсаў. Усе целы ў ёй знаходзяцца ва ўзаемнай сувязі, у пэўнай узаемадзейнасьці, што і складае рух.

Паказ прыродна-гістарычнага матар'ялу павінен пачынацца з гісторыі прыроды, агульнай характарыстыкі клімату, агульнай геолёгічнай будовы і г. д. у мэтах выяўленьня ўмоў, якія вызначаюць сабой агульную характарыстыку ўсёй прыроды краю і залежных ад палажэньня тэрыторыі на паверхні зямной кулі ў тым або іншым яго пункце. Другой часткай павінны зьявіцца асобныя найбольш тыповыя ляндшафты (рака, лес, балота і г. д.).

6. Паколькі кожны ляндшафт прадстаўляе сабой комплекс зьяў, зьвязаных з дзейнасьцю чалавека, дык вывучэньне яго таксама павінна весьціся комплексна. У склад кожнага комплексу павінны праводзіцца наступныя элемэнты: а) характарыстыка разьмеркаваньня данага ляндшафту ў краі, б) мікроклімат данага ляндшафту, в) геолёгічная будова, г) глебавая будова, д) расьліннасьць, е) жывёлы, ж) выяўленьне адносін гаспадарчай дзейнасьці чалавека да данага ляндшафту ў залежнасьці ад становішча вытворчых сіл.

У кожным ляндшафце неабходна паказаць узаемадзеяньне паміж чалавекам і прыродай, тыя зьмены, якія адбыліся ў прыродзе пад уплывам дзейнасьці чалавека, match рознастайнае выкарыстаньне чалавекам сіл прыроды, яе багацьцяў, якое прыводзіць да стварэньня прылад вытворчасьці, якія разам з асяродзьдзем прыроды абумаўляюць спосаб вытворчасьці.

7. Асноўнай задачай паказу дыялектыкі грамадзкіх формацый зьяўляецца паказ, як грамадзкія адносіны вытворчасьці зьмяняюцца адначасова з зьменай і разьвіцьцём матар'яльных сродкаў вытворчасьці, з зьменай вытворчых сіл. Другімі словамі—трэба паказаць, што азначальным момантам у гісторыі зьяўляецца ў канечным ліку вытворчасьць, аднаўленьне вытворчасьці (воспроизводство) сапраўднага жыцьця, што палітычнае, прававое, філёзофскае, рэлігійнае, літаратурнае, мастацкае разьвіцьцё і г. д. грунтуюцца на экономічным базісе і што „ўся гісторыя папярэдняга грамадзянства (общества) ёсьць гісторыя барацьбы клясаў".

8. Для таго, каб ажыцьцявіць такое выяўленьне дыялектыкі грамадзкіх формацый, таксама патрэбна комплексная экспозыцыя, пры якой асобныя элемэнты пэўнай экономічнай эпохі былі-б цесна зьвязаны паміж сабой, г. зн., другімі словамі, музэй павінен даваць комплексную характарыстыку пэўнай экономічнай эпохі, паказаўшы, як на базе існаваўшых вытворчых адносін разьвівалася клясавая барацьба, як абумоўліваліся вытворчымі адносінамі ідэолёгічная і палітычная надбудовы і г. д.

9. Такім чынам, існуючы падзел краязнаўчых музэяў на тры аддзелы: прыродна-гістарычны, які выяўляе „чыстую" прыроду па яе асобных элемэнтах, гістарычна-культурны, які дэманструе помнікі матар'яльнай і духоўнай культуры, урэшце, грамадзка-экономічны, які ў падаўляючай большасьці паказвае экономіку краю за пэўны пэрыод—павінен быць адкінуты, як пазбаўляючы магчымасьці выявіць вытворчыя адносіны той або іншай эпохі ва ўмовах прыроднага асяродзьдзя, дыялектычнае разьвіцьцё грамадзкіх формацый, іх зьмену, фактары, якія яе абумаўляюць.

10. Такая пабудова краязнаўчага музэю магчыма толькі пры ўмове, калі музэй парывае беспаваротна з укаранёнымі ў музэйнай практыцы традыцыямі паказу помнікаў культуры як „надзвычайных" („замечательных") зьнікаючых прадметаў старыны і мастацтва, у леп-

шым выпадку вывучаных абстрактна, як помнікі стара-рускага мастацтва, якія абсолютна не выкарыстоўваюцца для асноўнай мэты—для характарыстыкі вытворчых адносін, для аналізу клясавай структуры той або іншай грамадзкай формацыі, для чаго павінны быць выкарыстаны ў першую чаргу орыгінальныя помнікі культуры, мастацкія творы, архіўныя докумэнты і т. д.

Трэба падкрэсьліць, што для гэтай задачы багацейшы матар'ял даюць помнікі царкоўнага быту, у якіх яскрава выяўлялася ня толькі тэхніка данай эпохі, але, што асабліва важна,—ідэолёгія пануючых кляс.

11. Выяўленьня клясавай структуры поўнай экономічнай эпохі краязнаўчы музэй можа дасягнуць паказам бытавой абстаноўкі розных грамадзкіх груп (напрыклад, для характарыстыкі прыгоннай эпохі—быт памешчыка і быт селяніна, капіталістычнай эпохі—быт фабрыканта і быт рабочага і г. д.).

Такая комплексная экспозыцыя зьяўляецца найбольш наглядным паказам клясавай структуры грамадства, найбольш пераканальнай дэмонстрацыяй клясавых супярэчнасьцяў, якія ўспрымаюцца наведвальнікам шляхам музэйнага паказу.

12. Пры такой пабудове краязнаўчага музэю эпоха социялістычнага будаўніцтва Савецкага саюзу[1]) займае асаблівае экспозыцыйна-выгоднае месца і разам з тым навукова абгрунтаванае выяўленьне тых соцыяльна-экономічных фактараў дакастрычнікаўскай Расіі, якія ходам свайго разьвіцьця абумовілі дыктатуру пролетарыяту.

13. Разьдзел соцыялістычнага будаўніцтва павінен паказаць, як ад эпохі ваеннага капіталізму ў гады грамадзянскай вайны, праз НЭП Савецкая краіна перайшла да рэконструкцыйнага пэрыоду, да соцыялістычных формаў у народнай гаспадарцы і як на базе соцыялістычных адносін будуецца новая культура. У гэтым разьдзеле павінна быць выяўлена клясавая барацьба, яе абвастрэньне, выкліканае ўзмоцненым наступленьнем на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі. Комплекснае выяўленьне і ў даным разьдзеле дае яскравы малюнак новай старонкі ў гісторыі чалавецтва.

14. Пры такой структуры краязнаўчага музэю адкрываюцца шырокія магчымасьці скарыстаньня музэю як прылады комуністычнай пропаганды, сродку барацьбы за соцыялістычнае грамадзтва, за новы быт. На паказе акружаючай чалавека прыроды, на гісторыі разьвіцьця грамадзкіх формацый, на нашым соцыялістычным будаўніцтве музэй наглядна пакажа пераможны ход носьбіта вучэньня Маркса-Леніна—сучаснага пролетарыяту.

---

[1]) У орыгінале Савецкай Расіі.

## Шкодная кніжка

*А. Цімашоў. Экономічныя нарысы раёнаў і іх мэтодолёгія.* Выданьне Масавага сэктару і ЦБ краязнаўства БАН. Рэдактар В. Серафімаў. Тэхрэдактар А. Раманоўскі. Тыраж 1.000 экз., стар. 10. Цана 25 к.

---

Адна ўжо назва брошуры сьведчыць аб тым, што яна прысьвечана вельмі актуальнай тэме. Сапраўды, даць вытрыманае марксысцка-ленінскае мэтодолёгічнае кіраўніцтва шырокім колам краязнаўцаў БССР у комплексным экономічным вывучэньні раёнаў, паказаць у зразумелай форме спосабы выкананьня гэтае работы ёсьць вельмі актуальная і ўдзячная задача.

На жаль, выданьне Масавым сэктарам і ЦБК БАН разгляданай брошуры зьяўляецца прыкладам таго, як ня трэба мэтодолёгічна кіраваць краязнаўчымі досьледамі. Брошура ўяўляе сабою пераклад (гэта чамусьці не паказана) вельмі няўдалага, больш таго, шкоднага артыкулу з часопісу: „Советское краеведение“ № 7-8 за 1931 год.

Аўтар пачынае свой артыкул з таго зазначэньня, што „непасрэднае кіраўніцтва сотнямі (?) раёнаў прадстаўляе для абласных (?) організацый *тэхнічна складаную задачу*“ (падкрэсьлена ўсюды намі— аўтары). Як зазначана раней, на брошуры не паказана, што гэта даслоўны пераклад з расійскага, і робіцца абсолютна незразумелым, аб якіх сотнях раёнаў ідзе гутарка, калі іх у нас толькі 75, якія вобласьці маюцца на ўвазе, калі іх у нас зусім няма. Нарэшце, што гэта за „тэхнічна-складаная задача“ па кіраўніцтву раёнамі і няўжо гэтае бяззубае зазначэньне абымае сабою зьмест цэнтральнага кіраўніцтва раёнамі і сувязь гэтага кіраўніцтва з экономічным вывучэньнем раёнаў?.. Тым ня менш гэтая безьзьмястоўнасьць робіцца выходным пунктам наогул вельмі пражэкцёрскага азначэньня неабходнасьці экономічнага вывучэньня раёнаў.

„Што тычыцца мэтодолёгіі раённых апісаньняў,—кажа аўтар,—дык гэткая, у сувязі з адносна невялікаю практыкаю, назапашанаю ў гэтай галіне, ня можа быць прызнана ўсталяванай“ (!?). Як бачыце, па думцы Цімашова выходзіць, што пры экономічным вывучэньні раёнаў ня можа быць гутаркі аб марксысцка-ленінскай мэтодолёгіі, аб яе конкрэтным праламленьні ў данай справе; тут патрэбна нейкая іншая мэтодолёгія, якая наогул „ня можа быць прызнана ўсталяванай“. Таму ён прабуе „высьветліць асноўныя моманты мэтодолёгіі нарысу, скарыстоўваючы практыку па складаньню ім экономічнага апісаньня аднаго з раёнаў Маскоўскай вобласьці (Шатурскага)“. Што-ж гэта за мэтодолёгія, якую падае Цімашоў на аснове сваёй практыкі?

Для характарыстыкі гэтае мэтодолёгіі даволі прывесьці наступныя моманты: „Мэтавая ўстаноўка нарысу,—кажа Цімашоў,—даць

сыстэматычнае комплекснае апісаньне раёну, *якое можна пакласьці за аснову пэрспэктыўнага і бягучага плянаваньня*", або: „пры разглядзе ўсіх належачых сюды паказчыкаў,—кажа аўтар у разьдзеле аб сельскай гаспадарцы,—*у дынамічным разрэзе* лёгка зрабіць *канчатковыя вывады і пабудову агульных пэрспэктыў сельскай гаспадаркі разглядanaга раёну,* адбіўшы ў нарысе асноўныя лічбы пэрспэктыўнага пляну сельскай гаспадаркі раёну, калі такія вызначаны, *ці магчымыя намёткі на бягучыя гады, абаснаваныя папярэднімі выкладкамі*".

Словам, аўтар кладзе ў аснову гаспадарчага і культурнага плянаваньня раёну яго статыку і дынаміку. Інакш кажучы, гэта ёсьць слаба прыкрыты працяг эволюцыйнае тэорыі Чэлінцава-Кандрацьцева аб прыстасаваньні плянаваньня да эволюцыі, аб „прогнозе" ў плянаваньні на базе эволюцыі, аб прыстасаваньні да гэтага эволюцыйнага прогнозу ўсяе палітыкі дзяржавы і г. д. Усё гэта, як вядома, супроцьстаўлялася шкоднікамі тэй рэволюцыйнай перабудове народнай гаспадаркі, якая праводзіцца дыктатурай пролетарыяту, супроцьстаўлялася тым дзейным дырэктывам па соцыялістычнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі, якія ляжаць у аснове нашых плянаў. Дзейны плян—дырэктыва падмянялася на „прогноз",—на опортуністычнае прыстасаваньне да эволюцыі, да фактычнага садзейнічаньня пашыранаму аднаўленьню капіталістычных адносін, да ўмацаваньня базы рэстаўратараў.

Гэтая варожая концэпцыя праводзіцца ў артыкуле Цімашова, а Масавы сэктар і ЦБК БАН, „ніштожа сумняшася", пашыраюць гэтую шкодную працу праз выданьне яе асобнай брошурай. Адначасна з тым як пролетарыят і яго партыя праводзяць жорсткую клясавую барацьбу па выкрыцьцю і канчатковай ліквідацыі варожых нам тэорый, т. Серафімаў, які рэдагаваў гэтую працу, на жаль, аказаўся ў ролі штампоўшчыка,—выявіў у даным выпадку недапушчальны лібэралізм. Ня кажучы ўжо аб тым, што парадак досьледу ў паасобных галінах гаспадаркі раёну даецца гэтаю брошураю ў блытанай, незразумелай форме, апісаньне гэтых галін раіцца па выпрабаванай схеме буржуазных монографій—прырода, насельніцтва, сельская гаспадарка і г. д. Гэтае апісаньне намячаецца ў мэханістычным разрыве; паасобныя галіны бяруцца ня толькі не ў парадку іх вядучасьці, але і бяз сувязі паміж сабою. Нарэшце, раіцца для атрыманьня „пашпарту" раёну скласьці вынікі гэтага апісаньня паасобных галін і атрымаць такім чынам „сьціслае, компактнае ўкладаньне асноўных паказчыкаў усяго раёну"... Словам, атрымліваецца сума „аршынаў з пудамі", а ня зьвязная, у парадку вядучых галін, характарыстыка раёну.

Брошура ня толькі не задавальняе запатрабаваньняў шырокіх колаў савецкіх краязнаўцаў у справе кіраўніцтва імі па экономічнаму вывучэньню раёнаў, але яна шкодная, бо грунтуецца на дзейна-варожай буржуазнай мэтодолёгіі. Яна (брошура) ня можа распаўсюджвацца, а павінна быць заменена вытрыманым марксысцка-ленінскім мэтодолёгічным кіраўніцтвам па экономіка-геграфічнаму вывучэньню раёнаў, і чым хутчэй гэта зробіць Масавы сэктар і ЦБК БАН, тым будзе лепш.

Прыклад выданьня гэтае шкоднае брошуры зьяўляецца перасьцярогай для ўсяе пролетарскае грамадзкасьці БАН, ён гаворыць аб неабходнасьці максымальнага завастрэньня клясавае пільнасьці ў напрамку выкананьня ўказаньня т. Сталіна аб недапушчальнасьці „гнілога лібэралізму" да ворагаў дыктатуры пролетарыяту і іх тэорый.

М. Лойка.
С. Маргелаў.

# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Да ўсіх навукова-дасьледчых і музэйных устаноў

### па гісторыі матар'яльнай культуры, археолёгіі і этнографіі, спэцыяльных внусаў і нацыянальных пэдагогічных навучальных устаноў. Да навуковых таварыстваў і асоцыяцый па гісторыі, краязнаўству і нацыянальна-культурным проблемам. Да працаўнікоў у галіне краязнаўства, археолёгіі і этнографіі. Аб Першым усесаюзным зьезьдзе па археолёгіі і этнографіі

Вялізарныя, сусьветна-гістарычныя задачы, якія стаяць перад будуючай соцыялізм Савецкай краінай, патрабуюць і абумаўляюць выключнае, нябачанае разьвіцьцё навуковай думкі. Разам з соцыяльна-экономічнай структурай краіны ў агні вострых клясавых боек у корані, да аснаваньня, перабудоўваецца ўся сыстэма навуковай работы і мэтодолёгія навуковага дасьледваньня. Упяршыню навука, усё больш і больш узброеная магутнай і неперαможнай зброяй — марксысцка-ленінскай мэтодолёгіяй, ва ўсім сваім зьмесьце і на ўсім сваім працягу выбіваецца з-пад прыгнёту скажаючых уплываў буржуазнай, а часам і фэўдальнай ідэолёгіі: ідзе ў поўным сэнсе слова аслабаненьне чалавецкай думкі ад тысячагодніх ланцугоў, ідзе поўная зьмена сьветапогляду. Пераможная ў Савецкай краіне рабочая кляса зьяўляецца піонэрам новай эпохі ў галіне ідэолёгіі навукова-творчай думкі.

У гэтым вялізарным і пераможным руху, які ня можа пакінуць без свайго рэволюцыянізуючага ўплыву ніводнага, нават самага аддаленага і на першы погляд другараднага, кутка навукова-дасьледчай думкі, ёсьць участкі, на якіх мы пасунуліся параўнаўча далёка, ёсьць, наадварот, такія, на якіх мы недапушчальна адсталі. Да ліку апошніх належыць той круг дысцыплін і пытаньняў, якія дастаткова ахопліваюцца тэрмінамі гісторыі матар'яльнай культуры, археолёгіі і этнографіі. Між іншым, об'ект іх вывучэньня ні ў якім разе не належыць да ліку такіх, якімі можа ня цікавіцца савецкая навуковая думка і савецкая навуковая грамадзкасьць.

Пастанова Цэнтральнага камітэту партыі ад 15-га сакавіка г. г. па дакладу Ўсесаюзнай комуністычнай акадэміі аб задачах навуковай работы патрабуе поўнай карэннай рэорганізацыі ўсёй навукова-да-

сьледчай справы ў Савецкім саюзе, максымальнага набліжэньня яе да задач соцыялістычнага будаўніцтва, хутчэйшага зьнішчэньня таго разыходжаньня тэорыі з практыкай, якое і да гэтага часу мае месца ў нашай навуковай рабоце, патрабуе ўскрыцьця і зьнішчэньня элемэнтаў клясава-варожых уплываў на нашу навуковую думку.

На даным участку навуковага дасьледваньня, які будзе об'ектам прац надыходзячага Першага ўсесаюзнага зьезду па археолёгіі і этнографіі, таксама, і ў яшчэ большай ступені, патрэбна карэнная перабудова зьверху данізу. Нам патрэбна будзе азначыць прадмет, якім гэтыя дысцыпліны павінны займацца з пункту погляду марксызму-ленінізму, бо нават у гэтым пытаньні няма чаго-небудзь канчаткова яснага і ўстаноўленага, вызначыць тыя конкрэтныя шляхі, па якіх мы можам праводзіць вырашэньне гэтых навуковых проблем і ўсю адпаведную навукова-дасьледчую работу на аснове марксысцка-ленінскай мэтодолёгіі, выкрыць, нарэшце, усе карэньні і выяўленьні клясава-варожай, буржуазнай і фэўдальнай ідэолёгіі ў нашай навуковай рабоце, выкрыць квазы-марксысцкую слоўную мімікрыю, якая да гэтага часу яшчэ мае месца ў практыцы нашай работы; даць аналіз часам вельмі тонкім і складаным адбіткам у нашай навуковай продукцыі таго рэзкага абвастрэньня клясавай барацьбы ў СССР і ва ўсім сьвеце, якое мае месца на даным рашаючым этапе нашага гістарычнага шляху. Зьезду неабходна таксама будзе абмеркаваць з усёй дасканаласьцю ўсе організацыйныя пытаньні навуковай работы ў галіне археолёгіі і этнографіі—пытаньні аб кадрах, аб сетцы навукова-дасьледчых і музэйных установаў, аб сыстэме іх узаемнай сувязі, пытаньне аб адзіным пляне работы на бліжэйшы пэрыод і г. д. Патрэбна, каб пасьля Зьезду не засталося ніякіх няяснасьцяў па ўсім гэтым пытаньням, каб пасьля Зьезду пачалася плянамерная ўдарная работа на адзінай аснове, па адзінаму пляну, на аднэй агульнай мове.

Організацыя Зьезду і ўсе падрыхтоўчыя работы па яго скліканьню праводзяцца Організацыйным камітэтам па скліканьню Першага ўсесаюзнага зьезду па археолёгіі і этнографіі, які ўтвораны пры Камітэце па загадваньню навуковымі і навучальнымі ўстановамі пры ЦВК СССР, у складзе прадстаўнікоў Вучонага камітэту ЦВК СССР, Усесаюзнай ком. акадэміі, Акадэміі навук СССР, Акадэмій навук УССР і БССР, народных камісарыятаў асьветы Саюзных рэспублік і важнейшых спэцыяльных навукова-дасьледчых і музэйных організацый пад старшынствам А. В. Луначарскага.

Скліканьне Зьезду вызначана Організацыйным камітэтам на 1-ае сакавіка 1932 году ў Ленінградзе. Парадак і нормы прадстаўніцтва ўстаноў і організацый, таксама як і сьпісы запрошаных і дапушчаных да ўдзелу ў Зьезьдзе, вызначаюцца Організацыйным камітэтам.

Установы і таварыствы, а таксама паасобныя працаўнікі, жадаючыя прыняць удзел у рабоце Зьезду і прапанаваць свае даклады і паведамленьні, павінны заявіць аб гэтым у Організацыйны камітэт не пазьней 1-га студзеня 1932 г. і прадставіць даклады і паведамленьні (ня больш $1/2$ друкаванага аркушу) у пісьмовым выглядзе не пазьней 10-га студзеня 1932 г. па адрасу: Москва, 19, Волхонка, 14. Ком. Академия, комната № 409.

Усе ўдзельнікі Зьезду забясьпечваюцца на час Зьезду бясплатным інтэрнатам. Выдаткаў па праезду і ўтрыманьню ўдзельнікаў Зьезду

Організацыйны камітэт на сябе не бярэ. Організацыйны камітэт заклікае ўсе адпаведныя організацыі і ўсіх навуковых працаўнікоў у галіне гісторыі матар'яльнай культуры, археолёгіі і этнографіі з усёй сур'ёзнасьцю аднесьціся да падрыхтоўкі да Зьезду, які павінен адыграць рашаючую паваротную ролю ў нашай навуковай рабоце і тым самым наш адсталы ўчастак уключыць у асноўную лінію фронту ідэолёгічнай барацьбы за пабудову соцыялізму.

# РЭЗОЛЮЦЫЯ

## Ўсебеларускай конфэрэнцыі пролетарскага студэнцтва ВНУ і тэхнікумаў, аб'яднаных саюзам рабочых МТС і батрацтва, па дакладу — „Задачы ВНУ і тэхнікумаў у разгортваньні масавай навукова-дасьледчай працы"

Заслухаўшы даклад аб задачах ВНУ і тэхнікумаў, аб'яднаных профсаюзам рабочых МТС і батрацтва ў справе популярызацыі і разгортваньня масавай навукова-дасьледчай працы, Усебеларуская конфэрэнцыя пролетарскага студэнцтва ВНУ і тэхнікумаў адзначае надзвычайна вялікае значэньне разгортваньня масавай навукова-дасьледчай працы ў розных галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Асноўнымі задачамі масавай дасьледчай працы ў даны пэрыод зьяўляюцца: комплекснае ўсебаковае вывучэньне паасобных раёнаў, іх прыродных багацьцяў, прыродна-гістарычных умоў, экономікі, паасобных галін прамысловасьці і спэцыялізаваных галін соцыялістычнай сельскай гаспадаркі (жывёлагадоўлі, тэхнічных культур і інш.), соцыялістычнай культуры і быту.

Беларуская акадэмія навук, перабудаваўшы сваю працу ў адпаведнасьці з дырэктывамі партыі і пастановамі ўраду, правяла досыць значную работу па популярызацыі масавай дасьледчай працы сярод шырокіх працоўных мас і організацыі краязнаўчых ячэек у раёнах (пры колгасах, школах), аднак, масавая дасьледчая праца яшчэ далёка не адпавядае тым запатрабаваньням, якія прад'яўляюць сучасныя задачы і вялізарныя тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва. У масавую дасьледчую працу яшчэ ня ўцягнуты належным чынам рабочыя, колгасьнікі, інжынэрна-тэхнічныя і аграномічна-тэхнічныя сілы; масавая дасьледчая праца амаль зусім не разгорнута ў вышэйшых навучальных установах і тэхнікумах.

Конфэрэнцыя лічыць неабходным:

1. Масаваму сэктару БАН шырэй разгарнуць популярызацыю задач і значэньня масавай дасьледчай працы сярод працоўных мас БССР, ВНУ і тэхнікумаў шляхам пастаноўкі дакладаў, лекцый, радыё, выданьня масавай популярна-навуковай літаратуры і інш.

2. Наладзіць больш цесную сувязь з ВНУ і тэхнікумамі шляхам пастаноўкі лекцый і дакладаў і дачы конкрэтных задач гэтым установам па масавай дасьледчай працы, выходзячы з спэцыяльных задач кожнае ўстановы.

3. Організаваць у больш шырокім маштабе організацыйную і мэтодычную дапамогу краязнаўчым ячэйкам у ВНУ і тэхнікумах (вусная і пісьмовая консультацыя, выданьне програм і інструкцый і іншага мэтодычнага матар'ялу).

4. Прасіць НКА і НКЗ даць адпаведныя ўказаньні ВНУ і тэхнікумам аб разгортваньні масавай дасьледчай (краязнаўчай) працы з прадугледжаньнем водпуску адпаведных сродкаў на гэту працу.

5. Прасіць Цэнтральнае праўленьне саюзу рабочых МТС і батрацтва даць указаньні па сваёй лініі аб садзейнічаньні з боку прафсаюзных організацый ВНУ і тэхнікумаў разгортваньню масавай дасьледчай працы ў гэтых установах.

6. Конфэрэнцыя заклікае ўсіх навуковых працаўнікоў, студэнцтва, рабочых і служачых ВНУ прыняць актыўны ўдзел у організацыі ячэек масавай навукова-дасьледчай працы (краязнаўчых ячэек) пры ўсіх ВНУ і тэхнікумах і разгортваньні дасьледчай працы для садзейнічаньня соцыялістычнаму будаўніцтву.

7. Практычны ўдзел студэнтаў у разгортваньні масавай дасьледчай працы ў саўгасах і колгасах павінен выявіцца ў організацыі ячэек па масавай дасьледчай працы, па вывучэньню глеб, водных багацьцяў, організацыі фэнолёгічных назіраньняў, організацыі працы, вывучэньні эфэктыўнасьці розных сельскагаспадарчых машын у розных раёнах і г. д.

8. Масавыя дасьледчыя ячэйкі павінны зьвярнуць вялікую ўвагу на ўладаньне тэхнікай вытворчасьці і пропаганду тэхнікі сярод шырокіх мас рабочых і колгасьнікаў.

9. Масаваму сэктару БАН узмацніць і пашырыць сетку організацый па масавай дасьледчай працы і паглыбіць мэтодычнае кіраўніцтва, уцягнуўшы ў гэту работу спэцыялістаў па розных галінах навукі і тэхнікі.

---

# Да ўсіх краязнаўчых арганізацый

ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ!

Вялізарныя посьпехі нашага соцыялістычнага будаўніцтва выклікаюць шалёную нянавісьць усіх ворагаў пролетарыяту. У клясавай барацьбе супроць дыктатуры пролетарыяту актыўна выступаюць розныя рэлігійныя организацыі, якія зьяўляюцца ваяўнічымі абаронцамі старога капіталістычнага ладу, носьбітамі і прапаведнікамі варожай пролетарыяту ідэолёгіі. Рэлігія ўсімі мэтодамі і сродкамі змагаецца супроць будаўніцтва соцыялізму. Краязнаўчыя организацыі ва ўсёй сваёй працы павінны рашуча змагацца з рэлігіяй, выкрываючы яе клясавую сутнасьць, яе варожасьць да соцыялістычнага будаўніцтва, вывучаючы мэтоды і формы барацьбы розных рэлігійных организацый у конкрэтных мясцовых умовах і мобілізуючы працоўныя масы на барацьбу з контррэволюцыйнай рэлігіяй.

У сувязі з набліжэньнем антыкаляднай кампаніі краязнаўчыя организацыі сумесна з мясцовымі ячэйкамі ваяўнічых бязбожнікаў павінны правесьці падрыхтоўчую працу і прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні кампаніі. Удзел краязнаўчых организацый павінен выявіцца:

1) у вывучэньні контррэволюцыйнай дзейнасьці рэлігійных организацый у сваім раёне ў часе грамадзянскай вайны і ў пэрыод рашучага соцыялістычнага наступленьня;

2) у вывучэньні зьмяненьня формаў і мэтодаў барацьбы рэлігійных организацый у залежнасьці ад узмацненьня і посьпехаў соцыялістычнага будаўніцтва;

3) у организацыі антырэлігійных выставак пры краязнаўчых музэях, хатах-чытальнях, клюбах, у пастаноўцы дакладаў на антырэлігійныя тэмы з выкарыстаньнем матар'ялаў дасьледваньня контррэволюцыйнай дзейнасьці рэлігійных организацый розных масьцей;

4) у вывучэньні і выяўленьні посьпехаў работы ячэек ваяўнічых бязбожнікаў у справе барацьбы з рэлігіяй і ўдзелу ў будаўніцтве соцыялізму.

Удзел краязнаўчых организацый у антыкаляднай, адитывялікоднай і інш. антырэлігійных кампаніях павінны зьяўляцца толькі асобнымі выпуклымі момантамі ў сыстэматычнай, плянавай бесьперарыўнай антырэлігійнай працы. Бесьперарыўная антрырэлігійная работа павінна дапамагаць узмацненьню тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва, узмацненьню работы ячэек ВБ, узмацненьню краязнаўчай працы і ўцягненьню ваяўнічых бязбожнікаў у краязнаўчыя организацыі.

Нам. Старшыні ЦБК Ф. П. Садоўскі

Навуковы Сакратар В. Самцэвіч

# ХРОНІКА

## Плян працы масавага сэктару і ЦБК пры БАН на 1932 г.

### I. Організацыйная праца

1. Разгарнуць сетку краязнаўчых організацый ва ўсіх раёнах: ня менш як па 5 краязнаўчых ячэек (на прамысловых прадпрыемствах, у савгасах, колгасах, МТС) у сярэднім па 10 чл. у ячэйцы.

2. Організаваць краязнаўчыя ячэйкі пры ўсіх ВНУ, пэдагогічных, сельскагаспадарчых, коопэрацыйных тэхнікумах і школах павышанага тыпу (ФЗС, ШКМ) і ня менш як 30 проц. масавых школ (да 1 мая).

3. Організаваць 8 краязнаўчых музэяў і рэорганізаваць існуючыя раённыя краязнаўчыя музэі ў адпаведнасьці з пастановай 1-га Усесаюзнага музэйнага зьезду.

4. Разгарнуць організацыю краязнаўчых куткоў і музэяў пры заводах, фабрыках, у колгасах і савгасах.

5. Паставіць у СНК БССР даклад аб краязнаўчай рабоце (сьнежань-студзень).

6. Правесьці ўчот усіх краязнаўчых організацый (студзень-люты).

7. Падрыхтаваць і выдаць палажэньне аб ЦБК, раённым бюро краязнаўства і краязнаўчых ячэйках (да 1-га студзеня).

8. У мэтах інструктажу і організацыі масавай навукова-дасьледчай работы краязнаўчых ячэек апаратам масавага сэктару і ЦБК правесьці абсьледваньне і інструкцыйна-мэтодычныя нарады ня менш як у 25 раёнах і апаратам інстытутаў БАН і асьпірантуры ня менш як у 15 раёнах (лістапад-сьнежань 1931 г.).

9. Правесьці зьезд па масавай навукова-дасьледчай рабоце і краязнаўству (сьнежань-студзень).

10. Організаваць і правесьці курсы-сэмінары для падрыхтоўкі краязнаўчага актыву з рабочых гор. Менску (лістапад-студзень).

11. Правесьці месячнік краязнаўства і масавай навукова-дасьледчай работы (студзень).

12. Організаваць і аформіць сэкцыі пры ЦБК: прамысловую, сельскагаспадарчую, школьнага краязнаўства і камісію па вывучэньню прыродных вытворчых сіл.

13. На працягу 1931/32 г. правесьці раённыя курсы конфэрэнцыі ў наступных раёнах: у гор. Менску, Віцебску, Гомелі, Магілеве, Бабруйску, Барысаве, Мозыры, Полацку, Рэчыцы, Рагачэве, Мсьціславе, Клімавічах, Дрысе, Койданаве, Тураве, Лепелі, Бягомлі і Вушачы.

14. Прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні ўсіх важнейшых гаспадарча-палітычных кампаній: пасеўная, уборачная, лесасплаўная, хлебанарыхтоўкі і г. д.

### II. Навукова-дасьледчая работа

| Назва тэмы | Мэта | Мэтоды правядзеньня работы | Хто выконвае | Дзе выконваецца | Тэрмін выкананьня | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Пачатак | Канец | |
| I. Вывучэньне 9 зав. (монографічнае), выходзячы з дырэкт. ЦК УсеКП(б) | Паказаць дасягненьні нашай соцыялістычнай прамысловасьці і даць конкрэтныя ўзоры гэтых дасягненьняў | Экспэдыцыйны | | | | | Па заданьню ВСНГ (узгодз т. Валасэвічам) |
| 1) Завод імя Варашылава | | „ | | Менск, на заводзе | Сьнежань | Чэрвень | |

| Назва тэмы | Мэта | Мэтоды правядзеньня работы | Хто выконвае | Дзе выконваецца | Тэрмін выкананьня | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Пачатак | Канец | |
| 2) Завод „Бальшавік" | „ | | „ | „ | Сьнежань | Ліпень | |
| 3) Фаб. „Профінтэрн" (Віцебск) | „ | „ | Брыгада Віцебскага бюро кр-ва | Фабрыка „Профінтэрн" | „ | Красавік | |
| 4) Цагельня № 1 Менск | „ | „ | Брыгада Менскага бюро кр-ва | Менск, цагельня | „ | „ | |
| 5) Гомельскі шкляны зав. | „ | „ | Брыгада Гомельскага бюро кр-ва | Гомельскі завод | „ | „ | |
| 6) Панчошна-трыкотажная фаб. у Віцебску | „ | „ | Брыгада Віцебскага бюро кр-ва і фабрыкі | Віцебск, фабрыка | „ | Май | |
| 7) Шаўковая фабрыка ў Магілеве | „ | „ | Брыгада Магілеўскага бюро кр-ва і фаб. | Магілеў, фабрыка | „ | Сакавік | |
| 8) Запалкавая фабр. „Пролетарская перамога" | „ | „ | Барысаўскае бюро кр-ва | Нова-Барысаў | Сьнежань | Красавік | |
| 9) Цэмантны зав. у Крычаве | „ | „ | Брыгада ЦБК | Крычаў | Май | Верасень | |
| II. Гісторыя зав. БССР (па матар'ялах з месц) | Выкананьне пастановы ЦК УсеКП(б) | Экспэдыцыйн. з апрац. матар'ял. з месц. | Раён. краязн. орг. і яч. на зав., брыгад. Масав. сэктару і ЦБК | | Сьнежань | Кастрычнік | |
| III. Рэсурсы сыравіны для запалкавай прамысловасьці БССР | Выявіць запасы асіны для запалкавай прамысловасьці | Экспэдыцыйны і вывучэньне на месц. краязнаўчымі організацыямі | Барысаўск., Крупск., Гом., Рэчыц. бюро кр-ва і брыгады ЦБК і ВСНГ | „ | Студзень | Май | |
| IV. Монографіі сельскагаспадарчых комун, арцел., МТС, савгасаў | | | | | | | |
| 1) Асьвейская МТС | Роля МТС у соц. рэконструкцыі с. г. | Стацыянарны і экспэдыц. | Брыгады МТС і ЦБК | МТС | Люты | Красавік | |
| 2) Савгас „Івань" | Выявіць дасягненьні савгасаў, яго ролю ў соц. рэконструкцыі с. г. | Стацыянарн. | Слуцкі белпэдтэхнікум і брыгада савгасу | Савгас, Слуцк | Лістапад | Сакавік | |

| Назва тэмы | Мэта | Мэтоды правядзеньня работы | Хто выконвае | Дзе выконваецца | Тэрмін выкананьня | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Пачатак | Канец | |
| 3) Птушкаводны колгас імя Калініна (Лепель) | Паказаць, як будуюцца буйныя птушкаводныя гаспадаркі соцыялістычнага тыпу | Экспэд. | Лепельскі пэдтэхнікум і краязн. орган. | Колгас, Лепель | Сьнежань | Сакавік | |
| 4) Арцель „Комбайн" | Буйная сьвінагадоўч. фэрма | Экспэд. і стацыян. | Слуцкі пэдтэхнікум і брыгада колгасу | Колгас | Студзень | Красав к | |
| 5) Арцель „Чырвоны Пуцілавец" | „ | „ | Сеньненскае бюро кр-ва і брыгада колгасу | Колгас, Сянно | Сьнежань | Май | |
| 6) Комуна „Шлях селяніна" | Паказаць рост комуны, як выш. ступені колек. с. г. і клясавую барацьбу | „ | Мсьціслаўскі пэдтэхнік. і брыгада колгасу | Колгас | Студзень | Чэрвень | |
| 7) Комуна „Авангард" | Паказаць дасягненьні ў будаўн. соц. жывёлагад. гаспад. | „ | Мазырскі пэдтэхн., бюро кр-ва і брыгада комуны | Комуна Авангард | Сьнежань | Красавік | |
| 8) Яўрэйскі колгас | Паказаць як парт. і сав. ўлада вырашае пытан. нац. будаўн. | „ | Нацсэк. і адпавед. краязн. яч. | | Студзень | Чэрвень | |
| 9) Польскі колгас | „ | „ | „ | | „ | „ | |
| 10) Латыскі колгас | „ | „ | „ | „ | Студзень | Чэрвень | |
| V. Масавая навукова-дасьледчая работа к XV гадавіне Кастрычнікавай рэволюцыі | Паказаць дасягненьні і ролю ў соц будаўніцтве | Экспэд. і анкетны | Брыгада МС і ЦБК | У 5 раёнах | Студзень | Верасень | |
| VI. Клясавая барацьба на вёсцы | Формы і мэтоды супраціўленьня кулацтва ў колгасным будаўніцтве | Лябараторны | Серафімаў | ЦБК | Лістапад | Май | |
| VII. Соц.-экон. характарыстыка раёнаў: Койданаўск., Нараўлянск., Сураскага, Барысаўск., Віцебскага, Бабруйскага, Магілеўск., Гомельскага, Слуцкага, Мсьціслаўск., Менскага і Мазырскага | Даць малюнак вытворчых сіл раёну і разгорнутага соц. будаўніцтва | Экспэд. і стацыянарны | Раённыя бюро краязнаўства з удзелам ЦБК, Ін-таў эконом. і асьпір. | На мясцох | Студзень | Верасень | |

| Назва тэмы | Мэта | Мэтоды правядзеньня работы | Хто выконвае | Дзе выконваецца | Тэрмін выкананьня | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Пачатак | Канец | |
| VIII. Школьнае кр-ва ў тэорыі і практыцы савецкай школы | Выявіць і паказаць дасягненьні ў школьн. кр-ве. | Экспэд. і анкет. | Самцэвіч, Панкевіч, Кулакоў | Школы гор. Менску, Барысаву, Віцебску і 5 раёнаў | Сьнежань | Май | |
| IX. Краязнаўства і політэхнізацыя школы | Паказаць месца і ролю кр-ва ў політэхн. школы | | Ін-т пэдаг. і пэдалёгіі | | Сьнежань | Студзень | |
| X. Політэхнізац. школы Магілеўск. р. | Паказаць дасягнен. школ раёну ў справе пастаноўкі політэхнічнага выхаваньня | Экспэд. | Магілеўск. пэдінст. | Школы гор. Магілеву і раёну | Сьнежань | Люты | |

### III. Програмна-мэтодычная праца

*(Напісаньне падручнікаў, праграм і інструкцый):*

1. Падручнік па савецкаму краязнаўству для масавай школы і краязнаўчых ячэек—Серафімаў, Самцэвіч, Садоўскі (лістапад 1931 г.—люты 1932 г.).

2. Падручнік-хрэстоматыя для ВНУ і тэхнікумаў—Серафімаў, Самцэвіч, Садоўскі—(студзень 1931 г.—май 1932 г.).

3. Укласьці пуцяводнік для краязнаўчых экскурсій па БССР—Кулакоў, Самцэвіч (лістапад—сакавік).

4. Краязнаўчая бібліографія—Садоўскі, Бібіла (сьнежань—ліпень).

5. Програма па вывучаньню новых заводаў—Самцэвіч, Клімковіч (сьнежань—люты).

6. Програмы па вывучэньню МТС—НДІ соц. рэконструкцыі сельскай гаспадаркі (сьнежань—люты).

7. Краязнаўства ў вырашэньні проблемы соцыялістычнай рэконструкцыі жывелагадоўлі (сьнежань—люты).

8. Роля краязнаўчых організацый у пасеўнай кампаніі 1932 г.—Самцэвіч (люты).

9. Задачы краязнаўчых організацый у геолёг. дасьледваньнях—Геолёг. ін-т (сакавік).

10. Проблема апалу і задачы краязнаўчых організацый—Тарфяны, хэмічны і біолёгічны ін-ты (студзень—сакавік).

11. Вывучэньне дзікарастучых расьлін (у мэтах іх выкарыстаньня як тэхнічных і лекавых расьлін)—Інстытут біолёгіі (студзень—сакавік).

12. Мэтодыка ўкладаньня раённых карт—Ін-т экономікі (сьнежань—люты).

13. Роля краязнаўчых ячэек у колгасах саўгасах у падвышэньні ўраджайнасьці—Ін-т соц. рэконстр. с. г. (сьнежань—люты).

14. Краязнаўчыя комэнтары да новых програм масавай сямігадовай школы (ФЗС, ШКМ)—Брыгада ЦБК і Дзяржаўн. Вучонага Савету (студзень—люты).

15. Як організаваць вывучэньне колгасу, саўгасу, раёну сіламі школы—Серафімаў, Самцэвіч (сьнежань—люты).

16. Як організаваць школьны краязнаўчы музэй—Самцэвіч, Кулакоў і Сяўрук (сьнежань—студзень).

17. Програма-інструкцыя па вывучэньню політэхнізацыі школы—Ін-т пэдалёгіі і пэдагогікі (лістапад—студзень).

18. Роля школы ў ахове прыроды—Сэктар батанікі (сьнежань—студзень).

19. Краязнаўства і абарона краіны—брыгада ЦС ТДАвіяхэму і АБВШ (студзень—сакавік).

20. Дапаможнік па вывучэньню мясцовых рэлігій, сэктаў і мэтоды барацьбы з імі—Ін-т філёзофіі (студзень).

21. Дапаможнік па вывучэньню нац. пытаньня і асаблівасьцяў формаў клясавай барацьбы—Інстытут савецк. будаўніцтва і права (студзень--май).

22. Мэтодыка экономічнага вывучэньня раёну—Ін-т экон. (лістапад—сьнежань).

23. Роля масавых навукова-дасьледчых організацый у хэмізацыі сельск. гаспадаркі—Хэм. ін-т (сьнежань—люты).

24. Роля масавых навукова-дасьледчых організацый у вывучэньні захворваньняў жывёлы ў колгасах, саўгасах і фэрмах і барацьбе з імі—Ін-т біолёгіі (сьнежань—сакавік).

25. Інструкцыя-програма па вывучэньню шкоднікаў сельскае гаспадаркі (сьнежань—сакавік).

26. Програма-дапаможнік па вывучэньню глеб у колгасах і саўгасах для разьмяшчэньня с.-г. культур—Агро-глебавы ін-т (студзень—сакавік).

27. Дапаможнік па вывучэньню гісторыі пролетарыяту—Ін-т гісторыі (сьнежань—красавік).

28. Програма-інструкцыя па зьбіраньню і вывучэньню пасьлярэволюцыйнага фольклёру—Ін-т літар. (люты).

29. Програма-інструкцыя па вывучэньню пасьлярэволюцыйнага выяўленчага мастацтва—Ін-т літар. (люты).

30. Інструкцыя па вывучэньню мясцовых дыялектаў—Ін-т мовы (студзень—люты).

31. Інструкцыя па вывучэньню тэхнічнай тэрмінолёгіі—Ін-т мовы (студзень—люты).

## IV. Даклады.

Сярод рабочых заводаў, фабрык, колгасьнікаў, асьветнікаў, на конфэрэнцыях і курсах.

1. Асноўныя пытаньні савецкага краязнаўства (20 дакладаў, сьнежань 1931 г.).
2. Соцыялістычнае будаўніцтва і задачы масавай навукова-дасьледчай працы (20 дакладаў, сьнежань 1931 г.).
3. Задачы грамадзкіх організацый па вывучэньню гісторыі грамадзянскай вайны. (20 дакладаў, лістапад—май).
4. Задачы грамадзкіх організацый па вывучэньню гісторыі заводаў (20 дакладаў, лістапад—май).
5. Аўладаньне тэхнікай і краязнаўства. (20 дакладаў. На працягу ўсяго году).
6. Політэхнізацыя школы і краязнаўства (25 дакладаў, лістапад—верасень).
7. Пытаньне клясавай барацьбы на вёсцы—(15 дакладаў, сьнежань—май.)
8. Організацыя мас на вывучэньне прыродных вытворчых сіл раёну (20 дакладаў, лістапад—чэрвень).
9. Роля краязнаўчых організацый у складаньні сустрэчных комплексных плянаў раёну (20 дакладаў, лістапад—кастрычнік).
10. Роля краязнаўства ў падрыхтоўцы кадраў для дасьледчай работы (10 дакладаў, лістапад 1931 г.—сьнежань 1932 г.)
11. Удзел краязнаўчых організацый у веснавой пасеўнай кампаніі. (20 дакладаў, студзень—красавік).

Увага: Даклады будуць рабіцца навуковымі супрацоўнікамі МС і ЦБК, інстытутаў БАН, асьпірантамі і паасобнымі таварышамі на раёнах па спэцыяльнаму заданьню МС.

## V. Выдавецкая праца

1. Програмна-мэтодычны зборнік для масавай навукова-дасьледчай працы школ і краязнаўчых ячэек (сьнежань—студзень)—Садоўскі, Серафімаў, Самцэвіч—9-10 арк.
2. Пуцяводнік для масавых краязнаўчых экскурсій па БССР (лістапад—сакавік)—Самцэвіч, Кулакоў—2-3 арк.
3. Падручнік па савецкаму краязнаўству для масавай школы і краязнаўчых ячэек (люты)—Серафімаў, Садоўскі, Самцэвіч—3-4 аркушы.
4. Падручнік-хрэстоматыя для ВНУ і тэхнікумаў (студзень—май). Брыгада ЦБК і масавага сэктару—Серафімаў, Самцэвіч, Садоўскі—10-12 арк.
5. Зборнік мастацкай краязнаўчай літаратуры (люты—чэрвень)—6-7 арк.
6. Бібліографічны паказчык краязнаўчых выданьняў (сьнежань—верасень)—Садоўскі-Казак—5 арк.
7. Аб масавай навукова-дасьледчай працы—Серафімаў—1-2 арк.
8. Экономічны даведнік па раёнах БССР супольна з Дзяржплянам (студзень—верасень)—20 арк.
9. 9 монографій заводаў і фабрык:
   1. Завод імя Варашылава (сьнежань—чэрвень)—4 арк.
   2. Завод „Бальшавік" (сьнежань—люты)—4 арк.
   3. Фабрыка „Профінтэрн" у Віцебску (сьнежань—красавік)—4 арк.
   4. Цагельня № 1 у Менску (сьнежань—красавік)—2 арк.
   5. Шкляны завод у Гомелі (сьнежань—красавік)—3 арк.
   6. Панчошна-трыкотажная фабрыка ў Віцебску (сьнежань—май)—3 арк.
   7. Шаўковая фабрыка ў Магілеве (сьнежань—сакавік)—3 арк.
   8. Запалкавая фабрыка „Пролетарская Перамога" (сьнежань—красавік)—Стрыгуцкі і Самцэвіч—3-4 арк.
   9. Цэмантны завод у Крычаве (студзень—верасень)—3 арк.
10. Зборнік „Гісторыя заводаў БССР" (сьнежань—кастрычнік)—10 арк.
11. Програма вывучэньня новых заводаў (сьнежань—люты)—Самцэвіч і Клімковіч—0,5-1 арк.
12. 10 монографій комун, колгасаў, саўгасаў і МТС згодна пляну дасьледчай працы па $2^1/_2$ арк.
13. Програма-інструкцыя па вывучэньню МТС (сьнежань—люты)—НДІ імя Леніна—$^1/_2$ арк.
14. Краязнаўства і проблема соц. рэконструкцыі жывёлагадоўлі (студзень) — НДІ $1^1/_2$ арк.
15. Роля краязнаўчых організацый у пасяўной і ўборачнай кампаніях—Самцэвіч—0,5 арк.
16. Задачы краязнаўчых організацый у геолёг. дасьледван. (студзень)—$1^1/_2$ арк.
17. Проблема апалу і задачы краязнаўчых організацый (Тарфяны ін-т, Ін-т хэміі і біолёгіі) (люты)—1 арк.
18. Вывучэньне дзікарастучых расьлін (у мэтах іх выкарыстаньня як тэхнічных і лекавых расьлін) (Інстытут біолёгіі) (люты)—$1^1/_2$ арк.
19. Мэтодыка ўкладаньня раённых карт (Інстытут эконом. БАН) (студзень)—$1^1/_2$ арк.
20. Роля масавых дасьледчых організацый (краязнаўчых ячэек у колгасах і саўгасах) у падвышэньні ўраджайнасьці (сьнежань—люты)—НДІ Леніна—1 арк.
21. Пытаньні школьнага краязнаўства. Тэорыя і практыка—Самцэвіч, Панкевіч, Кулакоў (сьнежань—май)—3-4 арк.
22. Краязнаўчы комэнтарый да новых програм масавых школ, ФЗС і ШКМ. Бры-

гада МС, ЦБК і НМК (студзень—люты)—2 арк.

23. Краязнаўства і політэхнізацыя школы (Інстытут пэдалёгіі і пэдагогікі) (люты)—2 арк.

24. Як організаваць вывучэньне раёну сіламі школы.—Самцэвіч, Серафімаў (сьнежань—люты)—2 арк.

25. Як організаваць школьны краязнаўчы музэй (сьнежань—студзень)—Самцэвіч, Кулакоў, Сяўрук—1 арк.

26. Програма-інструкцыя па вывучэньню політэхнізацыі школы (Інстытут пэдагогікі) (лістапад—студзень),—0,75 арк.

27. Політэхнізацыя школ Магілеўскага раёну (студзень—красавік)—Магілеўскі пэдінстытут—2 арк.

28. Роля школы ў ахове прыроды (сьнежань—студзень)—Інстытут біолёгіі і сэктар батанікі—1 арк.

29. Масавая навукова-дасьледчая работа (краязнаўчая) і абарона краіны (лістапад—студзень)—Асоавіяхэм, АБВШ—2 арк.

30. Роля масавых навукова-дасьледчых організацый у хэмізацыі сельскай гаспадаркі (сьнежань—люты)—Хэмічны ін-т.—1 арк.

31. Роля масавых навукова-дасьледчых організацый у вывучэньні захворваньня жывёлы ў колгасах, савгасах і фэрмах і барацьба з ім (сьнежань—сакавік)—Інстытут біолёгіі—1 арк.

32. Інструкцыя-програма па вывучэньрю школьнікаў сельскае гаспадаркі (студзень—сакавік)—Інстытут біолёгіі—0,5 арк.

33. Програма-дапаможнік па вывучэньню глеб у колгасах і савгасах для разьмяшчэньня сельскагаспадарчых культур (студзень—сакавік),—Інстытут глебазнаўства—1 арк.

34. Дапаможнік па вывучэньню гісторыі пролетарыяту (сьнежань—красавік).—Інстытут гісторыі—1 арк.

35. Програма-інструкцыя па зьбіраньню савецкага фольклёру (люты).—Інстытут мовы—1 арк.

36. Інструкцыя па вывучэньню пасьлярэволюцыйнага выяўленчага мастацтва (люты)—Інстытут мастац.—0,5 арк.

37. Програма-інструкцыя па вывучэньню мясцовых дыялектаў (студзень—люты) —Інстытут мовы—$1^1/_2$ арк.

38. Інструкцыя па вывучэньню тэхнічнай тэрмінолёгіі—Ін-т мовы (студзень —люта) —0,5 арк.

39. 12 нумароў часопісу „Савецкая Краіна" па 6 аркушоў.

## Разгарнуць масавую навукова-дасьледчую работу

Для плянаваньня, опэрацыйнага кіраўніцтва і ўчоту масавай навукова-дасьледчай работы ў Беларускай Акадэміі Навук організаваны Масавы сэктар. Сэктар ужо прыступіў да работы. Выпрацаваны конкрэтны плян работы па масавай навукова-дасьледчай і краязнаўчай рабоце на 1932 год. Плянам прадугледжана масавая навукова-дасьледчая работа як Цэнтральнага Бюро Краязнаўства, так паасобных інстытутаў і сэктароў БАН, а таксама і іншых навукова-дасьледчых устаноў і організацый.

На працягу 1932 году па лініі Масавага сэктару БАН намячаецца прачытаць да 500 дакладаў і лекцый у клюбах рабочых, на сходах колгасьнікаў, у савгасах, МТС, на асьветніцкіх конфэрэнцыях і на сходах савецкага актыву. Тэмы дакладаў і лекцый прадугледжваюць актуальныя пытаньні соцыялістычнага будаўніцтва і задачы пролетарскай навукі. Рад навукова-популярных дакладаў Сэктарам намечаны да перадачы па радыё. У буйных гарадох і раённых цэнтрах організуюцца курсы-сэмінары для падрыхтоўкі організатараў і кіраўнікоў па масавай навукова-дасьледчай і краязнаўчай рабоце сярод рабочых фабрык і заводаў, колгасьнікаў, савгасьнікаў, рабочых МТС і савецкага актыву. Такія курсы адчыняюцца ў Менску 25 лістапада г/г. для рабочых прадпрыемстваў г. Менску.

Кожнаму раёну Масавым сэктарам даны конкрэтныя заданьні па разгортваньню масавай навукова-дасьледчай і краязнаўчай работы, з паказаньнем пэўных тэм, об'ектаў працы і вызначэньнем адказных за організацыю і выкананьне работы.

Намечана выданьне цэлага раду брошур, програм, інструкцый і лістовак па пытаньням разгортваньня масавай навукова-дасьледчай і краязнаўчай работы, разьлічаных на масавага чытача ў сэнсе дапамогі яму па ўключэньню ў актыўную навукова-дасьледчую работу. Масавым сэктарам і ЦБК ужо выданы наступныя брошуры: „Вывучай гісторыю грамадзянскай вайны", „Вывучай гісторыю заводаў", „Экскурсія на завод" на беларускай і яўрэйскай мовах. Друкуюцца і ў хуткім часе выйдуць—„Краязнаўчае вывучэньне організацыі працы ў колгасах", „Эканомічныя нарысы раёнаў і іх мэтодолёгія" „Пытаньні масавай навукова-дасьледчай работы". Надрукаваныя брошуры, а таксама цэлы рад іншых програм як: програма па вывучэньню колгасу, фабрыкі і заводу, раёну, санітарнага стану колгасу, па вывучэньню глебы і іншыя дасланы раённым бюро краязнаўства, прадаюцца ў кнігарнях і бібліотэцы БАН. Намечаны рад выездаў акадэмікаў, навуковых працаўнікоў БАН у раёны на фабрыкі, заводы, у савгасы, МТС і колгасы для чытаньня лекцый, дакладаў і організацыі краязнаўчых ячэек, якія павінны стаць організатарамі масавай навукова-дасьледчай работы на мясцох.

Усім райвыканкомам і раённым бюро краязнаўства ад імя БАН дасланы адносіны аб разгортваньні масавай навукова-дасьледчай і краязнаўчай работы на мясцох.

На раённыя бюро краязнаўства, як цэнтры па разгортваньню масавай навукова-дасьледчай работы, ускладаюцца вялікія і адказныя задачы, у сувязі з чым раённым партыйным, савецкім і профсаюзным організацыям неаб-

ходна безадкладна ўзмацніць кіруючы склад раённых бюро краязнаўства клясава-вытрыманымі працаўнікамі, вызваліўшы іх ад іншых грамадзкіх абавязкаў, і наогул узмацніць кіраўніцтва работаю бюро, заслухоўваючы пляны працы, справаздачы; даючы ім мэтавыя заданьні і аказваючы матар'яльную дапамогу.

Там, дзе яшчэ раённыя бюро краязнаўства не арганізаваны, трэба зараз-жа прыступіць да арганізацыі іх.

Праз часопіс „Савецкая Краіна"—штомесячны орган ЦБК БАН—будзе праводзіцца абмен практыкаю работы паміж асобнымі краязнаўчымі арганізацыямі, будуць зьмяшчацца ў ім працы мясцовых краязнаўцаў, давацца адказы на пытаньні і іншае.

Неабходна дабіцца таго, каб „Савецкая Краіна" выпісвалася кожным раённым бюро краязнаўства, савецкімі, профсаюзнымі, кооперацыйнымі органамі, кожным прадпрыемствам, колгасам, саўгасам, школамі, хатамі-чытальнямі і інш. Гэтая работа, работа па распаўсюджваньню „Савецкай Краіны"—першая і неадкладная задача раённых бюро краязнаўства.

Частка раённых краязнаўчых арганізацый ужо дабілася значных вынікаў у гэтай справе. Бягомльскае і Асьвейскае раённыя бюро краязнаўства ўжо сабралі значную падпіску на 1932 год. Неабходна астатнім бюро краязнаўства пасьледваць прыкладу Бягомльскага і Асьвейскага бюро.

Трэба разгарнуць соцспаборніцтва і ўдарніцтва паміж асобнымі краязнаўчымі бюро і ячэйкамі як па збору падпіскі на часопіс „Савецкая Краіна", так і наогул у разгортваньні масавай навукова-дасьледчай работы.

## Краязнаўчая праца на мясцох

У цэлым шэрагу раёнаў у апошні час прыкмячаецца ажыўленьне краязнаўчай працы. Прэзыдыум Тураўскага райвыканкому заслухаў на сваім пасяджэньні справаздачу раённага бюро краязнаўства і вынес рад практычных прапаноў аб узмацненьні краязнаўчай працы, у напрамку арганізацыі краязнаўчых ячэек у колгасах, саўгасах, МТС і пры школах і мобілізацыі іх на вывучэньне актуальных пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва ў раёне.

У Тураве прыступілі да абсталяваньня краязнаўчага політэхнічнага музэю. Тураўскім Райінспэктарыятам нарасьветы і Раймэтбюро даны конкрэтныя краязнаўчыя паказаньні школам аб разгортваньні краязнаўчай працы і намечана пэрыодычнае заслухоўваньне на пасяджэньні Раймэтбюро справаздач школ аб краязнаўчай працы.

У Койданаўскім раёне для арганізацыі краязнаўчай працы вылучана камісія ў складзе пяці асоб, якая прыступіла да практычнай працы па разгортваньню краязнаўчага руху ў раёне.

Слуцкае раённае бюро краязнаўства зараз працуе над зьбіраньнем і апрацоўкаю матар'ялаў, для экскурсійнага пуцяводніка па БССР. У пачатку сьнежня мяркуецца правесьці ў Слуцку раённую краязнаўчую конфэрэнцыю, на якой ставяцца пытаньні: 1) аб стане і чарговых задачах масавай навукова-дасьледчай і краязнаўчай працы ў раёне, 2) выбары праўленьня бюро і рэвізкамісіі і 3) рознае.

У Сіроцінскім раёне організавана і прыступіла да працы краязнаўчая ячэйка пры Шумілінскай ШКМ, якая зараз вывучае становішча колгасу, да якога прымацавана ШКМ.

Чашніцкае раённае бюро краязнаўства вывучае прыродныя багацьці раёну, у мэтах скарыстаньня іх для соцыялістычнага будаўніцтва ў раёне.

Настаўнік Самахвалавіцкай ШКМ т. Ламака абвясьціў сябе ўдарнікам па разгортваньню краязнаўчай працы і ўжо організаваў краязнаўчую ячэйку пры Самахвалавіцкай ШКМ з 90 асоб. Ячэйка прыступіла да практычнай працы.

У Талочынскім і Пухавіцкім раёнах вылучаны часовыя раённыя бюро краязнаўства, якія прыступілі да разгортваньня краязнаўчай працы ў раёнах.

Сеньненскае раённае бюро краязнаўства сабрала значны матар'ял па вывучэньню прыродных багацьцяў раёну. Матар'ялы апрацоўваюцца і часткова будуць зьмешчаны ў адным з чарговых нумароў „Савецкай Краіны".

Побач з гэтым трэба адзначыць, што значная частка раёнаў да гэтага часу нічога ня робіць у напрамку разгортваньня краязнаўчай працы і нават ня хочуць адказваць на неаднаразовыя запытаньні Масавага сэктару і ЦБК аб стане краязнаўчай працы ў раёнах. Да такіх раёнаў трэба аднесьці Барысаўскі, Гомельскі, Аршанскі, Віцебскі, Бабруйскі, Мозырскі, Мсьціслаўскі, Быхаўскі, Шклоўскі, Горацкі і іншыя.

У Горацкім раёне, як паведамляе былы старшыня раённага краязнаўчага бюро т. Салаўёў, краязнаўчай працы зусім няма. Заходы, якія прымаліся ім да разгортваньня краязнаўчай працы ў раёне, не знайшлі падтрыманьня ні з боку раённых устаноў і організацый, ні з боку Райінспэктуры нарасьветы, хаця апошняя і мае абежнік НКА БССР ад 25/VIII г. г., у якім яскрава адзначаны абавязкі Райінспэктуры і культасьветных устаноў у справе разгортваньня краязнаўчай працы.

Такія адносіны трэба разглядаць як недаацэнку савецкага краязнаўства — „формы ўдзелу шырокіх працоўных мас у соцыялістычным будаўніцтве", праз разгортваньне масавай навукова-дасьледчай працы і ўцягненьне ў гэтую працу непасрэдных будаўнікоў соцыялістычнага грамадзтва—рабочых, колгасьнікаў, батракоў, беднякоў, сераднякоў, працоўную моладзь, вучнёўства, працоўную і савецкую інтэлігенцыю.

Неабходна ўстановам і організацыям вышэйпералічаных раёнаў неадкладна ўзяцца за выкананьне дырэктыў партыйных, савецкіх і профсаюзных організацый у справе разгортваньня краязнаўчага руху.

## Дабіцца рашучага пералому ў краязнаўчай працы

Соцыялізм можна будаваць толькі на аснове навукі і выкарыстаньня навейшай тэхнікі. Партыя і савецкая ўлада надаюць надзвычайна вялікае значэньне разьвіцьцю навуковадасьледчае працы і тэхнікі ў Савецкім саюзе. З кожным годам расьце ў нас лік навуковадасьледчых установ і організацый, работа якіх цесна ўвязана і падпарадкваецца задачам соцыялістычнага будаўніцтва. Але на сучасным этапе разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва, як зазначана ў адозьве ЦК УсеКП(б) ад 13/XI-30 г., адны дзяржаўныя навукова-дасьледчыя ўстановы ня змогуць выканаць тых вялізарных задач, якія стаяць перад імі, калі да навукова-дасьледчае працы ня будуць прыцягнуты шырокія працоўныя масы. Аднэй з форм такога ўдзелу працоўных мас ў навукова-дасьледчай працы зьяўляецца краязнаўчая праца. Значэньне краязнаўчай працы для соцыялістычнага будаўніцтва адзначана ў шэрагу документаў партыйных, дзяржаўных, профсаюзных кіруючых організацый і ўстаноў. Аднак, у цэлым шэрагу раёнаў мы бачым відавочную недаацэнку краязнаўчай працы і поўнае ігнараваньне дырэктыў вышэйшых установ і організацый ў справе разгортваньня краязнаўчага руху.

У Барысаўскім раёне, напр., мы бачым паўнейшы заняпад краязнаўчае працы. Ні ў горадзе, ні ў раёне няма ніаднае працаздольнае краязнаўчае ячэйкі. Краязнаўчая праца зусім не популярызавана на фабрыках і заводах, у колгасах, савгасах, школах, сярод гаспадарнікаў, профсаюзных організацый і інш. Ні адна раённая організацыя не дапамагла і не дапамагае разгортваньню краязнаўчага руху, як масавага навукова-дасьледчага руху, так патрэбнага для пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва. Райпрофсавет стаіць у баку ад гэтае справы і ня цікавіцца разгортваньнем масавай дасьледчай працы. Раённай інспэктурай нічога ня зроблена для выкананьня дырэктывы па разгортваньню школьнага краязнаўства, па школах не разасланы нават высланыя для школ матар'ялы. Раённы Выканаўчы Камітэт, які мог-бы выкарыстоўваць краязнаўчыя організацыі ў мэтах вывучэньня раёну, яго вытворчых сіл, экономікі і культуры, а таксама і ў мэтах складаньня комплекснага раённага пляну, не дапамог разгортваньню і ўзмацненьню краязнаўчае працы ў раёне. Мясцовы друк таксама не ўдзяляў увагі масавай дасьледчай (краязнаўчай) працы і не мобілізаваў грамадзкасьць навакол разгортваньня гэтай працы. У выніку гэтага і ў выніку бязьдзейнасьці Раённага бюро краязнаўства музэй выселен з таго памяшканьня, якое ён займаў, а новага ня мае. Такое становішча, бязумоўна, зьяўляецца недапушчальным.

Мясцовыя організацыі і ўстановы павінны дабіцца рашучага пералому ў разгортваньні краязнаўчага руху ў раёне, падпарадкаваўшы ўсю працу краязнаўчых організацый задачам соцыялістычнага будаўніцтва (вывучэньне прамысловасьці, колгаснага будаўніцтва, павялічэньне ўраджайнасьці, разьвіцьця жывёлагадоўлі, культурнага будаўніцтва і г. д.). Трэба шырока разгарнуць популярызацыйную і організацыйную працу, організаваць ячэйкі па прадрыемствах, у колгасах, пры школах, вызначыць конкрэтныя заданьні для кожнай організацыі, забясьпечыць увязку масавай дасьледчай працы з гаспадарчым плянам адпаведных установ і дабіцца поўнай рэалізацыі гэтых плянаў прыцягваючы да адпаведнай адказнасьці тых асоб, якія зрываюць працу і тармазяць разьвіцьцё масавага дасьледчага руху.

В. С.

## Уключыцца ў дасьледчы турыстычны паход 1932 году

Пролетарскі турыстычны рух, які цалкам падпарадкаваны задачам соцбудаўніцтва, задачам выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады і ўзмацненьня абароназдольнасьці нашай краіны, які шляхам падарожжаў, экскурсій, вылазак, паходаў і інш. супраўды садзейнічае падвышэньню політычнага, вытворчага і культурнага пад'ёму шырокіх мас рабочых і працоўных, сапраўды зьяўляецца аднэй з формаў культурнай рэволюцыі.

Адным з мерапрыемстваў пролетарскіх турыстаў зьяўляецца дасьледчы паход, які ва ўсесаюзным маштабе разгарнуўся і ахапіў сотні і тысячы пролетарскіх турыстаў, якія ўжо перадалі сотні прапаноў адпаведным вышэйшым установам для дэталёвага вывучэньня. Пра дасьледчы паход, аб яго задачах і зьмесьце акад. Фэрсман сказаў: „Дасьледчы паход турыстаў зьявіцца каштоўнай масавай дапамогай у вырашэньні такой вялікай проблемы, як вывучэньне вытворчых сіл, вышуканьне крыніц сыравіны і ў той-жа час гэты паход будзе карысным у справе падрыхтоўкі пролетарскіх кадраў для навукова-дасьледчай работы“.

Організацыі Таварыства пролетарскага турызму і экскурсій БССР яшчэ ня ўключыліся ў гэты паход і зараз, калі мы вядзем падрыхтоўчую работу да наступнага дасьледчага году, калі мы складаем плян ахопу шырокіх мас турыстаў гэтым паходам, трэба каб краязнаўчыя організацыі дапамаглі ў складаньні пляну об'ектаў вышуканьня па БССР і організацыі конкрэтнай супольнай работы па правядзеньню гэтага паходу.

Пролетарскія турыстычныя організацыі ўжо давялі сваю зацікаўленасьць паходам у гэтым першым годзе і з дапамогаю наву-

ковых сіл змаглі дабіцца некаторых вынікаў. У далейшым трэба лепш падрыхтавацца да наступнага дасьледчага году. Краязнаўчыя організацыі і навуковыя работнікі павінны дапамагчы організацыям пролетарскага турызму і экскурсій ў падрыхтоўцы да дасьледчай работы на 1932 год.

Намесьнік старшыні беларускага рэспубліканскага савету Т-ва П. Т. Э.

Мерковіч.

## У інстытутах і сэктарох БАН

У мэтах вывучэньня гаворак рабочых, колгасьнікаў, бядняцка-серадняцкага сялянства і мовы органаў савецкага друку Інстытут мовазнаўства распрацаваў і выдаў „Анкету для зьбіраньня матар'ялаў па беларускай мове". Анкета дасылаецца раённым краязнаўчым бюро і краязнаўчым ячэйкам на прадпрыемствах, у колгасах, саўгасах, МТС і школах для організацыі працы па зьбіраньню патрэбных матар'ялаў. Зьбіраньне гэтых матар'ялаў мае надзвычайна вялікае значэньне, бо на падставе іх прыдзецца вырашаць спрэчныя пытаньні беларускага правапісу і ўстанавіць нормы літаратурнай беларускай мовы і тэрмінолёгіі, якія-б цалкам адпавядалі нашаму соцыялістычнаму будаўніцтву.

Выходзячы з гэтае важнасьці, краязнаўчыя організацыі павінны з усёю сур'ёзнасьцю неадкладна ўзяцца за працу па зьбіраньню матар'ялаў паводле анкеты, прыцягнуўшы да гэтае працы шырокія колы працоўных мас, настаўніцтва, студэнтаў, вучняў, працаўнікоў друку і іншых, разгарнуўшы паміж імі соцспаборніцтва і ўдарніцтва на лепшае і хутчэйшае выкананьне гэтае працы.

У сьнежні м-цы г/г. Інстытут мовазнаўства высоўвае на шырокае абгаварэньне проект беларускага правапісу. Інстытутам мовазнаўства ўкладзены і зданы ў друк „Бібліографічны паказчык прац па мовазнаўству", выдадзеных у БССР з пачатку Кастрычнікавай рэволюцыі—з крытыкай вялікадзяржаўніцкіх і нацдэмаўскіх тэорый у пытаньнях мовазнаўства.

———

Інстытут экономікі БАН прыступіў да распрацоўкі проблемы „Асновы вытворчай спэцыялізацыі БССР". У распрацоўцы прымаюць удзел брыгады Інстытуту філёзофіі БАН, Навукова-дасьледчага інстытуту прамысловасьці і Інстытуту рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Брыгадай супрацоўнікаў Інстытуту экономікі рыхтуецца да друку падручнік па экономгеографіі БССР (для вузаў і тэхнікумаў).

———

Яўрэйскім сэктарам БАН разам з нацкамісіяй ЦВК БССР на працягу бягучага году абсьледавана 13 местачковых і гарадзкіх пунктаў БССР (Сянно, Чэрвень, Дрыса, Сьмілавічы, Узда, Тураў, Нароўля, Краснапольле, Чашнікі, Лапічы, Падабранка, Асьвея і Карма). Мэтай абсьледваньня зьяўлялася вывучэньне політыка-экономічнага і культурнага стану мястэчак у рэконструкцыйны пэрыод. У выніку абсьледваньня сабраны багаты матар'ял, які часткова апрацаваны і зданы ў друк. Апрацоўка матар'ялаў працягваецца.

Па лініі яўрэйскага сэктару скончана апрацоўка і ў хуткім часе выходзіць з друку „Яўрэйскі дыялектолёгічны атлас", з 75 дыялектолёгічнымі картамі.

———

Інстытутам геолёгіі БАН у выніку правядзеньня геолёгічных досьледаў у часе экспэдыцый знойдзены бурыя жалезьнякі ў Брагінскім, Лоеўскім, Нараўлянскім і іншых раёнах БССР. Па папярэднім падлікам запасы жалезьнякоў вызначаюцца ў дзесятках мільёнаў пудоў, пры наяўнасьці жалеза ад 30 да 50 проц.

———

У Жлобінскім і Буда-Кашалеўскім раёнедзе і зараз праводзяцца геолёгічныя дасьледваньні, вынайдзена: глін розных — 31 месцараджэньне, суглінкаў—2, гравію—2, пяскоў, якія ўпаўне годны для будаўнічых мэт—2, бурых жалезьнякоў—15, крэйды—2, маргелю—1. Дасьледваньне і вывучэньне працягваецца.

———

Інстытутам геолёгіі зданы ў друк V том прац (геолёгія, гідраолёгія і карысныя выкапні БССР).

———

Інстытут савецкага будаўніцтва і права БАН улетку бягучага году прымаў удзел у правядзеньні комплекснай экспэдыцыі ў Койданаўскі раён, дзе ім праведзена праца па вывучэньню працы сельсаветаў у сувязі з масавай колектывізацыяй. Матар'ялы, сабраныя экспэдыцыяй, апрацоўваюцца і ў сьнежні г/г. будуць зданы ў друк.

Інстытутам сав. будаўніцтва і права перакладзены на беларускую мову курс „Савецкага грамадзянскага права" — Стучкі.

Гэтая праца неабходна для судовых працаўнікоў і студэнцтва. Кніжка друкуецца БДВ і ў хуткім часе выйдзе з друку.

———

Інстытутам біолёгіі БАН летам бягучага году праведзена экспэдыцыйнае вывучэньне і дасьледваньне заражонасьці глістамі жывёлы і людзей у сьвінаводчых гаспадарках Случчыны.

Вынікі вывучэньня паказалі, што ў асобных выпадках заражонасьць глістамі дасягае 80 проц.

Вялікая праца інстытутам праводзіцца па вывучэньню культуры сої ў БССР. Досьледы паказваюць на магчымасьць разводзіць сою пры кліматычных умовах БССР.

———

ЦБК улетку бягучага году праведзена ўсебаковае вывучэньне Дняпроўскай комуны

Лоеўскага раёну. Матар'ялы па вывучэньню ўжо апрацаваны і будуць у хуткім часе надрукаваны.

---

Масавы сэктар БАН зьвярнуўся з адносінамі да ўсіх райвыканкомаў і горсаветаў з просьбай паставіць на чарговым паседжаньні прэзыдыуму пытаньне аб стане і задачах масавай навукова-дасьледчай і краязнаўчай працы ў раёне, загадзя праверыўшы праз асобныя камісіі і брыгады працу раённага бюро краязнаўства і краязнаўчых ячэек.

У сьнежні м-цы б/г. па лініі масавага эктару будзе праведзена абсьледваньне маавай навукова-дасьледчай і краязнаўчай працы ў наступных раёнах: Рэчыцкім, Гомельскім, Церахоўскім, Уваравіцкім, Буда-Кашалеўскім, Смалявіцкім і Койданаўскім.

---

Масавым сэктарам праводзіцца падрыхтоўчая праца да скліканьня ў пачатку наступнага году Усебеларускага зьезду па масавай навукова-дасьледчай і краязнаўчай працы.

Рэдакцыя часопісу „Савецкая Краіна" зьвярнулася да ўсіх кнігарань БССР з просьбай прыняць удзел у распаўсюджваньні „Савецкай Краіны" на выгодных для кнігарняў умовах.




Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук.



Друкарня БАН. Галоўлітбел № 2653. Заказ № 734. Тыраж 1000 экз. 5¼ арк.

# Зьмест



## Афіцыйны аддзел



## Хроніка

